



# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

27 КРАСАВІКА 2001г. № 17/4101 КОШТ 124 РУБ.






Мікола МЯТЛІЦКІ

## Зажураны пагляд

*Неба смужнае села на лес.*
*Пазіраю ў той горкі бок,*
*Дзе праклятая светам ЧАЭС*
*Жах звіла у змяіны клубок.*

*Пазіраю з таго двара,*
*Што без крокаў даўно астыг,*
*Дзе маленства майго пара*
*Ўсхліпне пошугам злых вятрыг.*

*Ці ж я думаў, ступіўшы ў свет,*
*Што на першай зямной вярсце*
*Страты чорнае гарыцвет*
*Так жахотліва парасце?*

*Што з парога падасца мне*
*Самым страшным маленства лес?*
*Што спалошліва скалане*
*Ў раз каторы душу ЧАЭС?*

*Дзе вы сёння, вяскоўцы, дзе?*
*Як глухотна між вашых сцен,*
*Паглынаючы зыркі дзень,*
*Мёртва дыхае часу тлен.*

*Вы прыходзіце зрэдзь сюды,*
*Як хадзілі калісьці ў клець, —*
*Ацаніць ураджай бяды,*
*Што не можа ніяк сатлець.*



# КОЛА ДЗЁН

***Галоўным днём тыдня стаў, безумоўна, дзень учарашні — 26 красавіка. Дзень чарнобыльскай трагедыі. Дзень, які падзяліў наша жыццё на "да" і "пасля" яе. Адбылася яна 15 гадоў назад. Даўно? Нібыта даўно. За гэткі час дзіця становіцца амаль дарослым чалавекам. Ды характар гэтай самай страшнай бяды, якая напаткала наш народ, такі, што пятнаццаць гадоў — гэта і зусім мала. Наступствы Чарнобыля мінуцца вельмі і вельмі няскора. Яны цалкам наўрад ці мінуцца калі-небудзь наогул. Яны за гэтыя гады не толькі не зменшыліся, а, бадай, пашырыліся і абвастрыліся, пачалі праяўляцца больш выразна і больш жахліва. Нашаму народу давядзецца яшчэ многія гады несці цяжкі крыж чарнобыльскай галгофы. Мы, безумоўна, выжывем, адолеем гэтую чорную навалу, але — якім коштам? Самае ж страшнае, што нават і яна не згуртавала нас, не з'яднала ў адзін нацыянальна-свядомы маналіт — Беларускі народ. І ў выніку нас падточваюць, раз'ядаюць, высмоктваюць жыццёвыя сілы іншыя чарнобылі — амаль нулявая нацыянальная свядомасць, гістарычнае беспамяцтва, ігнараванне, нават пагарда да роднай мовы, абыякавасць да ўласнага лёсу і лёсаў дзяцей і ўнукаў, да багацця і красы роднай зямлі, усё большая беднасць і галеча, беспрасветнасць і бесперспектыўнасць, п'янства і наркаманія, распуста і разгул злачыннасці. У такім стане як жа нам адолець тое, што прынёс сапраўдны, тэхнагенны Чарнобыль?***

***Магутны Божа, Уладар Сусветаў, чаму ж Ты пакінуў нас самнасам з гэтаю жахліваю бядою?***

## ПАМІНКІ ТЫДНЯ

Што б там ні гаварылі пра колішні Вярхоўны Савет першых гадоў незалежнасці Беларусі, а зрабіў ён і нямала карыснага. Адно з ягоных важных рашэнняў — вяртанне нашаму народу святочнага дня Радаўніцы. Дзень гэты зараз ці не самы светлы ў нялёгкім жыцці нашых людзей. Дзень памінання продкаў, дзень яднання мёртвых і жывых. А найперш, можа быць, дзень яднання якраз жывых.

Раскіданыя па свеце ў выніку розных камуністычных доследаў і эксперыментаў, а ў дадатак і Чарнобылем, нашы людзі акурат на Радаўніцу страчаюцца ля родных магіл, і на кладах у гэты дзень мо менш плачу па памерлых, а больш радасці ад спатканняў блізкіх і далёкіх сваякоў, аднавяскоўцаў і суседзяў. Гэтак было паўсюль на Беларусі, на вялікіх і малых могілках і ў аўторак, на Радаўніцу...

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

У мінулую суботу споўнілася 80 гадоў "Чырвонай змене", адной са старэйшых нашых газет. Няхай сабе мы сёння кажам пра тыя гады з прымешкам гарчэчы і іроніі (маўляў, "быў час, быў век, была эпоха"), аднак жа было ў іх, тых гадах, і нямала светлага, і сярод яго — "Чырвоная змена", газета юнакоў і дзяўчат маладой Беларусі, выхавацельна паэтаў і празаікаў, патрыётаў Бацькаўшчыны. "Чырвонка" і сёння робіць тую ж справу, ды, на жаль, зараз ёй, у паважаным сталым веку, не лягчэй, а, бадай, цяжэй, чым у маладосці. Сітуацыя ў краіне такая, што няма ў моладзі аніякіх стымулаў гарнуцца, любіць і шанаваць роднае слова, а менавіта з ім звязтаецца да яе шаноўная юбілярка. Трымайцеся, чырвонаменаўцы! Загляне сонца і ў наша ваконца!

## ПЕРАМОЖЦЫ ТЫДНЯ

Вызначаны пераможцы спаборніцтва за дасягненне найлепшых вынікаў у выкананні паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця з занясеннем іх на Рэспубліканскую дошку Гонару. Сярод іх — гарады і раёны (скажам, горад Слуцк, Першамайскі раён сталіцы і Ленінскі раён Магілёва), прадпрыемствы, будаўнічыя трэсты, транспартныя прадпрыемствы, установы сувязі і пошты, магазіны, агракамбінат, птушкафабрыка, калгас, эксперыментальная база і г. д. — усяго больш за два дзесяткі. Занясенне на дошку Гонару — гэта, гавораць, форма грамадскага прызнання і маральнага заахвочвання. Што ж, можа, й так. Толькі вось ці дзейсная гэтая форма? Узнікла яна не сёння, яна — працяг даўняй савецкай традыцыі, плён якой ужо й тады, за савецкім часам, выклікаў вялікія сумненні...

## ЗАПРОСІНЫ ТЫДНЯ

Дзень адчыненых дзвярэй пройдзе ў нядзелю, 29 красавіка, у Мінскім суворауўскім вайсковым вучылішчы. У гэты дзень адбудуцца сустрэчы з кіраўнічым і афіцэрска-выкладчыцкім саставам, азнаямленне з навучальна-матэрыяльнай базай, жылымі памяшканнямі і тэрыторыяй вучылішча, наведанне музея гісторыі СВВ. Звычная, цягам многіх гадоў знаёмая ўсім нам падзея. Настолькі звычная, што мы нават і сёння, жывучы ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь, не надта задумваемся: а чаму — суворауўскае? Дзесяць гадоў жывём у сваёй уласнай дзяржаве, а ўсё яшчэ быццам не ўсведамляем гэтага і паводзім сябе гэтак, нібы чакаем, няйнакш, нейкае адкруткі назад...

## ПАРОМ ТЫДНЯ

Гарынь — рэчка не надта вялікая, ды наравістая, з гэтае прычыны найперш, бадай, і вядомая. Аднак жа яна не такая й малая, і клопату людзям, што жывуць на яе берагах, прынесціь не толькі ў час паводак. Скажам, жыхарам вёскі Белавуша Столінскага раёна, ад якіх Гарынь адрэзала сенажаці і пашы. Як на другі бераг патрапіць, калі няма моста? Шмат гадоў пакутавалі праз гэта белавушаўцы, а сёлета дадумаліся: сабралі з кожнага двара грашовы ўнёсак і купілі паромную пераправу. Раней гэткім жа чынам паступілі і жыхары вёскі Манькавічы. І правільна, трэба сказаць, зрабілі. Акурат гэтак і рабілі нашы продкі здаўна: талакою, ускладчыну адольвалі агульныя клопаты і турботы. За савецкім часам адвучыліся, прывыклі на нейкага добрага дзядзьку спадзявацца, а вось зараз зноў прыгадалі добры вопыт бацькоў і дзядоў...

## ФРАНКАФОНЫ ТЫДНЯ

У сераду ў Мінскім Палацы дзяцей і моладзі адкрыўся восьмы па ліку фестываль франкафонных аматарскіх тэатраў. З дапамогаю пасольства Францыі ладзіцца такі вось конкурс для студэнтаў і школьнікаў, якія вывучаюць французскую мову. У цяперашнім фестывалі бяруць удзел 24 тэатральныя калектывы з розных навучальных устаноў краіны. Здорава, ці няпраўда? Можна толькі парадавацца за нашых дзяцей. Памяць падказвае: сапраўдныя нашчадкі слаўных беларускіх шляхетных родаў! Але радасць гэтая тут жа азмрочваецца іншаю згадкаю-думкаю: а ці збярэцца 24 тэатральныя беларускамоўныя калектывы з усіх школ і ВНУ Беларусі? Ой, наўрад!

## УЛАСНАСЦЬ ТЫДНЯ

Учора ўпершыню адзначаўся Міжнародны дзень інтэлектуальнай уласнасці, дэвіз якога — "Будучыня ствараецца ўжо сёння". Не забылі на яго і ў Беларусі. І нездарма. Наша краіна стала ўдзельніцай Бернскай канвенцыі па ахове літаратурных і мастацкіх твораў, яна ратыфікавала Дамовы Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці па аўтарскім праве і па выканальніцтвах і фанаграмах. Гэтыя пагадненні забяспечваюць ахову правоў нашых творцаў у многіх краінах свету. Карацей, Беларусь памалу ўсё ж узыходзіць на свой "пачэсны пасад між народамі".

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Напярэдадні з'езда ў Саюз пачаступаюць справаздачы аб рабоце абласных аддзяленняў. У прыватнасці, як паведаміў сакратар Магілёўскага абласнога аддзялення СБП У. Дуктаў, з 1998 года выйшлі з друку кнігі магіляўчан Васіля Карпечанкі, Васіля Рагаўцова, Віктара Кунцэвіча, Міколы Лук'янава, Івана Пехцерава, Ніны Кавалёвай, Уладзіміра Дуктава, Аляксандра Мельнікава. У выдавецтве Беллітфонду падрыхтавана да друку кніга вершаў паэта з вёскі Чарняўка Хоцімскага раёна Міхаіла Карпечанкі.

Прайшлі творчыя вечарыны Івана Аношкіна, Міколы Лук'янава, Васіля Карпечанкі, Яраслава Клімуця і іншых.

Штогод сумесна з органамі адукацыі вобласці праводзяцца раённыя семінары юных паэтаў і празаікаў. Традыцыйнымі сталі конкурсы на лепшы верш пра Магілёў, якія праводзяцца сумесна з Магілёўскім гарвыканкамам. На Магілёўшчыне другі раз запар праведзены конкурс на лепшы твор у галіне літаратуры, журналістыкі, выдавецкай і сцэнарнай дзейнасці.

Пісьменнікі ўдзяляюць у працы літаб'яднанняў, аказваюць ім дзейсную творчую дапамогу.

●

Сталі традыцыйныя сумесныя мерапрыемствы Саюза пісьменнікаў і Саюза дызайнераў. Вось і на гэтым тыдні ў вялікай зале Дома літаратара адбылася прэзентацыя выдавецкага праекта "Дызайн і не толькі", на якую былі запрошаны дызайнеры, мастакі, літаратары, бізнесмены, журналісты. Адбыўся паказ мод, дэманстрацыя кінафільмаў, выступленні музыкантаў.

●

Пятнаццацігоддзю чарнобыльскай катастрофы быў прысвечаны паказ кінафільмаў у сталічным кінатэатры "Змена". Перад дэманстрацыяй стужак для вучняў і навучэнцаў ПТВ горада выступалі пісьменнікі, сярод якіх былі Яўген Каршукоў, Навум Гальпяровіч і іншыя.

**Н. К.**

СУСТРЭЧЫ

# Анатоль Кудравец у сваіх землякоў і герояў

Мастацкі свет пісьменніка нельга зразумець без ягонай малой радзімы, без родных каранёў. У кожнага пісьменніка ёсць свая кастальская крыніца, якая жывіць і сілкуе дадзены прыродай талент. Для вядомага празаіка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Анатоля Кудраўца — гэта легендарная Клічаўшчына. Менавіта адсюль пачалася ягоная дарога ў вялікую літаратуру, якую сёння немагчыма ўявіць без яго глыбокіх псіхалагічных апавяданняў, без шчымлівых трывожных аповесцей "Раданіца" і "Двое за нізкім столікам" і, зразумела, без вядомага рамана "Сачыненне на вольную тэму" з незабыўным героем Ігнатам Сцяпанавічам Вапшчэткі.

Пра ўсё гэта хораша і шчыра гаварылася на літаратурных сустрэчах, якія прайшлі на клічаўскай зямлі і былі прысвечаны 65-годдзю Анатоля Кудраўца.

Слыннага госця цёпла віталі яго землякі і героі ў Клічаўскім РДК і ў Каўбчанскай сярэдняй школе, якую Анатоль Паўлавіч скончыў у 1951 годзе з Пахвальнай граматай.

На ўспамін аб гэтай кранальнай сустрэчы каля школы засталіся ясень і два клёнікі — іх Анатоль Кудравец пасадзіў разам са сваімі калегамі, паэтамі Сяргеем Законнікавым і Алесем Пісьмянковым.

У гэтыя ж дні літаратары наведалі славуты мемарыяльны комплекс Усакіна, прысвечаны партызанскаму руху на Клічаўшчыне.

**Сымон КАНІЦКІ**

ВЕЧАРЫНЫ

# На радзіме Міколы Ермаловіча

З нагоды 80-годдзя з дня нараджэння Міколы Ермаловіча на ягонай радзіме ў вёсцы Навасёлкі Дзяржынскага раёна ў мясцовай школе адбылася вечарына. У ёй брала ўдзел і група пісьменнікаў з Мінска. Сваімі ўражаннямі аб сустрэчах і сумеснай працы з Міколам Іванавічам дзяліліся Вольга Іпатава, Генрых Далідовіч, Яўген Лецка, Вячаслаў Чамярыцкі. Удзел у свяце прынялі браты Міколы Ермаловіча Лявон Іванавіч і Валянцін Іванавіч, а таксама дачка Алена Мікалаеўна. На вечарыне гучалі празаічныя і вершаваныя творы Міколы Ермаловіча.



**Фота Яўгена КАЗЮЛІ**

# На Вялікдзень у Рубяжэвічах

Вялікдзень... Вялікі дзень. Ён сапраўды быў сёлета ў поўным сэнсе такім, бо супалі два Вялікадні: праваслаўны і каталіцкі.

На другі дзень Вялікадня выехалі ў вёску Рубяжэвічы Стаўбцоўскага раёна дырэктар выдавецтва "Юнацтва" — пісьменнік Алесь Камароўскі, супрацоўнікі гэтага выдавецтва: паэт Яўген Хвалей і празаік Міхась Зарэмба. Яны засталі Велікодную імшу ў касцёле. Хто ні разу не быў у Рубяжэвіцкім касцёле, раім пабываць у ім. Касцёл быў збудаваны з абчэсаных каменняў у пачатку мінулага стагоддзя.

Жыў у вёсцы Антоні Тур, які ў 1866 годзе прывёз першы камень і паклаў яго на месца будучага касцёла. За сваю дзёрзкую задуму католік Тур быў пакараны высылкай у Сібір. Але вырас касцёл, дзе і сёння ляжыць славуты камень Антонія Тура. Вось як пра яго напісаў паэт Казімір Камейша, якога хрысцілі ў Рубяжэвіцкім касцёле:

*Кружыўся аблокаў*
*спадманлівы вір,*
*І плакалі людзі наўкола:*
*— За што вас, Антоні,*
*вядуць у Сібір?*
*— За камень,*
*што стане касцёлам.*
*Ён рос і да самага неба дарос*
*Той мур, на ўвесь*
*край знакаміты.*
*Ніхто не забыты,*
*і ты, камнячос,*
*Не будзеш ніколі забыты*

Дарэчы, вершы К. Камейшы "Камень Антонія Тура" — на сцяне пры ўваходзе ў касцёл. Дзве гадзіны імшы ў касцёле, аздобленым выдатнымі іконамі, скульптурамі, прабеглі, як дзве хвіліны. А потым з пісьменнікамі сустрэўся сам ксёндз Рычард, вельмі сімпатычны і вясёлы чалавек. Затым была сустрэча з вучнямі і настаўнікамі ў Рубяжэвіцкай сярэдняй школе. Сюды ж прыехалі і вучні суседняй Рочавіцкай школы. "Вялікі дзень" — так называлася вечарына. Вядучая — настаўніца Рамуальда Ігнатаўна Сабалеўская — правяла яе выдатна. Сродкамі літаратуры і відэа яна расказала пра гісторыю Велікоднага свята. Дзеці чыталі вершы пра Хрыста, спявалі песні, а ў канцы ўсе разам выканалі знакамітыя "Васолы". Госці выступілі са сваім паэтычным словам, а таксама ўспамінамі. Настаўніца Рочавіцкай сярэдняй школы Ф. Качановіч расказала, як святкуюць Вялікдзень у іх вёсцы, прачытала верш. Два браты Тадэвуш і Раман Сабалеўскія гралі і спявалі "Велікодную паненку".

Цікава прайшла старадаўняя гульня — біткі ў чырвоныя яйкі, калі маглі выйграць і вучань, і настаўнік, і госць. Дырэктар школы М. Лысы горача дзякаваў усім прысутным.

Закончылася сустрэча цёплымі адбымкамі. А Яўген Хвалей і Алесь Камароўскі праз 30 гадоў сустрэліся яшчэ і са сваімі былымі настаўнікамі, цяпер пенсіянерамі Рэгінай Іванаўнай і Аляксандрам Мікітавічам Турко. Усе развіталіся са спадзяваннем на новыя сустрэчы.

**Яўген КМЕН**

НАДЗЁННАЕ

# Чарнобыльскія хмары

*Паўзуць ад самага*
*світанку*
*Счарнелыя і злыя хмары,*
*Бы адчыніў хто*
*ў пекла брамку,*
*На волю выпусціў пачвараў.*

*У іх штосьці бліскае,*
*буркоча,*
*Смалу, ці што, там чэрці вараць,*
*Бяды той рэха —*
*гром грукоча:*
*Мо новай пагражае карай?*

*А хмары набрынялі болем,*
*Даждажом атрутным,*
*што пральецца*
*На шлях, які стаў нашай доляй.*
*Чарнобыльскі —*
*той шлях завецца.*

**Павел САКОВІЧ**

ІМПРЭЗЫ

# Музыканты разам з намі

Слова "Чарнобыль" ведаюць сёння ў многіх краінах свету. Людзі добрай волі падзяляюць наш боль, прапануюць сваю падтрымку Беларусі — усім нам, пацярпелым ад жудаснай тэхнагеннай катастрофы. Дабрачынных акцый, прымеркаваных да яе 15-годдзя, бадай, і не пералічыць. Нават падчас Міжнароднага фестывалю "Мінская вясна" майстры мастацтваў розных краін высакародна, нягучна засведчылі, што яны з намі — і ў наша свята, і ў дні нашага смутку.

Зрэшты, "нягучна" — гэта метафара, бо акцыя, наладжаная музыкантамі ў Вялікай зале сталічнай філармоніі, атрымалася ў літаральным сэнсе гучнай і мела добры розгалас.

Дабрачынны гала-канцэрт, прымеркаваны да сумнавядомай даты, адбыўся пры падтрымцы пасольстваў Германіі, Летувы, Польшчы, Расіі, Турцыі, Украіны ў Рэспубліцы Беларусь. Яго ўдзельнікі прадстаўлялі менавіта гэтыя краіны. Выступалі натхнёна, з рэдкаснай прафесійнай і творчай самааддачай, падтрыманыя шчырай дэмакратычнай публікай, сярод якой гэтым разам заўсёднікі філармоніі былі ў меншасці. Але і гэтая спанатараная ў мастацтве меншасць не хавала свайго захаплення, гатовая падрабязна абмяркоўваць вартасці кожнага нумара праграмы.

Напрыклад, выступленне нямецкага камернага хору "Cantus Domus" пад кіраўніцтвам Р. Сахачэўскага. Гэты хор — удзельнік вядомага дабрачыннага праекта "Дамы замест Чарнобыля", пра які распавядалася на старонках "ЛіМа" яшчэ летась. Маладыя аматары спеваў (сярод іх юрысты, настаўнікі, медработнікі, толькі салісты — прафесійныя музыканты) прыехалі на Беларусь упершыню. Прывезлі цацкі для маленькіх пацыентаў дзіцячага анкалагічнага шпіталя, пабывалі там, у Бараўлянах, паспявалі беларускія народныя песні. У Мінску далі канцэрт разам з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам расійскага маэстра Д. Зубава, пры ўдзеле нашага вядомага музыканта А. Мільто, які з-за няспраўнасці філарманічнага аргана мусіў замяніць партыю каралеўскага інструмента на далікатнае гучанне клавесіна. Інтэрнацыянальная музыканцкая каманда пабывала і ў Полацку, дзе праграмай з твораў І. С. Баха, М. Рэгера, Я. Зеленкі ды П. Ваксса адкрыла тамтэйшы фестываль у Сафійскім саборы. А на развітанне з полацкай публікай нямецкі хор пад кіраўніцтвам Р. Сахачэўскага праспяваў... беларускую "Купалінку"! 26 красавіка падобны дабрачынны "чарнобыльскі" канцэрт адбыўся ў адной з цэркваў Берліна.

Яшчэ адзін германа-беларускі музычны альянс: Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі ды Маладзёжны джазавы аркестр Зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія (дырыжор В. Брэвер). Супольным гранням кіраваў наш маэстра А. Берын. Сярод мноства рознастылёвай музыкі вылучыўся твор "Tempos Fugit" — "Час бяжыць". Дырыжор нямецкага калектыву, кампазітар і аранжыроўшчык М. Вільмоў напісаў яго да нагоды трагічнай чарнобыльскай даты, спецыяльна для супольнага выканання беларускіх ды германскіх музыкантаў. Сур'ёзная, узрушальная партытура!

У той вечар з нашым Акадэмічным сімфанічным аркестрам выступаў і малады польскі дырыжор Л. Баровіч. І мы адкрылі для сябе сакавітую эпічную музыку перыяд польскай класічнай сімфанічнай паэмы — "Стэп" З. Наскоўскага.

Дабрачынную праграму ўпрыгожылі вытанчаны камерны ансамбль з Летувы "Musica Humana" пад кіраўніцтвам А. Візгірды, бліскучы піяніст украінскай госці — І. Салдаценкі, якая год таму атрымала званне лаўрэата Міжнароднага конкурсу "Мінск-2000". Эфектна і віртуозна гралі юныя сёстры Андэр — фартэпіянны дуэт з Турцыі...

26 красавіка ў Мінску гала-канцэртаў не было. Арыгінальная музыка, прысвечаная чарнобыльскай трагедыі, не гучала. Затое адразу ў дзвюх залах — філармачнай ды опернай — адбылося выкананне (таксама з удзелам замежных гасцей) "Рэквіема" Д. Вердзі. Геніяльны твор, але... Ці не занадта для аднаго горада?

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

ФЕСТЫВАЛІ

# І песня, і слова

Здаецца, даўно не было такіх святаў мастацтва у райцэнтрах, сельскіх клубах, школах і бібліятэках, як у дні правядзення рэспубліканскага фестывалю "Майстры мастацтваў — працаўнікам сяла", які пачаў крочыць па краіне ў мінулыя выхадныя.

Першымі "аб'ектамі" фестывалю, які праводзіць Міністэрства культуры, былі абраны Гарадоцкі і Шумілінскі раёны Віцебшчыны, раёны, прама скажам, не спешчаныя ўвагай сталічных артыстаў, пісьменнікаў, мастакоў. І вось на трох "Ікарусах" прадстаўнічая дэлегацыя, у складзе якой былі намеснік міністра культры В. Гедройц, начальнік аддзела міністэрства Т. Стружэцкі, вядучы гала-канцэртаў супрацоўнік міністэрства А. Скарына, пісьменнікі намеснік старшыні СБП Н. Гальпяровіч і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі У. Скарынкін, мастачка, сябра СП Г.Горава, а таксама Дзяржаўны аркестр імя Жыновіча, ансамбль народнай песні "Купалінка", народны фальклорны гурт "Неруш", народны ансамбль беларускай песні "Церніца", салісты Белдзяржфілармоніі, прыехала ў прыдзвінскі край, каб сустрэцца з жыхарамі райцэнтраў і самых глыбінных, аддаленых вёсак.

Госці прыехалі не з пустымі рукамі: Мінкульт знайшоў магчымасць набыць для сельскіх устаноў культуры камп'ютэры, капіравальную тэхніку, сцэнічныя касцюмы.

З радасцю і ўдзячнасцю сустракалі ўдзельнікаў фестывалю ў Гарадоцкім і Шумілінскім раёнах, дзе адбыліся асноўныя мерапрыемствы свята. Вялікія гала-канцэрты ў раённых дамах культуры, творчыя сустрэчы ў бібліятэках і музеях, выступленні ў сельскіх клубах сабралі вялікую колькасць людзей. Былі гарачыя воплескі і кветкі, пытанні і словы ўдзячнасці, а галоўнае — шырока і вольна гучала народная песня, роднае беларускае слова.

— Цяжка пераацаніць значэнне для сельскіх працаўнікоў такіх фестываляў, — заявіў намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама П. Южык, — для гледачоў і аматараў літаратуры і мастацтва — гэта сапраўдная радасць. Людзі даўно ўжо не сустракаліся з такімі знакамітымі людзьмі, з такім высокім мастацтвам у сябе дома, а што да падарункаў — то гэта значная падтрымка матэрыяльнай базы нашых устаноў культуры. Такія святы, такія фестывалі трэба толькі вітаць і ўсяляк падтрымліваць.

Для пісьменнікаў, якія ўваходзілі ў склад творчага дэсанту, паездка таксама была хвалюючай і адказнай. Яна вылілася ў своеасаблівую справаздачу перад земляками, і справаздача, як сведчылі цёплыя сустрэчы ў Гарадоцкай і Шумілінскай бібліятэках, выступы ў дамах культуры, атрымалася.

Наступным маршрутам рэспубліканскага фестывалю "Майстры мастацтваў — працаўнікам сяла" стане Магілёўская вобласць.

**Наш кар.**

НОВАЕ

# Пра Нёман

Сёння, як ніколі, кожная новая кніга на роднай мове — чаканая. І таму, што, як бы там ні гаварылі, а працэс абуджэння нацыянальнай свядомасці набыў незваротны характар. Але і таму, што ў выніку фінансавых цяжкасцяў ёй усё цяжэй прабіваць сабе дарогу. Тым большую радасць атрымліваеш, калі ў рукі трапляе ўнікальнае выданне, аб якім можна толькі марыць было і ў часы куды больш спрыяльныя для кнігадрукy. А зборнік вершаў, апавяданняў, нарысаў, эсэ "Бацька наш Нёман" — з шэрагу падобных. Цудоўны друк, надзіва вабныя каляровыя ілюстрацыі (пастараліся вядомыя фотамайстры Васіль Зянько і Яўген Казюля), лепшых гатункаў папера — бясцдм і не звычайная кніга, а дыхтоўны альбом, праўда, паменшанага фармату. Адным словам, пастараліся ў выдавецтве "Юнацтва". Ды і добра зрабілі, што знайшлі ўкладальніка, для якога Нёман — не проста часта Бацькаўшчыны, а рака маленства — паэта Яўгена Хвалея.

Няпроста яму было сабраць неабходныя матэрыялы. З аднаго боку, як быццам лёгка, бо пра Нёман, людзей, якія жылі ў гэтых мясцінах (ці жывуць сёння), пісалі і пішуць многія сучасныя аўтары. Яны ахвотна адгукнуліся прапанаваць свае творы для кнігі. А з другога, тэма Нёмана вельмі шматгранная. Гэтую цудоўную раку ўслаўлялі ў розны час і, каб не прапусціць якое-небудзь знакамітае імя, цікавы твор, трэба шмат у чым мець энцыклапедычныя веды. З усім гэтым Я. Хвалей паспяхова справіўся. Як і ўдала сістэматызаваў багаты матэрыял, вылучыўшы яго ў пяць самастойных раздзелаў. Самастойных у тым сэнсе, што яны ўражваюць сваёй тэматычнай завершанасцю, калі разглядаць іх асобна. Але разам з тым добра дапаўняюць адзін аднаго.

Важна і тое, што першыя чатыры — "Калыска Нёмана", "Салаўінае Наднямонне", "Ой, Нёман, і слава, і песня..." і "Рака наша слаўная Нёман..." — пачынаюцца вытрымкамі з працы Уладзіслава Сыракомлі "Нёман ад вытокаў да вусця", што выйшла ў Вільні ў 1861 годзе і да нашага часу не перавыдавалася. На беларускую мову яе пераклаў Пятро Стэфановіч і прапанаваў для гэтай кнігі. Матэрыял пададзены такім чынам, што кожнаму з чатырох раздзелаў адпавядаюць параграфы напісанага У. Сыракомлем. Чытач можа лёгка параўнаць апісанне Нёмана і мясцін на яго берагах, зробленае амаль 150 гадоў назад з творамі сучасных аўтараў. А значыць, адчуць і змены, што адбыліся на працягу гэтага часу і разам з тым пераканацца, што, нягледзячы ні на што, Нёман па-ранейшаму застаўся ракой, што з'яўляецца сваяго роду сімвалам Беларусі.

Хораша ўпісваюцца ў кампазіцыйную канву кнігі і дзве вядомыя песні, якія, разам узятыя, яшчэ больш падкрэсліваюць, што Нёман і Беларусь — непадзельныя. У пачатку змешчана "Песня пра Нёман", словы якой напісаў Анатоль Астрэйка, а на музыку яе паклаў Нестар Сакалоўскі, а на завяршэнні — "Мой родны кут", што нарадзілася дзякуючы Ігару Лучанку, які звярнуўся да неўміручай творчасці народнага песняра Якуба Коласа.

Усіх жа аўтараў, прадстаўленых у кнізе, і не пералічыш. Для таго, каб засведчыць, наколькі тэма Нёмана прыцягальная для пісьменнікаў, згадаем некаторых, якія прадстаўлены ў пятым раздзеле "Хто мар не ўплятаў ў твой гонан, табе хто пашаны не нёс?..." А гэта — Канстанцін Бацюшкаў, Фёдар Цютчаў, Адам Міцкевіч, Эліза Ажэшка, Сяргей Гарадзецкі, Аляксандр Пракоф'еў, Максім Рыльскі і іншыя.

"Бацька наш Нёман" — першынец з серыі кніг пра рэкі Беларусі, якія мае намер выпускаць "Юнацтва". Задума, вартая ўхвалы. Праўда, хацелася б дацьі адно пажаданне. Думаецца, не лішнім у гэтай бібліятэчцы будзе і том пра нашу жамчужыну — возера Нарач, якое таксама праслаўлялі вельмі многія пісьменнікі, любуючыся хараством тамашніх мясцін. На завяршэнне ж нельга не адзначыць, што кніга, пра якую ішла гаворка, выдадзена пры фінансаванні з Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

АБСЯГІ

## ГОМЕЛЬШЧЫНА...

### Хроніка бяды

У выставачнай зале Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Францішка Скарыны адкрылася буйнамаштабная мастацка-дакументальная выстава "Чарнобыль: дарога болю, памяці, надзеі", прысвечаная 15-годдзю катастрофы на ЧАЭС. Уражвае раздзел фотаздымкаў і дакументаў, якія паказваюць трагізм падзей у першыя месяцы пасля аварыі, адлюстроўваюць гераізм людзей, расказваюць пра ліквідацыю наступстваў нацыянальнай бяды.

Раздзел мастацтва ўключае карціны Р. Ландарскага, А. Отчыка, У. Кароткага, В. Дзенісенкі, В. Пакаташкіна, С. Наздрын-Платніцкай, плакаты М. Шклярава, У. Лосева, скульптурную кампазіцыю Д. Папова. Кожны твор закранае чарнобыльскую тэму, заклікае берагчы родную зямлю, прыроду.

### Стартуе карагод

Стаў папулярным міжнародны фестываль харэаграфічнага мастацтва "Сожскі карагод", які праводзіцца на Гомельшчыне раз у два гады. У наступным годзе адбудзецца трэці фестываль. Падрыхтоўка да яго ўжо распачата. Абласны Цэнтр народнай творчасці правёў агляд-конкурс узорных і народных харэаграфічных калектываў. Першы тур прайшоў у Мазыры, другі — у Гомелі. Агляд стаў святам як для ўдзельнікаў, так і для гледачоў.

Парадавалі сваім майстэрствам самыя розныя творчыя калектывы: "Чабарок" са Светлагорска, "Гомій" з Гомеля, "Вясніца" з гарадскога пасёлка Акцябрскі, "Прыпяць" з Турава, "Надзея" з Рагачоўскай школы мастацтваў.

### Кніг стане больш

Гомельская гарадская цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма аб'ядноўвае 17 бібліятэк, якія абслугоўваюць 82 тысячы чытачоў. Але існуе праблема дэфіцыту папулярнай літаратуры, у тым ліку беларускай. Для яе вырашэння на дапамогу да бібліятэкараў прыйшлі фундатары: Гомельская гаррайінспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, абласная арганізацыя грамадскага аб'яднання Беларускага таварыства "Кніга", рэдакцыя газеты "Гомельская праўда", свабодная эканамічная зона "Гомель-Ратон", Гомельская епархія, уладальнікі ўласных бібліятэк.

Зараз бібліятэчная сістэма абвясціла новую дабрачынную акцыю "Падары кнігу бібліятэцы".

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

### Пісьменніцу віталі землякі

Валянціна Кадзетава жыве і працуе ў пасёлку Лукск Жлобінскага раёна, а нарадзілася яна ў вёсцы Мікалаеўка Добрушскага. Тут, на радзіме, адбыўся і творчы вечар пісьменніцы, прымеркаваны да яе паўвекавога юбілею. Прайшоў ён у райцэнтры. Сакратар Гомельскага абласнога аддзялення саюза беларускіх пісьменнікаў Васіль Ткачоў ад імя творчага саюза пажадаў Валянціне Кадзетавай новых творчых здзяйсненняў, прачытаў невялічкае апавяданне, прысвечанае ёй, а гомельскі паэт і мастак Генадзь Говар паднёс юбіляру сапраўдны сюрпрыз — партрэт прыгожай жанчыны, на якім яна адразу ж пазнала... сябе.

Пісьменніцу віталі загадчыца аддзела культуры райвыканкама Ганна Бярнацкая, дырэктар цэнтральнай раённай бібліятэкі Алена Агеева, загадчыца бібліятэкі з Мікалаеўкі Вера Аленіч, ад імя моладзі раёна выступіла Валянціна Крывянцова, а самадзейная аўтарка Алена Бярнацкая прачытала вершаваныя радкі, прысвечаныя зямлячцы.

Паэт і бард Юры Арэстаў выканаў свае новыя песні. Песні гучалі таксама і ў выкананні самадзейных артыстаў раённага ДК.

Вяла вечар супрацоўніца раённай бібліятэкі Святлана Грынчык.

**Васіль БАРХАНАЎ**

## МАГІЛЁЎШЧЫНА...

### "Слезы твае, Чарнобыль"

На Касцюкоўшчыне праводзіцца раённы конкурс "Слёзы твае, Чарнобыль". Мэта — пошук і зберажэнне звычак, абрадаў, культурных традыцый, жыхароў тых населеных пунктаў, якія трапілі ў зону адсялення. На конкурс прымаюцца матэрыялы ў выглядзе сачыненняў, артыкулаў, замалёвак успамінаў тых людзей, хто жыў у таких вёсках і мястэчках. Жадаючых паўдзельнічаць у конкурсе шмат. Пераможцаў чакаюць дыпломы аддзела адукацыі райвыканкама. А лепшыя работы будуць накіраваны на абласны конкурс.

**Уладзімір КАПАЕЎ**

## БРЭСТЧЫНА...

### Юныя дэбютанты

Амаль паўгода на Брэстчыне праводзіліся раённыя і гарадскія літаратурныя конкурсы "Дэбют", у якіх прымалі ўдзел 12-18-гадовыя паэты і празаікі, падзеленыя на дзве ўзроставыя групы. Семдзесят лепшых прайшлі ў фінал абласнога конкурсу, што адбыўся ў Цэнтры маладзёжнай творчасці. Журы на чале з сакратаром аддзялення Саюза пісьменнікаў Алесем Каско адзначыла тэматычную і жанравую разнастайнасць твораў дэбютантаў, іхняе імкненне спалучаць непасрэднае ўспрыманне жыцця і свету з пачаткамі прафесійнага майстэрства, набытымі самастойнай карпатлівай працай, а таксама ў літгуртках, студыях, літаб'яднаннях.

Пра гэта засведчыў і семінар маладых, які прайшоў у рамках конкурсу. На семінары абмяркоўваліся найбольш цікавыя вершы, апавяданні, казкі, нарысы і нават п'еса. Дванаццаці літаратарам, чатыры з якіх прымуць удзел у рэспубліканскім конкурсе, былі ўручаны дыпломы і сувеніры. Рыхтуецца калектыўны зборнік лепшых твораў дэбютантаў. Яго выданне фінансуе камітэт па справах моладзі і аблвыканкама.

### Аўдыёальбом Вольгі Сідарук

Мінская студыя Кастуся Елісеева выпусціла аўдыёальбом песень самадзейнага кампазітара і выканаўцы з Брэста Вольгі Сідарук. У свой першы альбом аўтарка ўключыла 14 музычных твораў, напісаных на вершы Н. Мацяш, М. Купрэева, М. Пракаповіча, В. Сахарчука, А. Дэбіша і іншых паэтаў-землякоў. Адсюль і назва альбома — "Берасцейскае вогнішча". Неўзабаве адбудзецца яго прэзентацыя ў Брэсцкай гарадской бібліятэцы. Абмеркаваны альбом і на пасяджэнні абласнога літаб'яднання "Зараніца".

**Сымон АКСЕНІН**

## МІНШЧЫНА...

### Музей — у класе

Без малога дзесяць гадоў у сталічнай сярэдняй школе № 209 (мікрараён "Малінаўка") дзейнічае своеасаблівы краязнаўчы музей. Размешчаны ён у звычайным класным пакоі — кабінеце гісторыі, якім загадвае настаўнік Я. Баскін. Сярод экспанатаў — прылады працы першабытнага грамадства (неаліт, жалезны век), побытавыя рэчы XII—XIII стагоддзяў, старажытныя кнігі і дарэвалюцыйныя школьныя падручнікі, газеты, улёткі, іншыя дакументы часоў апошняй вайны, багатая нумізматычная калекцыя. Упрыгожваюць выставу маслабойка, пралка, іншыя самабытныя і цікавыя для вучняў рэчы, якімі яшчэ зусім нядаўна карысталіся ў штодзённым ужытку нашы дзядулі і бабулі. Ёсць у экспазіцыі і ўзоры старажытнай зброі. Кожны музейны экспанат — часцінка гісторыі і культуры нашай Бацькаўшчыны.

Застаецца дадаць, што школьны клас-музей абсталяваны і аздоблены рукамі самога настаўніка — заўзятага і апантанага збіральніка і краязнаўцы. А галоўная памочніца Якава Баскіна — яго вучні.

**Наш кар.**



**ЧАСАПІС**

## Згодзен, але не зусім...

**2 сакавіка 2001 года ў "ЛіМе" быў змешчаны артыкул доктара філасофскіх навук Сямёна Падокшына "Барацьба за ўладу. Эпізод з гісторыі ВКЛ часоў Кейстута, Ягайлы і Вітаўта". У артыкуле шмат цікавых і слушных меркаванняў, але дазволю сабе не пагадзіцца з некаторымі высновамі аўтара.**

**Напрыклад, на пачатку артыкула С. Падокшын піша: "Па логіцы рэчаў Вітаўт павінен быў адыгрываць тую ролю, якую адыгрываў яго бацька, вялікі князь Кейстут пры Альгердзе. Роля гэта была вельмі ганаровай, але другой". Атрымоўваецца, што Кейстут як быццам бы адыгрываў пры Альгердзе ролю "пачэснага пенсіянера".**

**Пасля пачатку іх агульнага кіравання (1345) дзяржава (ВКЛ) была падзелена на дзве часткі. Альгерд быў галоўны на сваёй, так бы мовіць, тэрыторыі. Ягонай сталіцай была Вільня. А Кейстут — на сваёй. Яго сталіцай былі Трокі. І ў далейшым усе тэрыторыі, якія далучаліся да Вялікага княства Літоўскага, павінны былі быць падзелены паміж братамі. І толькі пасля значнага павелічэння тэрыторыі ВКЛ на ўсходзе і на поўдні Альгерд не вельмі прытрымліваўся гэтай дамоўленасці. Значыць, Альгерд і Кейстут былі роўныя ва ўладзе. Тут трэба заўважыць, што паколькі Кейстут валодаў заходняй часткай дзяржавы і ўвесь час ваяваў супраць крыжакоў, дык яго тэрыторыя на захадзе павялічыцца не магла. У той жа час Альгерд ваяваў супраць маскавітаў і татар, і таму значна павялічваў сваю тэрыторыю. У той жа час Альгерд меў больш моцную падтрымку (жыхары яго ўдзелу былі пераважна праваслаўныя), а Кейстута падтрымлівалі і паганцы (жыхары Жамойціі), і праваслаўныя (жыхары Гродзеншчыны і Брэстчыны). Таму паміж падданымі Кейстута не было і рэлігійнага аднагалосся. Але гэта не падстава прыніжаць ролю Кейстута ў кіраванні краінай.**

**Аўтар лімаўскага артыкула сцвярджае, што Кейстут быў "выдатны палкаводзец, але пасрэдны палітык (магчыма, ён і сам гэта ўсведамляў, аддаўшы пальму першынства Альгерду)". Толькі з гэтай прычыны ад улады не адмаўляюцца. Паколькі Кейстут не карыстаўся такой вялікай падтрымкай, як Альгерд, і паміж ягонымі падданымі не было адзінства, менавіта таму Кейстут адмовіўся ад вялікакняжацкага пасаду.**

**Можна не пагадзіцца і з думкай пра захоп улады Кейстутам. Паміж ім і Ягайлам ішла непрымірымая барацьба за ўладу. І тая, умоўна кажучы, ідылія, якая існавала ў адносінах паміж Кейстутам і Альгердам, не магла быць паміж Кейстутам і Ягайлам. Таму змова Ягайлы з крыжакамі супраць Кейстута не можа быць неверагоднай, як сцвярджае аўтар лімаўскага артыкула. Як вядома, яшчэ са старажытных часоў князі выкарыстоўвалі ваенную моц сваіх заклятых ворагаў (татара-манголаў, крыжакоў, палаўцаў) супраць іншых князёў. І таму нічога незвычайнага і дзіўнага ў змове Ягайлы з крыжакамі няма.**

**Цяжка пагадзіцца і калі аўтар піша пра Кейстута, што той адчуваў "палітычную беспадстаўнасць і маральную несправядлівасць свайго ўчынку". Цікава, але калі ў 1345 годзе Кейстут разам з Альгердам змясцілі з вялікакняжацкага пасаду іх малодшага брата Яўнута, дык яны адчувалі несправядлівасць свайго ўчынку? Палітык павінен кіравацца памкненнямі розуму, а не сэрца.**

**С. Падокшын сцвярджае: "Кейстут быццам бы праявіў "высакароднасць", пазбавіўшы свайго пляменніка вялікакняжацкай улады, але захаваўшы яму жыццё і "ўсё астатняе". Гэтая "высакароднасць" і загубіла Кейстута". Сапраўды, пытанне наконт высакароднасці Кейстута спрэчнае. Так, Мікола Ермаловіч у сваёй кнізе "Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае" піша: "Яшчэ невядома, ці адпавядае сапраўднасці тое, што Ягайла быў высланы спачатку ў Крэва, а потым у Віцебск, бо маюцца звесткі, што ён быў сасланы Кейстутам у Полацк, дзе прасядзеў у турме больш года". (С. 206).**

**Выклікае пярэчанне меркаванне С. Падокшына пра тое, што "ідэя адзінай беларуска-украінска-літоўскай дзяржавы... з'яўлялася падставай дзейнасці і Міндоўга, і Гедыміна, і Альгерда..." Наўрад ці ў часы Міндоўга нехта думаў пра тое, што калі-небудзь украінскія землі будуць у складзе ВКЛ.**

**Не згодзен я з думкай шаноўнага аўтара і наконт таго, што "ўся Віленшчына падтрымлівала яго (Ягайлу. — Д. М.), лічачы законным гаспадаром". Для жыхароў Віленшчыны, якія зведалі на сваім жыцці нямала пераваротаў і войнаў, не мела вялікага значэння, хто будзе іх валадаром. Для іх было галоўным, каб усталяваўся мір. Прыход жа Ягайлы ніякага міру не прыносіў.**

**Аўтар артыкула сцвярджае, што падчас канфлікту Кейстута з Ягайлам "вялікі князь Ягайла не жадаў кровапраліцця". На маю думку, з самага пачатку свайго праўлення Ягайла планаваў або пазбавіць Кейстута жыцця, або пасадзіць у турму. Вярнуць тыя адносіны, якія былі паміж Альгердам і Кейстутам, было ўжо немагчыма. І Ягайла цудоўна разумеў гэта.**

**Наогул вобразы Альгерда, Кейстута, Ягайлы і Вітаўта настолькі шматгранныя і неадназначныя, што трактоўка іх дзейнасці, іх учынкаў можа быць зусім рознай.**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,**
**навучэнец 1 курса Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа**

САМ-НАСАМ З РАДЗІМАЙ І З ЧАСАМ

# І яна перамагла

Ніл ГІЛЕВІЧ

Ужо колькі гадоў у Беларускім паэтычным тэатры аднаго акцёра "Зніч" ідзе спектакль "Белы сон" — паводле "Споведзі" вялікай беларускай жанчыны XX стагоддзя Ларысы Геніюш. Выканаўца ролі паэткі — заслужаная артыстка Беларусі Галіна Дзягілева. Яна ж і рэжысёр-пастаноўшчык. Яна ж, нагадаю чытачам, і заснавальнік гэтага унікальнага тэатра.

На мой аматарскі погляд, спектакль як сцэнічны мастацкі твор — выдатны. Але, адчуваю, хочацца сказаць не гэта, а нейкае іншае слова, больш істотнае. Можа быць — страшны? Бо ён сапраўды страшны, гэты "Белы сон" Геніюш і Дзягілевай. Страшны праўдай, якая адкрываецца гледачам з таленавіта пераўвасобленай душы спавядальніцы, з яе аповеду пра сябе. Страшны праўдай нашай гісторыі, нашага беларускага лёсу. Кажу **нашага**, **беларускага**, хоць перад намі лёс толькі аднаго чалавека. Такая ўжо чароўная сіла мастацтва, што ў вобразе і лёсе аднаго мы маем магчымасць убачыць вобраз і лёс усяго народа. Убачыць і — зразумець. І перажыць, як свой уласны, калі, вядома, ты на такое перажыванне здольны.

А які ж ён, наш беларускі лёс, быў жорсткі! А які ж несправядлівы! Які сапраўды страшны!.. Божа, што давялося зведаць і перажыць гэтай высакароднай, мужнай і мудрай, чыстай і светлай жанчыне! Гэтай, — сёння ўжо можна гаварыць, не баючыся перабольшання, — святой жанчыне. Беларускай святой. Праз якія мукі-пакуты, абразы і прыніжэнні яна мусіла прайсці ў імя сваёй веры і любові! Непераможнай беларускай веры і несмяротнай беларускай любові!.. Божа, што яны, гэныя звяругі ў чалавечай апратцы, з намі, беларусамі, рабілі! Як яны з нас здзекаваліся, як яны глуміліся над нашай душой! Над душой Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага. Над душой Буйніцкага, Галубка, Ждановіча, Забэйды. Над душой Доўнар-Запольскага, Ластоўскага, Ігнатоўскага, Смоліча, Улашчыка. Над душамі тысяч і тысяч самых лепшых сыноў і дачок Беларусі!..

Узрушаны спектаклем, астатак учарашняга дня я правёў з кнігай вершаў і паэм Ларысы Геніюш. Яна таксама называецца "Белы сон". Выдадзена праз сем гадоў пасля смерці паэткі (Мінск, 1990). Назву зборніку далі прыгожую, гучыць паэтычна, але ці адпавядае яна зместу і духу паэзіі Геніюш — сумняваюся. Хіба жыццё, што паўстае са старонак кнігі, — белы сон? Калі і сон — дык жахлівы, кашмарны, — паглядзім на пражытае Ларысай Геніюш жыццё яе вачыма. А наогул — наўрад ці апраўданы гэты лірычны паэтызм там, дзе сну не было: праз усё жыццё яе душа сну не знала, бо не пераставала балець і кроваточыць ні на хвіліну. Скажаце: белы сон — як светлая мара пра вольную шчаслівую Беларусь? Так, у заснежанай Сібіры, на 50-градусным марозе ("грозіць Поўнач усімі смерцямі, ледзяную раскрыўшы пасць"), пад пільным наглядам "вертухаяў" на вышках ("і лоб штодня мой на прыцэл бяруць"), — так, там яна марыла пра светлы час для Беларусі, і са светлай слязой успамінала сваё дзяцінства і маладосць... Але папярэдзе ўсяго — боль, боль, боль, нясцерпны, пакутны боль. Боль і пакуты ў імя той Беларусі, што ў марах, у думках, у снах. Боль і неадступная, неспатольная, неадольная прага "абараніць ад паганых народ!".

Прайшоўшы наканаваны ёй святамучаніцкі шлях "напрасткі", "ні перад кім не схіляючы гордай сваёй галавы", яна мела права паглядзець з пагардай на таго, "хто не пеў, а падпяваў" і "пляскаў у далоні". Паглядзець — і сказаць:

***Пакрамсалі роднае — маўчаў,***
***мову забіралі — не пярэчыў.***
***І хваліў праклятага свіст біча,***
***што Радзіме упадаў на плечы.***

Яна мела права заявіць — каб пачулі і гаспадары і чужынцы, якія хацелі б беларускіх зуброў ператварыць у згодных хадзіць у ярме валоў:

***Вабяць хлеба смачнейшаю лустай:***
***— Станавецесь валамі, Зубры!***
***Халуям няхай будзе халуйства,***
***Мы зямлі свае гаспадары!***

***Не здамося ліхой крутаверці,***
***Бо дубы мы, а не бадылі,***
***Нам не скажуць сыны перад смерцю,***
***Што чужынцам мы Край прадалі!***

Яна мела права сказаць пра любоў да роднае мовы так, каб пачырванелі ад сораму за сваё патрыятычна-дыпламатычнае хітраванне мужчыны:

***Сёння на пласе родная мова.***
***Вырваць жывую належыць з агню.***
***Слова "кахаю" — слабае слова.***
***Мужнае слова — "абараню"!***

І калі казаць папраўдзе, дык Ларыса Геніюш — самы мужны, самы нязломны, самы рашучы і адважны мужчына ў беларускай паэзіі XX стагоддзя. І гэта пры надзвычайнай жаноцкай чароўнасці, пяшчотнасці, вабнасці. Вобраз жанчыны — каханай, жонкі, маці, — якім ён паўстае з лірыкі Ларысы Геніюш, не знае, бадай, сабе роўных па хараству душы, па сіле і глыбіні, багацці і шчодрасці пачуццяў, па цэласнасці і моцы характару. Як ні мучалі яе нелюдзі-каты, як ні здзекаваліся, ні глуміліся, ні абражалі — нічога зрабіць не змаглі, каб забіць у ёй Чалавека, Беларуску, Жанчыну (можна памяняць іх месцамі, гэтыя словы з вялікай літары, — будзе аднолькава справядліва). Не паддалася і не ўступіла — ні разу і ні ў чым: ні як Чалавек, ні як Беларуска, ні як Жанчына. Да апошняга ўздыху яе не пакінула вера ў сябе і ў свой народ, у будучыню Беларусі.

***Ударыць гром, ярмо нявольнік скіне,***
***Жывы народ падымецца з калень,***
***Загіну я, ўсё ж Край мой не загіне,***
***Крывіцкі, слаўны рассвітае дзень!***

З гэтаю верай цягам усяго свайго пакутніцкага жыцця яна змагалася і перамагала.

І перамагла. Назаўсёды.




# Неадольны покліч Месяца

## ІМПРАВІЗАЦЫЯ НА ТЭМУ КНІГІ БАРЫСА ПЯТРОВІЧА "ФРЭСКІ"

*І я бачу яе, і губляю яе,*
*і тужу,*
*І туга мая падобная да сонца*
*ў халоднай вадзе.*

**Поль ЭЛЮАР**

Мроя — сон — няпамяць...

Аднекуль ледзь адчувальна даносяцца ўсхліпы асенняй (не восеньскай — па законах музыкі ды алхіміі слова) — скрыпкі.

Прывіды — сны, явы... Апошняе — кантраверсія папярэдняму. Але ж напісала калісьці паэтка, задоўга да таго трагічнага і ўжо незваротнага кроку ў Ніцасць, калі, яшчэ маладая і прыгожая, неўзабаве выдыхнула:

***Знікаю. Хай будзе на момант шчаслівым***
***Той бераг,***
***Дзе мроя збылася, дзе кветка ўзнялася,***
***А явы не стала***
***Знікаю, пакуль я сама у сябе не знайшлася***
***Цвяроза і стала.***

Цела прагнула явы, а душа жыла мрояй. А гэта — несумяшчальна...

Рызыкну заявіць, што менавіта гэты вечны фатальны дуалізм і з'яўляецца эмацыянальна-сэнсавай дамінантай кнігі Барыса Пятровіча "Фрэскі". Зрэшты, паводле філасофіі, сутнасць заўсёды саступае з'яве (яве) у багацці адценняў, нюансаў, таго cum grano salis (крупінкі солі), без чаго няма сапраўднага судакранання з прамоўленай Яго вуснамі ісцінай.

А тады, два дзесяткі гадоў таму, ім — маім колішнім студэнтам — журфакаўцам ды філфакаўцам БДУ — С. Дубаўцу, Г. Саchanцы, Б. Сачанку, С. Астраўцову і іншым — гэтая самая недасяжная праўда падавалася яснай і рэзалютнай. Так, на пытанне экзаменацыйнага білета наконт творчасці аднаго народнага пісьменніка хтосьці з іх абсалютна сур'ёзна і імпэтна адказаў, што творы гэтага аўтара не чытаў і чытаць не будзе.

Час — ён усё... — не, не змяняе, але мікшыруе, змякчае пэўныя акцэнты, пастаўленыя некалі адназначна, па-максімалісцку катэгарычна. І тады адзін з той кагорты Б. Сачанка (ён жа Б. Пятровіч) — jnior — поруч з журналісцкімі допісамі пачне пісаць свае лірычна-філасофскія, лірычна-спавядальныя мініяцюры — ф р э с к і.

Так сталася, што кнігу гэтую я пабачыў не адразу пасля яе выхаду ў шырокі свет. Дзіўлюся пэўнай няўвазе да яе нашай прафесійнай ды не зусім прафесійнай крытыкі.

Зрэшты, як у кожнага з шараговых чытачоў, ёсць у мяне і сваё тлумачэнне на гэты конт (прамоўленае, дарэчы, вуснамі рускага класіка: "Ленивы и нелюбопытны").

Энцыклапедыя даводзіць, што фрэска — гэта размалёўка па сырым тынку, які пры высыханні ўтварае вельмі тонкую празрыстую плёнку, што замацоўвае фарбы і робіць фрэску даўгавечнай.

Наколькі ж нештодзённымі, нехвілёвымі будуць фрэскі маладога майстра — на гэтае пытанне адкажуць толькі вечныя шчасце і праклцце людскога роду — Хронас, Час.

Густоўна афармленая, някідкая, але (дазволю сказаць) інтэлігентная гэтая кніжка. На першы погляд, арганічна ўпісваецца ў кантэкст фармальных пошукаў адносна маладой беларускай прозы (А. Глобус, А. Наварыч, У. Сцяпан і інш.). Але, шмат у чым, і пашырае яе межы. Бо ёсць тут не толькі урбаністычная ўладкаванасць герояў у пэўных рэаліях, але і паяднанасць разгубленага, недарэчнага "сена на асфальце" з яго родавым невынішчальным, аўтэнтычным вясковым пачаткам.

Зусім не збіраюся сцвярджаць, што "Фрэскі" Б. Пятровіча — гэта нешта унікальнае ў айчыннай моватворчасці, лірыцы ці прозе. Але гэта тое, што кранае, змушае на нейкі час адрынуць клопаты пра будзённае, заўсёднае, надаеднае, на нейкі час паіснаваць у прывідным свеце славутай мхатаўскай паўзы, у дваістым свеце мары і явы.

...Глянуў за вакно — недзе перамігаецца з агнямі вечаровага горада зорка. Прыглядзеўся — усяго толькі ліхтар на будаўнічым кране. Але так падобны...

Гэтак і ў мастацтве — хай Бог собіць не зблытаць, не памыліць Тварцом народжаны цуд з яго тэхнічнай імітацыяй.

Унутраныя вытокі "Фрэсак" не толькі ў традыцыях еўрапейскай лірычна-імпрэсіяністычнай прозы (Э. Штрытматэр, В. Шыкула, К. Паустоўскі і інш.), але і ў разняволенасці, распрыгоненасці фабулы і вобразнай сістэмы твораў З. Бядулі, М. Гарэцкага, Я. Брыля.

"Што яно?" — запытаў чытачоў М. Гарэцкі і адказаў сабе сам: пах квітнеючага язміну. Яго не схапіць, не ўтрымаць, але для людзей, пазначаных "тонкасцю" скуры, гэта — зусім рэальная з'ява.

Фрэскі Б. Пятровіча пераважна крышку большыя па "лістажным" аб'ёме версэтаў А. Разанава, эцюдаў А. Глобуса, накідаў Л. Галубовіча ды іншых, яны вабяць найперш нязмушанасцю пачуццяў, паяднанасцю (як бы гэта ні гучала банальна) кантраверсійных пачаткаў: "чыста беларускай, сялянскай" літаратурнай традыцыі і адчувальнага плёну здабыткаў еўрапейскага мадэрнізму.

Натуральна, шчыльнасць, скандэнсаванасць пісьма ў Б. Пятровіча зусім не тая, як у аўтараў "прамежкавай", на мяжы паэзіі і прозы, творчасці, якая ўсё-такі з'яўляецца фактам паэзіі. Так, эстэтычна-філасафічная недасяжнасць версэтаў і вершаказаў А. Разанава (зрэшты, як і некаторых лірычных мініяцюр Я. Брыля) з'яўляецца ледзь не паўсюдна прызнанай, ды чамусьці цягне ўсё новых і новых аўтараў да гэтых мастацкіх словаформаў. Але, нагадаю, не трэба забывацца на тое, што права на гранічна суб'ектыўныя літаратурныя экзерсісы маюць толькі тыя творцы, якім ёсць **што** сказаць пра Чалавека і Свет. Тут няма за што схавацца: ні за мускулісты дынамічны сюжэт, ні за псіхалагізаваныя пейзажныя замалёўкі ці разгорнутыя партрэтныя характарыстыкі.

Зрэшты, выяўленне аўтарскага "я" Б. Пятровіча якраз і адбываецца праз максімальнае самаагаленне, якое (ў адрозненне ад "Кантамінацый" А. Глобуса) досыць далёка мяжуе са стрыптызам.

Аўтар "Фрэсак" нібыта яднае імпрэсія- і экспрэсіяністычнасць гучання радка з добрай рэалістычна-апісальнай традыцыяй.

Б. Пятровіч не галосіць па страчанай ці адрынутай вёсцы, не пачуваецца ў горадзе прыслвёным "сенам на асфальце", але і не ганарыцца набытым новым, часам нечаканым у сваіх праявах сацыяльна-псіхалагічным статусам. Ён спрабуе зразумець сваю новую "закаранёнасць" у Сусвет людскіх страсцяў, жыццёвых падзей і памкненняў. На яго героі — і водбліск лёсаў герояў памянёных Я. Брыля, А. Разанава, Н. Гілевіча ("У тым сяле, дзе я не быў ніколі..."), але і пэўныя прыкметы дуалізму жыццяў прадстаўнікоў іншых — бо ўсечалавечых — культур і праблем (П. Элюар, Ф. Саган, У. Фолкнер)..

"Ніхто мне нічога не скажа. Бо нідзе буду я. Нават той, хто будзе шукаць, не знойдзе мяне там. Але тыя, што запомнілі — не забудуць. Так знітоўваецца несумяшчальнае. Як дзень і ноч злучаюцца з ранкам і вечарам. І хто чыё дзіця — паспрабуй здагадайся. ...І думаю я: а ці жыў Я дзе — Нідзе..." — блукае мой стомлены розум і не знаходзіць адказу".

Але ўжо праз дзве старонкі чытаем: "Самыя запамінальныя пахі: пах сырадою, пах свежых агуркоў, пах новай кнігі... А яшчэ пах брагі, калі гоняць самагон".

Эклектыка? — Не думаю. — Жаданне спалучыць у адным вобразе і адным нашым горкім, праклятым і радасным жыцці патрэбу "цялеснага нізу" і высокую прагу нязбытнага, паяднаць яву і мару...

Героі Б. Пятровіча, падобна да персанажа геніяльнага (калі не баяцца такога азначэння) верша польскага паэта Ю. Тувіма "Лунатык", — вечныя прыгонныя Месяцавай поўні, яе прывіднага і такога прыцягальнага святла. Яны гатовыя на гэты бляск ісці па парапетах і нашых замшэлых стрэхах. Часам... не зусім удала (як і аўтар рэцэнзуемай кнігі). Але шчаслівы той, хто пабуджаны да жыцця гэтым неадольным поклічам Месяца, каму наканавана стаптаць свае чаравікі не ў пагоні за прывіднымі, хоць і такімі адчувальнымі зямнымі ўцехамі.

**Віктар КАРАТАЙ**

# Васіль ЯКАВЕНКА:
# "Не шукайце за Чарнобылем Бога"

НА ПЫТАННІ НАШАГА КАРЭСПАНДЭНТА АДКАЗВАЕ Васіль ЯКАВЕНКА — ПІСЬМЕННІК, ПУБЛІЦЫСТ, КІРАЎНІК БЕЛАРУСКАГА САЦЫЯЛЬНА-ЭКАЛАГІЧНАГА САЮЗА "ЧАРНОБЫЛЬ"

**— Васіль Цімафеевіч, 26 красавіка для вас, напэўна, не проста Дзень Смутку... Эксперымент прыроды і чыноўніка над беларусам працягваецца?**

— Для сябе асабіста я назваў бы гэту датупадзею днём Горычы і Тугі. Прычым, горыч у мяне выклікала спроба вышэйшых і мясцовых улад зрабіць выгляд — і давесці гэта насельніцтву! — што нічога страшнага там, на ЧАЭС, не здарылася, ніякіх асаблівых наступстваў, хвароб ці пакут ніхто не зазнае... Фальсіфікаваліся як дадзеныя аб утрыманні радыенуклідаў у харчах, так і паказанні аб накапленнях радыяцыі ў арганізме чалавека. Урачам не варта было лішне думаць пра Чарнобыль, паколькі ніякіх хвароб, абумоўленых радыяцыйным абпраменьваннем, не магло быць, як што іх не хацела начальства.

Горыч шчымела ў маім сэрцы ад падману, які я штодня назіраў, а туга — ад расстання з марамі-летуценнямі пра перабудову, пра "сацыялізм з чалавечым абліччам" і без абліччa ўвогуле...

Калі марксісцка-ленінскі сацыялізм у глабальным плане ёсць нечуваны, нябачаны і смелы эксперымент над душой народа, дзе ставілася на мэту прышчапіць любому і кожнаму саўковы гонар за сваю савецкую краіну і за жыццё ў адыёзных сацыяльных умовах, то тут было нешта іншае. Чарнобыльская катастрофа — эксперымент на фізічнае і, скажам так, псіхічнае выжыванне народа ва ўмовах малых дый не толькі малых доз радыяцыі. У так званай чарнобыльскай зоне па сённяшні дзень пражывае каля двух мільёнаў жыхароў. Радыяцыя цераз прадукты харчавання, фураж і іншымі спосабамі, шляхамі распаўсюдзілася па ўсёй тэрыторыі рэспублікі. Найпершая небяспека ва ўплыве радыенуклідаў, у дэстабілізуючым уздзеянні радыяцыі на імунную сістэму, што дало прырост самых розных захворванняў у насельніцтва. Зусім невыпадкова на сённяшні дзень у Гомельскай вобласці мы маем толькі дваццаць працэнтаў здаровага дарослага люду. Па рэспубліцы катастрафічна зніжаецца працягласць жыцця насельніцтва. Сярод школьнікаў са 100 вучняў не меней 85-87 маюць паталагічныя адхіленні або хранічныя захворванні. З 9,3 тысячы інвалідаў Чарнобыля — 1,8 тысячы дзеці. Нягледзячы на метад прафесара Генадзя Лазюка па генетычнай выбракоўцы плодаў, які прымяняецца на ранняй стадыі цяжарнасці, нараджэнне дзяцей з генетычнымі парокамі нарастае. Замежныя вучоныя, між іншым, даказваюць, што радыяцыя, а менавіта яе малыя дозы, спарадзілі ў свой час і такую хваробу як, СНІД.

Другая небяспека з плоймы ўсіх нягод, — ва ўздзеянні радыяцыі на мозг ды проста на розум чалавека; у выніку — зніжэнне інтэлектуальнага патэнцыялу. Прычым, як лічаць вучоныя, інтэлект западае не толькі ў людзей, якія мелі ці маюць непасрэднае дачыненне да ўздзеяння радыяцыі, але таксама і ў іхніх нашчадкаў. Таму ёсць усе перадумовы чакаць зніжэння агульнага ўзроўню інтэлекту, ва ўсіх пакаленнях. Адначасова памнажаюцца псіхічныя захворванні. На сённяшні дзень з імі спазналіся блізка 120 тысяч дзяцей. Што ўжо казаць пра дарослых?.. Ім і ліку няма.



*86-ы, адсяленне...* *З архіва "Набата"*

Вучонымі прагназуецца зніжэнне аб'ёму інтэлекту адносна дасягнутага да крытычнай меткі. Тады ўжо немагчымым стане чынны ўдзел народа і яго эліты ў развіцці навукі і тэхнікі. Спыніцца ў краіне прагрэс.

Вызначана дата такога крытычнага моманту — 2050 год. Але ж дадайце да заняпаду інтэлекту яшчэ і дэмаграфічны працэс, абумоўлены як гэтымі, так і іншымі фактарамі. А гэта — паскоранае пастарэнне і скарачэнне колькасці насельніцтва. Улічыце таксама, што на сукупнае цела і мозг папуляцыі разам з радыенуклідамі дзейнічаюць і хімічныя шкодныя рэчывы, што ў дзесятках і сотнях тысяч тон рассейваюцца па нашай зямлі. Дадайце да гэтых варункаў і прычын дэградацыі яшчэ адзін біч здароўя — алкагалізм... Куды мы скочваемся?!

Заняпаду надзвычай спрыяе ўнутрыпалітычная сітуацыя ў нашым вялікім доме, адсутнасць грамадзянскай згоды.

Звыш 3000 самазабойстваў у год!

Дэградацыя дыхае мне і кожнаму з нас у патыліцу. А гэта значыць, што перасцярога вучоных мае грунт пад сабой; тая дата агоніі ў нашым нацыянальным асяродку можа наступіць нават раней.

Што ж перайшло і далося нам у спадчыну ад блюзнерскай чарнобыльскай палітыкі першых год катастрофы? Перш-наперш, думаецца, апалітызаванасць і аблуднасць навукі. Ёсць, да прыкладу, нядаўняе заключэнне дзяржаўнай камісіі аб развіцці навуковых даследаванняў чарнобыльскай тэматыкі. Яны нездавальняючыя. І не дзіва! Уявіце сабе Інстытут радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі. Ён па сённяшні дзень не займаецца як след радыяцыйнай медыцынай, гэта значыць, тым, дзеля чаго і быў створаны. Пра гэта сведчыць ягоная клініка ў Аксакаўшчыне. Там ніякіх распрацаваных інстытутам метадаў і методык выяўлення хвароб, выкліканых радыяцыяй; дый ніхто і не даходзіць да механізму уздзеяння радыяцыі. Там ставяць звычайныя, дачарнобыльскія дыягназы і лечаць звычайнымі сродкамі.

Зрэшты, можа, я гіпербалізую? Мяркуйце самі. Найбольш кемлівыя супрацоўнікі інстытута лічаць сябе заложнікамі палітычнай медыцыны. А Васіль Несцярэнка, вучоны, кампетэнтна даводзіць у друку, што Міністэрства аховы здароўя заніжае дозавыя нагрузкі радыяцыі на насельніцтва і, наадварот, усяляк узнімае планку гранічна дапушчальных норм радыенуклідаў у прадуктах харчавання. Чым не клопат пра народ?

**— У сваім артыкуле "Чарнобыль: праз дзесяць і больш гадоў" вы пішаце — "не дай Бог збыцца прадказанням анколагаў, што праз 15 гадоў ракавыя захворванні ў нас будзе мець кожны другі жыхар краіны..."**

— Смяротнасць ад ракавых захворванняў у Беларусі ўзрасла за дзесяць гадоў амаль на чвэртку. Лідзіруюць рак лёгкіх і страўніка. На сённяшні дзень хварэе на рак каля 34 тысяч чалавек, з іх 2,5 тысячы ў дзіцячым узросце.

Змянілася карціна ў структуры анкалагічных захворванняў шчытападобнай залозы. Павялічылася колькасць захворванняў сярод дарослых. Паменшала сярод дзяцей; відаць, у сувязі з выхадам той, апраменненай радыяцыяй дзятвы ў сталы ўзрост. У цэлым жа ракавыя захворванні не змянілі сваёй тэндэнцыі да нарастання.

**— З сакавіка 1991 года выходзіла ваша газета "Набат". Яна, бадай што, першая гаварыла праўду пра Чарнобыль. Гэтая праўда і па сёння надта замінае тым, хто хоча лёгка жыць і бяздумна кіраваць...**

— Набатаўцы пераканаліся, што чынавенству патрэбна не праўда, якая, будучы выяўленай, магла б памагчы яму правільна, з улікам інтарэсаў народа, планаваць свае дзеянні. Чыноўнікам патрэбен спакой.

Калі ў 1986—87 гадах я шукаў праўды аб наступствах Чарнобыля, то знайшоў крыніцу яе літаральна пад бокам ва ўрада — ва ўрадавай бібліятэцы. Гэта былі, можна сказаць, фундаментальныя працы англійскіх вучоных аб уплыве радыяцыі на арганізм чалавека. У перакладзе на рускую мову. Яны, тыя працы, і дазволілі мне напісаць на матэрыяле чарнобыльскай зоны навукова абгрунтаваны і кампетэнтны нарыс "Бомба для патомкаў", які выдаваўся і перавыдаваўся ў Маскве і Мінску. Праўда, апроч мяне, да тых кніг, да той крыніцы ведаў у бібліятэцы ніхто не звяртаўся. Ніхто з урадавых чыноўнікаў, якія вырашалі праблемы Чарнобыля, не шукаў праўды. Ніхто не прагнуў найглыбшых ведаў, не імкнуўся спасцігнуць як мае быць нацыянальную трагедыю. Праўду для іх замянялі службовыя інструкцыі, і дагэтуль там, бадай, нічога не змянілася.

**— "Набату" няма. Застаўся Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз "Чарнобыль", кіраўніком якога вы застаецеся. Што зроблена і робіцца?**

— БелСаЭС "Чарнобыль" першым з грамадскіх аб'яднанняў пачаў працаваць з замежнымі партнёрамі — японцамі па аздараўленні дзяцей на месяцы. Мы мелі неблагі санаторый пад Мінскам, але ж змогі апекавацца яго хапіла ўсяго на чатыры гады. Потым нашы спецыялісты аказвалі паслугі дзяржаўным установам у медычным абследаванні дзяцей чарнобыльскай зоны. Аздараўлівалі дзяцей за мяжой. Апроч таго, Саюз правёў шэраг удалых міжнародных і рэспубліканскіх канферэнцый, напрыклад, яшчэ ў 90-м годзе ў Гомелі па праблемах Чарнобыля, дзе я выступаў з дакладам, пазней — у Мінску па чыстых крыніцах энергіі і энергазберажэнні. І яшчэ па праблемах запаведных тэрыторый. І яшчэ аб станаўленні грамадзянскай супольнасці ў Беларусі ў кантэксце ўстойлівага развіцця... Усяго тут я вам не пералічу. На жаль, былі і няўдачы. Скажам, колькі год біліся, каб укараніць праграму эфектыўнага, плённага, аздараўленчага навучання і выхавання ў школе пад назвай "Экаполіс, культура, здароўе", дзе ўлічваюцца багата якія аспекты педагогікі, экалогіі, медыцыны. Пакуль не ўзбіліся на поспех.

Можна лічыць цікавай нашу выдавецкую дзейнасць. Сярод кніг, якія мы выдалі, — зборнік школьных сачыненняў "След чорнага ветру". Кніга перавыдавалася ў Японіі, Бразіліі і Германіі. Цяпер мы рыхтуем да выдання абноўлены яе варыянт — на трох мовах.

Добрыя словы заўжды чую і пра кнігу "Пісьмы да жывых", што выйшла ў свет як выбранае штотыднёвіка "Набат".

**— Эпіграфам да гэтай кнігі вы ставіце словы Цяпінскага "Хіба не кара божая — лад, што усталяваўся ў нас у доме?!" Колькі вякоў мінула, а нічога на Беларусі не мяняецца?**

— Сапраўды, нешта навалілася на нас ды так, што продыху няма, няма той прасветлай гадзіны, каб народ ачомаўся, акрыяў, стаў пачуваць сябе годна і вольна. Канешне, "Пісьмы да жывых" — не толькі пра Чарнобыль...

Бадай, пакажацца неверагодным, але зазначу: часы, калі жыў наш славуты гуманіст і асветнік Васіль Цяпінскі, вельмі падобныя на сённяшнія. Амаль тыя ж нацыянальныя праблемы.

На вачах у Цяпінскага найбольш заможныя яго суайчыннікі пачалі цягнуцца да касцёлаў, апалячвацца і так ці інакш адслойвацца ад асноўнай масы народа; народ бытаваў сам па сабе. Увогуле, тут у нас цікавы момант размовы, праўда, палітызаваны і бадай філасофскі, але — якім бокам ні павярні, лёсавызначальны. Што такое народ без свайго нацыянальнага інтэлекту, без эліты, без носьбітаў і абаронцаў патрыятычнай ідэі?.. Ды нешта падобнае, скажам, на гурт, у якім інтарэсы не перавышаюць сямейнага ўзроўню. Там, у сям'і, няйначай, сваё біяполе, свой камфорт і як бы нябачная абалонка. А вось каб сям'я ў сваіх інтарэсах узнялася вышэй, патрэбна агульнанацыянальная ідэя, патрэбны яе носьбіты, носьбіты нацыянальнага духу, якія б сумелі данесці свае думкі і парыванні да кожнага. І з іх асяродка — лідэры, самаахвярныя, каларытныя, дасціпныя, шчырыя, паважлівыя, мудрыя, як і сам народ. Але... Але і гэта не ўсё. Патрэбен давер народа да свайго інтэлекту, да сваёй эліты. І ці не дзіва нам такога жадаць?!

Калі шчыра, мяне збянтэжыла вытлумачэнне асаблівасцей характару нашага народа, яго спакою, цярплівасці, так бы мовіць, абыдленасці, абыякавасці і інертнасці, запаволенасці, замаруджанасці — у адным з публіцыстычных опусаў — "Шестое оледенение" — у майго калегі Анатоля Казловіча. Ён тлумачыць ментальнасць беларуса не чым іншым, як уздзеяннем на яго цела і душу ледавікоў у ледавіковы перыяд, і бачыць у жыхарах, насельніках, сваіх земляках "отморозков". Падобны пасаж можна было б прыняць за дасціпны жарт і толькі. Аднак у мяне склалася ўражанне, што гэта падаецца ўсур'ёз. Довад, тым не менш, рассыпаецца у ледзяныя пырскі, калі прыгадаць, што ледавікі ляжалі не толькі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, але і Літвы, Латвіі, Эстоніі... То чаму ж там няма няўклюдных вымаразкаў?

Вернемся да сацыяльна-геапалітычных умоў. У складзе Рэчы Паспалітай беларускасць беларусаў была адсунута на другі план,

*(Працяг на стар. 14—15)*

ЛіМ **ЧАСАПІС**

## *"Славутыя імёны Бацькаўшчыны"*



**Па ініцыятыве Беларускага фонду культуры некалькі гадоў назад узнікла ідэя стварэння першага ў нашай краіне навуковага праекта пад назвай "Славутыя імёны Бацькаўшчыны", а таксама часовага навуковага калектыву па яго распрацоўцы. Гэтая ініцыятыва была падтрымана Дзяржаўным камітэтам па навуцы і тэхналогіях і Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь. Задача была ў тым, каб расказваць пра выдатных сыноў Бацькаўшчыны, якія ў розныя часы праславілі яе, а таксама пра тых, хто заявіў пра сябе за межамі Беларусі і на Радзіме. Паколькі работа гэтая аб'ёмная, вымагае вялікіх затрат, не ў апошнюю чаргу і фінансавых, было вырашана на першым этапе распрацаваць біяграфіі нацыянальных дзеячаў навукі, культуры, палітыкаў IX—XIX стагоддзяў. Работа па ажыццяўленні задумы пачалася з другога паўгоддзя 1998 года, а ўзначаліў часовы навуковы калектыў вядомы даследчык беларускай даўніны і грамадскі дзеяч, доктар гістарычных навук А. Грыцкевіч. Нядаўна з'явіўся першы выпуск кнігі, што мае гэткую ж назву, як і сам праект — "Славутыя імёны Бацькаўшчыны". Зборнік складаецца з лепшых прац, якія выкананы ў Беларускім фондзе культуры па заказе Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і пры дапамозе Дзяржаўнага камітэта па друку РБ. Укладальнікі кнігі У. Гілеп, А. Грыцкевіч, В. Кушнер, А. Тоўсцік сабралі 33 нарысы, што дазваляюць адчуць ("Славутыя імёны Бацькаўшчыны" разлічаны на навукоўцаў, выкладчыкаў навучальных устаноў, школ, студэнтаў, а таксама на аматараў даўніны) наколькі багатая наша зямля на яркія таленты, якія выдатна праявілі сябе ў розныя часы і ў розных галінах дзейнасці. А расказалі пра гэтых слаўных суайчыннікаў А. Грыцкевіч, Г. Галенчанка, У. Свяжынскі, Г. Барышаў, А. Жлутка, Г. Кісялёў, А. Мальдзіс, В. Грыцкевіч, В. Гапоненка, У. Мархель, В. Кушнер, Я. Янушкевіч.**

**Адкрываецца кніга артыкулам пра Еўфрасінню Полацкую. Апошнім часам пра гэтую выдатную дачку нашага народа, пра самую высокаадукаваную жанчыну свайго часу напісана шмат, але А. Грыцкевіч па-свойму падыходзіць да асэнсавання таго ўкладу, які ўнесла яна дзякуючы сваёй нястомнай, мэтанакіраванай працы. Гэтаксама ўсебакова паказвае А. Грыцкевіч і Мікалая Радзівіла, што таксама заслугоўвае пільнай увагі нашых сучаснікаў.**

**Ад нарыса да нарыса пракладваецца шлях з сівой мінуўшчыны ўсё бліжэй да сённяшняга дня. Артыкулы, нарысы змешчаны ў храналагічнай паслядоўнасці. Матэрыялы ж называюцца па імёнах і прозвішчах тых, пра каго расказваецца. Унізе ж пазначаны гады нараджэння і смерці, а ў канцы прыводзіцца выкарыстаная літаратура, а таксама выданні, якія могуць пра кожнага канкрэтнага чалавека расказаць яшчэ больш. Праўда, чытачы далёка не заўсёды змогуць імі пакарыстацца, бо многія з іх сталі даўно бібліяграфічнай рэдкасцю, знаходзяцца толькі ў буйнейшых кнігасховішчах, а многія на польскай і іншых мовах. У такім разе застаецца давяраць аўтарам артыкулаў і нарысаў. А не давяраць ім нельга, бо, як бачна па прозвішчах, гэта аўтарытэтныя, вопытныя даследчыкі і расказваюць яны пра тых, чыё жыццё і творчасць добра ведаюць. Для прыкладу, атрымліваеш задавальненне, калі знаёмішся з матэрыяламі, пад якімі значыцца прозвішча А. Мальдзіса. Адзін з яго нарысаў прысвечаны падарожніку Канстанціну Ельскаму. Прозвішча гэтае не сказаць каб шмат гаварыла аматарам даўніны, але, прачытаўшы напісанае А. Мальдзісам, несумненна зацікавішся гэтым неардынарным чалавекам: "Біяграфія Ельскага не вельмі багатая на фантастычныя эпізоды, эфектныя прыгоды. Нягледзячы на тое, што яго шлях пралягаў па экзатычных краінах, ён ні разу не тапіўся, не трапляў у кіпцюры драпежнага звера, не абрываўся са скал. І ўсё ж жыццё нашага земляка — гэта бесперапынны подзвіг, яркі прыклад штодзённага працавітага служэння навуцы. Падарожнік і ўрач, батанік і заолаг, географ і геолаг, ён пакінуў прыкметны след у развіцці прыродазнаўства..." Сярод герояў кнігі, уступ да якой напісаў старшыня БФК У. Гілеп, — і А. Валовіч, С. Будны, Р. Сангушка, В. Цяпінскі, Ф. Еўлашоўскі і іншыя.**

**Міхась ГЕНЬКА**

# "Чарнобыльская малітва" на перакрыжаванні часу

ТАК ЗДАРЫЛАСЯ, што "Чарнобыльскую малітву" Святланы Алексіевіч я прачытала не адразу пасля выхаду кнігі (у Маскве, у 1998) і за трыдзевяць зямель ад тых мясцін, дзе адбылася сумна-памятная катастрофа. Але ўражанне было такое моцнае, што я доўгі час потым заставалася ў полі незвычайнага эмацыянальнага напружання. Можа, таму, што кніга чыталася на вялікай, заакіянскай, адлегласці ад месца рэальных падзей, на другім канцы зямлі? Бывае ж, што людзі, якія знаходзяцца ў эпіцэнтры дзеяння, страчваюць вастрыню яго ўспрымання, звыкаючыся з тым, што адбываецца... Так ці інакш, але ў мяне з'явілася ўнутраная патрэба выказаць свае думкі пра кнігу, упісаўшы яе ў кантэкст усёй творчасці пісьменніцы, бо творы яе ў маім успрыманні — гэта звёны аднаго мастацкага мінулага, жанрава змацаванага аўтарскім імкненнем знайсці адказ на нікім яшчэ не разгаданую загадку: "Што ж такое чалавек?"

Шлях, абраны аўтарам, — дакапацца да донных пластоў псіхалогіі з дапамогай самога чалавека, накіраваўшы яго позірк углыб ягонай душы, у падсвядомасць, у тайнікі яго "я". Інакш навошта было пісьменніцы — пасля першых кніг пра вайну — кідацца ў прорву пакутніцкіх перажыванняў чалавека, што вырашыў пайсці з жыцця, у кнізе "Зачараваныя смерцю"? Смерць як завяршэнне жыцця павінна дапамагчы разуменню вышэйшага сэнсу быцця, адказаць на пытанне: "За што чалавек адказны?", "У чым яго заслуга і віна?"

Для аўтара гэта не толькі абстрактнае пытанне. Паколькі мноства разбітых лёсаў звязана з разбурэннем камуністычных ідэалаў, пытанне паўстае зусім канкрэтнае: "Хто вінаваты ў гэтым правале: ідэя або чалавек?" І адказ, які мы чуем з вуснаў ахвяр лёсу або іх блізкіх, неадназначны. "Пры чым тут ідэя?" — гавораць адны. Ідэя, лічаць яны, нараджаецца ў душы чалавека, гэта ён рэалізуе яе, і ён сам вінаваты ва ўсіх няўдачах, бо не мяняецца, не ўдасканальваецца "з часоў старога Рыма і старажытнага Ерусаліма". "Не! — спрачаюцца іншыя, — вінавата ідэя, ідэя-забойца, калі ёй падпарадкуецца ўсё жыццё чалавека, усе яго парыванні". Сам жа аўтар цвёрда перакананы ў адным: "Ніводная ідэя не роўная чалавечаму жыццю, бо яно, жыццё, як і яго пакуты, унікальнае, бо чалавек даражэй за перакананні".

Думаецца, што гэтая выснова, да якой прыйшла Алексіевіч у "Зачараваных смерцю", шмат у чым вызначыла бескампраміснасць яе пазіцыі адносна вайны ў "Цынкавых хлопчыках". Антываенны пафас першых яе кніг — "У вайны не жаночы твар" і "Апошнія сведкі", — дзе аўтар шукаў новы паварот ваеннай тэмы, зыходзячы з "вопыту душы чалавечай", загучаў тут адкрыта, на поўны голас, непрымірыма. І гэта зразумела, бо гаворка ідзе пра зусім іншую вайну, абсалютна не параўнальную з той, Вялікай Айчыннай, што несла ў сабе высокі адухоўлены патрыятычны пачатак. Аднак размова ў кнізе вядзецца яшчэ больш шырока — не толькі пра непатрэбнасць і вычварнасць Афганскай вайны, але і вайны наогул як спосабу высвятлення адносін паміж дзяржавамі і народамі. Развагі пра вайну ставяць пад сумненне канцэпцыю яе ідэалізацыі і хадульнай гераізацыі. "Не, з вайны не вяртаюцца героямі", — палемічна спрачаецца адзін з яе ўдзельнікаў. Бо там забіваюць.

У абгрунтаванне свайго непрымання традыцыйнай ваяўнічай свядомасці "дзеючай асобы" прыводзяць і такія аргументы: вайна змяняе светаўспрыманне чалавека, робіць яго жорсткім, а смерць звычнай, што ў канчатковым выніку абясцэньвае жыццё; чалавек, які ваяваў, і пасля вайны яшчэ доўгі час, па інерцыі, знаходзіцца ў каардынатах крывавага ваеннага часу і працягвае страляць, хаця, здавалася б, навалюваўшыся, ён ужо больш "крыві не захоча", што стварае вялікія псіхалагічныя цяжкасці для яго, калі падыходзіць час вяртацца ў мірнае жыццё.

У развянчанне апафеозу вайны аўтар дадае яшчэ адзін аргумент: вайна спрашчае чалавечую псіхалогію, бо там не трэба надта думаць. У аўтарскіх дзённікавых запісах да кнігі мы знаходзім, відаць, не выпадковую спасылку на Дастаеўскага, які пісаў, што ваеннае саслоўе — гэта звычайна людзі, не схільныя глыбока задумвацца. Пісьменніца, такім чынам, збірае ў адзін вузел падобныя меркаванні-сцверджанні — у процівагу распаўсюджанаму ў псіхалогіі людзей успрыманню вайны як непазбежнай і натуральнай з'явы чалавечага жыцця.

У "Цынкавых хлопчыках" можна заўважыць і мастацкі зрух: прастора душы чалавечай пашырылася. Пісьменніца загаварыла пра біялагічную прыроду чалавека, у кнізе загучалі біблейскія матывы, якія надаюць падзеям водсвет вечнасці, універсальны, усеабдымны сэнс.

Што ж новага — у мастацкім сэнсе — адкрылася нам у "Чарнобыльскай малітве"? На маю думку, усё набытае Святланай Алексіевіч з вопыту сваіх папярэднікаў і настаўнікаў у дакументальнай прозе — Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Уладзіміра Калесніка, Данііла Граніна, — памножанае на талент аўтара, сутыкнуўшыся са спецыфікай самога матэрыялу, трагічнага па сваёй прыродзе, высвяцілася тут ярчэй, у найбольш спелай і цэласнай выяве. Адсюль і такое моцнае эмацыянальнае ўражанне ў мяне як чытача.

Сваю мастацкую задачу пісьменніца акрэсліла такім чынам: ісці ад "чалавека да чалавека, ад дакумента — да вобраза", вобраза чалавека і вобраза часу ў канчатковым выніку. І свой жанр яна вызначыла як "жанр галасоў". Але прапускаючы праз сябе гэтыя "галасы", гэтыя гарачыя аповеды-споведзі, сам аўтар бярэ на сябе ролю галоўнага рэжысёра, які стварае ўласны сцэнарый. Гэта ён дае сваім героям штуршок, імпульс памяці, накіроўваючы іх па тым рэчышчы, што вядзе ў інтымны свет душы, прыадчыняе драматызм той ці іншай падзеі, яе ўспрымання. З мноства выслуханых галасоў адбіраюцца, вылучаюцца найбольш цікавыя, шчырыя, яны кампазіцыйна выстройваюцца па аўтарскай логіцы і па законах унутранага счаплення і ўзаемнай падсветкі. Галасы-маналогі зліваюцца ў хор (як у старажытнагрэчаскай трагедыі), але асобны голас у ім не тоне, ён нясе ў сабе свой сюжэт, свой лёс.

І тэкст споведзей, які захоўвае фарбы жывой гаворкі з яе афарызмамі, народнымі выразамі, анекдотамі, горкім гумарам, і аўтарскі кантэкст знаходзяцца ў цесным узаемадзеянні. Прысутнасць аўтара выяўляецца не толькі ў скупых рэмарках, тыпу: "плача", "задумваецца", "ці то прыслухоўваецца да сябе, ці то спрачаецца з самім сабою" і г. д. У "Інтэрв'ю аўтара з самім сабой" пісьменніца нароўні з іншымі ўдзельнікамі "хору" сама робіцца дзеючай асобай, уступаючы ў дыялог з чытачом і раскрываючы яму сваю мастацкую задуму: "Мяне цікавіла не сама падзея: што здарылася ў тую ноч на станцыі і хто вінаваты, як прымаліся рашэнні, колькі тон пяску і бетону патрабавалася, каб узвесці саркафаг над д'ябальскай дзіркай, а адчуванні, пачуцці людзей, што дачыніліся да невядомага. Да таямніцы. Чарнобыль — таямніца, якую належыць разгадаць. Мабыць, гэта задача на XXI стагоддзе. Выклік яму. Што чалавек там зведаў, адгадаў, адкрыў у самім сабе? У сваіх адносінах да свету? Рэканструкцыя пачуцця, а не падзеі". І яшчэ адно аўтарскае прызнанне: "Я шукала чалавека моцна ўражанага, які адчуў сябе сам-насам з гэтым. Які задумаўся".

У выніку кніга атрымалася шокавая, абпальваючая і шматслойная, бо яна пра жыццё і смерць, боль і чалавечыя пакуты, пра любоў і нянавісць — пра вечныя пытанні, якія не даюць спакою чалавеку і на якія няма адказу.

На паверхневым апавядальным узроўні перш за ўсё вымалёўваецца палітычная рэальнасць, на фоне якой разгортваецца чарнобыльская катастрофа. Як здарылася, што на забруджанай радыяцыяй зямлі па-ранейшаму сеялі, збіралі ўраджай (планы спускаліся "зверху", як і заўсёды), дэманстравалі сваю рэвалюцыйную салідарнасць пад небяспечным першамайскім сонцам? Газеты пісалі, што паветра над рэактарам чыстае, а дазіметры тым часам зашкалівалі. Бессаромна падманвалі народ, не гаварылі яму праўды, быццам бы дзеля таго, каб перасцерагчы ад панікі. Заходнія галасы глушыліся. Трагедыю здымаць забаранялася. Медыкам прадпісвалася не гаварыць праўду. Начальнікі на месцах чакалі ўказанняў зверху.

Калі на Украіне адразу пачалі біць трывогу, то беларускія вярхі займалі спакойна-выжывальную пазіцыю, нягледзячы на адчайныя перасцярогі акадэмічных вучоных-фізікаў. Менавіта праз іх і прасочвалася праўдзівая інфармацыя да насельніцтва. Памятаю, як тагачасны прэзідэнт Беларускай акадэміі навук Барысевіч Мікалай Аляксандравіч 26 красавіка тэрмінова склікаў усіх дырэктараў акадэмічных інстытутаў, каб расказаць пра тое, што адбылося, і даць самыя неабходныя, элементарныя парады па прафілактыцы (натуральна, з агаворкай "не разводзіць паніку"). Супрацоўнікі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы без затрымкі атрымалі гэтую інфармацыю з вуснаў колішняга яго дырэктара Віктара Антонавіча Каваленкі. Біў трывогу ў вярхах Алесь Адамовіч.

У кнізе, у споведзях яе герояў дзяржава выглядае як вялікі падманшчык. Але аўтар не прымае прасталінейнай антытэзы: злачынная дзяржава — святы народ, бо і ўрад з яго чыноўнікамі, і народ з'яўляюцца ў канчатковым выніку ахвярамі Чарнобыля і заложнікамі савецкай сістэмы, у якой чалавечае жыццё абясцэнена, а страх за сябе і блізкіх заглушаецца праслаўтым калектывізмам. У гэтым сэнсе паводзіны людзей, заспетых чарнобыльскай катастрофай, часта напамінаюць ваенны час з яго безаглядным уздымам і самаадданасцю: "закрыць амбразуру грудзямі", хоць гэта была зусім не тая сітуацыя, калі трэба паміраць за Радзіму. Але гераізм і пачуццё абавязку сапраўды штурхалі ўдзельнікаў падзей у самае пекла, на дах рэактара, без спецадзення і без усялякай думкі пра матэрыяльныя выгоды, якія звычайна ў гэтым выпадку абяцала дзяржава і аб якіх яна потым забывалася. "На рэактары, як у акопе на пярэднім краі..." — успамінае адзін з герояў.

Аналогіі з вайной праходзяць праз усю кнігу: нязгасная крывавая памяць... Але тое, што адбылося ў Чарнобылі, разумеюць удзельнікі падзей, страшэнней за вайну, "больш чым вайна", "над войнамі вайна". Аказваецца, што меркі вайны тут не падыходзяць, бо тое, што здарылася, непараўнальна ні з чым, не паддаецца разуменню.

Святлана Алексіевіч не баіцца сказаць аб чалавеку праўду, канцэнтруючы ўвагу на найбольш важных момантах, што закранаюць сутнасць чалавечага быцця.

Перш за ўсё — гэта ўзаемаадносіны чалавека і маці-прыроды, якія змяніў, ускладніў Чарнобыль. З аднаго боку, прырода стала нязвычна варожай, небяспечнай, адчужанай: усё жывое, раней такое блізкае — дрэвы, кветкі, трава, рэкі і азёры, лугі і нівы, птушкі і звяры, — перасталі быць сваімі, бо да іх нельга дакрануцца, нават водар кветак прыносіць шкоду. "Ты ведаеш, — прызнаецца маці дачцэ, — я ненавіджу кветкі і дрэвы", бо ад усяго гэтага ідзе атрута. Яна сама пужаецца ўзнікшага свайго пачуцця. З другога боку, прырода наблізілася да чалавека, бо яна стала такой жа ахвярай, як і ён сам, і таксама выклікае спачуванне і боль. "Я наблізіўся да жывёл... Да дрэў і птушак... Яны мне цяпер бліжэй, чым раней", — гаворыць чалавек з мастацкім бачаннем свету, кінааператар.

Такое ўспрыманне рэчаіснасці, як вядома, блізкае дзецям з іх асаблівасцямі светабачання і вобразнасцю мыслення. Трагедыя жывой прыроды, з якой яны знаходзяцца ў незвычайна арганічнай, родна-

снай блізкасці, успрымаецца імі неадрыўна ад уласнай. Вось, напрыклад, малюнак Чарнобыля ва ўяўленні дзіцяці: ходзіць па чорным веснавым полі бацян. Да малюнка подпіс: "Бацяну ніхто нічога не сказаў". А вось кароткі дзіцячы аповед пра расставанне з родным домам: "У доме мы пакінулі свайго хамячка. На два дні яды яму пакінулі. А паехалі назаўсёды..."

Як чалавек паводзіць сябе ў экстрэмальнай сітуацыі, калі вымушаны пакінуць свой родны кут? Чаму на чарнобыльскай зямлі, дзе жыць — значыць марудна паміраць, апынулася шмат старых, што насуперак інстынкту самазахавання адмовіліся памяняць свае месца жыхарства?

Зразумела, сваю ролю адыграла тут элементарнае неразуменне страшэннай пагрозы, але галоўнае ў гэтай анамальнай сітуацыі, відаць, — пачуццё роднага гнязда, дома, сіла прыцягнення роднай зямлі, якія прымушаюць простых людзей, нягледзячы на забароны і процідзеянне міліцыі, уначы, крадком, ляснымі сцежкамі, перадольваючы ваенныя заслоны, вяртацца на атручаную стронцыем і цэзіем зямлю. "Няхай яна атручаная, з радыяцыяй, але гэта мая радзіма", — упарта тлумачаць яны свае паводзіны і гатовы ісці пешшу 20 км. па хлеб, сядзець увечары пры лучыне ці газавай лямпе. А тыя, хто нарэшце наважыліся рушыць з роднага дома, робяць гэта з непазбыўным сумам і горыччу, пакідаючы свае імёны на хатах, бярвеннях, забіраючы з сабою ў мяшэчкі жмені зямлі з родных магілак згодна з народнай традыцыяй. "Памыла хату, печку пабяліла... Трэба пакінуць хлеб на стале і соль, міску і тры лыжачкі. Лыжак столькі, колькі душ у хаце... Усё, каб вярнуцца".

Ёсць у кнізе, аднак, яшчэ адзін матыў, які ўтрымлівае жыхароў Прычарнобылля на месцы, — пачуццё свабоды, незалежнасці — ад дзяржавы, ад начальства, ад закона: "Улады ніякай. Тут чалавеку ніхто не перашкаджае... Ні начальства, ніхто". І яшчэ: "Бардак у краіне — і сюды бягуць людзі. Ад людзей бягуць, ад закона". Людзі адчуваюць адчужэнне не толькі ад улады, але і ад сабе падобных, калі тыя страчваюць свой гуманны, чалавечы твар. А між тым "чалавеку патрэбны чалавек", і зверу ён патрэбны, і "дом не можа без чалавека". Людзі шукаюць перш за ўсё сапраўды чалавечае ў чалавеку, а яно ярчэй за ўсё раскрываецца ў пачуцці любві.

У кнізе моцнае святло любові асвятляе чорную бездань Чарнобыля. Два маналогі, у пачатку і ў канцы, што абрамляюць людскія аповеды (і той, і другі маюць аднолькавую назву: "Адзінокі чалавечы голас"), ствараюць кантрапункт твора і нясуць у сабе не новую, але абнадзейлівую думку: свет выратуецца любоўю. Я назвала б гэтыя выпакутаваныя жаночыя споведзі — на ўзроўні падсвядомасці — высокімі трагічнымі паэмамі пра любоў. Дантаўская любоў, што "рухае Сонца і свяцілы", вымалёўваецца тут як выхад чалавека за межы свайго ўласнага "я" і паўсядзённага існавання, за грань свядомасці, паміж быццём і небыццём.

Цуд любові ўзнікае адначасова з адчуваннем жаху чарнобыльскай рэальнасці, якая ўзнаўляецца з жорсткім рэалізмам дэталяў, калі любімы чалавек ператвараецца ў "рэактар", у радыеактыўны аб'ект з высокай дозай заражэння.

Мы чуем перапоўненыя каханнем галасы жанчын, якія ў сваім вялікім самазабыцці, у нястрымным сваім парыванні — растварыцца ў каханым чалавеку — знаходзяць сэнс жыцця. Разам з тым праз гэтае каханне ім адкрываецца нешта такое, што знаходзіцца ў нейкім новым — па-за свядомасцю — вымярэнні.

Любоў — пакута і шкадаванне, любоў — цярпенне і самаахвярнасць, гэтая запаветная мастацкая думка Дастаеўскага ў кнізе Святланы Алексіевіч прачытваецца сёння як альтэрнатыва, супрацьвага той хвалі зла, нянавісці, нецярпімасці, што захліснула свет. Любоў як маральная аснова жыцця толькі і можа зменшыць крытычна назапашаны ў свеце ўзровень зла. Таму і новая кніга пад назвай "Цудоўны алень вечнага палявання", над якой цяпер працуе пісьменніца, будзе пра любоў. Я чакаю яе з прадчуваннем таго, што ў ёй зноў і яшчэ шырэй прыадчыняцца дзверцы, якія вядуць у патаемныя куточкі чалавечай душы, свядомасці і падсвядомасці. Для гэтага ж у канчатковым выніку і існуе сапраўдная літаратура.

**Эсфір ГУРЭВІЧ**

*Клііўленд*

ЮБІЛЕЙ

# Просты і значны

## Міколу ЕРМАЛОВІЧУ СПОЎНІЛАСЯ б 80 гадоў

Нямала асабістых, з вока на вока, сустрэч, размоў з Міколам Іванавічам даюць поўнае права заявіць: ён быў вельмі **просты** чалавек.

Зразумела, у паняцці простасці нямала адценняў: наіўны, шчыры, няхітры (значыць, для кагосьці некарыслівы альбо безразважны, лабаваты), але, па-іншаму, і адкрыты, надзейны, грунтоўны. Ермаловіч быў падобраму просты, меў у гэтым сваю сілу, хоць і зведаў ад гэтага нямала напасцяў. Ды ўрэшце дабіўся **таго**, чаго не змаглі і не змогуць дабіцца вужаватыя, замаскаваныя, агледлівыя і нібыта ўдалыя і паспяховыя, якія больш думалі, думаюць не пра справу, а пра сябе.

Просты шлях Міколы Ермаловіча пачаўся з таго, што ён проста, але і ад Бога, бацькоўскай волі напрыканцы красавіка 1921-га нарадзіўся ў простай сялянскай сям'і ў простых Малых Навасёлках Дзяржынскага раёна. Але тут і пачалося такое!.. Карацей, ягоная маці, Стэфка, бярэ яго, які яшчэ не ўмее хадзіць, з сабой на поле, дзе трэба жаць жыта. Паклала сына ў цяню за пастаўленымі снапамі, улюбёна захапілася нялёгкай, але радаснай жаночай працаю (успомнім верш-гімн Янкі Купалы пра беларускую жняю) і не агледзела, што снапы ўпалі і Яго Вялікасць Сонца, якое ўсім дае жыццё, не толькі ацапліла, але і пачало сляпіць яе дзіця (цяжка нават уявіць, што ў пажылыя гады Ермаловіч меў мінус 26 ці 27 зроку, мог чытаць і пісаць толькі пры лупе!). Далей — больш. Для акалечанага дзіцяці і для ўсёй сям'і — зноў гора і гора вялікае: у 1937-ым арыштоўваюць гаспадара, Янку, конюха, здаецца, за "вредительство", знішчаюць; Мікола неяк ацалеў у школе і нават паступіў у Мінскі педінстытут, скончыў некалькі курсаў, ды вайна; бежанства маладога патрыёта ў Мардовію і настаўніцтва там; пасля вызвалення ўсходніх раёнаў Беларусі імкненне вярнуцца на Бацькаўшчыну; рабунак на адной са станцый, дзе злодзеі, не знайшоўшы ў вузкім куфэрку скарбаў, са злосцю параскідалі яго кнігі і рукапісы; вакзальнае марненне ў Маскве, дзе аднойчы бег па вар і, паўсляпы, трапіў паміж буферамі вагонаў, выратавала спагадная маскоўская жанчына; акрыяў, пачаў ледзь-ледзь бачыць свет (у звычайным значэнні гэтага слова ў ружовым святле), трапіў на цягнік — і дамоў, пакуль што на Віцебшчыну, дзе яму, даволі ўжо адукаванаму, даручаюць наладжваць школьную справу; падаваўся ў адну з вёсак і ўдала прайшоў... замініраваную дарогу!..

Проста і няпроста, ад жыцця і Бога!

Далей настаўнічае, працягвае інстытуцкую вучобу, выкладае (у Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце), разам з іншымі рыхтуе педагагічныя кадры, працуе метадыстам і ў 1957 — у 36 гадоў! — пенсіянер з невялічкім акладам. Не кожны ўстоіць у гэтай сітуацыі, калі ты мусіш сысці са шляху на абочыну. Можна зняверыцца, запіць, загібець альбо весці паўмарнае жыццё.

Хто-небудзь, можа, і быў асуджаны на такое, але не Ермаловіч.

Некаторыя лічылі яго дахадзягам, г. зн. зусім слабым, але на самай справе гэта зусім не так, фізічна ён быў моцны чалавек (асабіста я і ў ягоныя семдзесят не здолеў адужаць яго руку, бачыў у гасцініцах, як ён падымаўся а палове шостай, гімнастываў, а затым абліваўся такой халоднай вадою, што пасля быў жах зайсці ў ванную). Падругое, ён быў моцны духам, учэпісты і настойлівы. Па-трэцяе, быў глыбока ўлюбёны ў сваё, роднае і непахісна верны яму. Пачцвёртае, меў жонку, якая была яго "вачыма": чытала яму дробнашрыфтныя тэксты, запісвала за ім, перадрукоўвала, гадавала сына і дачку, разам з усімі мужна вытрымлівала ўсе нягоды.



*У Дні пісьменства і друку на Магілёўшчыне, каля Баркулабава...*

Гэтыя і іншыя рэчы не маглі не падтрымаць ды натхніць Міколу Іванавіча ў зачэпцы за жыццё, за навукова-творчую дзейнасць. Ды не проста ў зачэпцы, а як некалі гаварылася, "у высока пастаўленых для сябе задачах". Дык вось вельмі многія бачылі, як гэты каржакаваты, крыху сутулены чалавек з пакоўным партфелем амаль штодня едзе з Маладзечна ў Мінск, сядзіць за кіпаю кніг у бібліятэках, вядзе ажыўленыя размовы і дыскусіі са знаёмымі і незнаёмцамі, заязрае ў літвыданні і навуковыя ўстановы, а познім вечарам едзе дахаты, дзе яго чакае яшчэ адна праца. Нават і такая, што з жонкай дзеля падзаробку клеілі з кардону скрыначкі-шуфлядкі для бібліятэчных картатэк.

Зрэшты, не варта перабольшваць, як сам расказваў, ён мог аступеніцца, стаць кандыдатам, а пасля і доктарам філалагічных навук (быў прымацаваны да аспірантуры), але ўхіліўся ад батона з маслам, не хочучы пастукаць: яму даручылі напісаць дысертацыю, прыкладна, на такую тэму: "Вобраз Леніна ў беларускім фальклоры". Шчыра і ў той жа час хітравата замахаў рукамі: ой, што вы, ды я не спраўлюся з такой складанай тэмай, а да ўсяго мой зрок не дазваляе мне шмат чытаць і пісаць!

Прызнаюся, нахонт гэтага асабіста я (зразумела, не зусім тактоўна) ушпільнуў: але ж і вы пісалі пра Леніна, называлі ягонае імя самым дарагім для нас! Мікола Іванавіч перастаў абаяльна, як гэта ён умеў, усміхацца і адказаў амаль так: па-першае, і ён пэўны час не цярпеў сталінаў-брэжневых, нават партыі, а вось Леніну верыў; па-другое, без 1917-га не было б ніякай Беларусі як такой, таму не варта тут разам з мыльнай вадой выплюхваць і дзіця; па-трэцяе вось ён асабіста не асуджае многіх тых, хто пісаў пра Леніна, нават пра партыю, бо многія дбалі не толькі пра сябе, а і пра тое, як **ратаваць** (нават ад сваіх, мясцовых асімілёўшчыкаў) наш скалечаны стагоддзямі, зняможаны войнамі, амаль абязмоўлены народ. Таталітарная сістэма не толькі з пісьменнікамі, але і з кожным паводзілася і будзе паводзіцца толькі так: ці з намі ці супраць нас. З намі — можа, і пакінем жыць. Хоць крыху, нават у думцы супраць — цябе тут жа ў лагерны пыл... Ды ўсё ж, беларуская савецкая літаратура, як бы на яе цяпер не наскоквалі шпанюкі ці сівыя графаманы, не толькі адбылася, але стварыла і шэдэўры, зрабіла сваю выратавальную справу. У прынцыпе, здаецца, з думкай Міколы Іванавіча нельга не пагадзіцца.

Ермаловіч на працягу 1940—90-х гадоў надрукаваў даволі шмат рэцэнзій, водгукаў, артыкулаў як пра нашу класіку, так і пра яго сучаснікаў (да слова, я ўдзячны, што ён заўважыў маю другую кнігу прозы і ў "ЛіМе" за 17 верасня 1976 года адгукнуўся на яе рэцэнзіяй пад прыемнай для мяне назваю "Экзамен вытрыманы"). Але паступова ён усё больш і больш адыходзіў ад літаратуразнаўства, яго ўсё глыбей зававблівала наша гісторыя. Таму ўсё часцей пачалі друкавацца ягоныя гістарычныя даследаванні — грунтоўныя і часамі спрэчныя, спантанныя і мэтанакіраваныя, але заўсёды шчырыя і штораз з большым заглыбленнем. Паступова сваімі публікацыямі, рукапісамі, што пераходзілі з рук у рукі, ва ўмовах жорсткага паліткантролю за ўсімі публікацыямі, падручнікамі, асабліва пра нашу гісторыю, ён пачаў афармляцца ў выказніка беларускай нацыянальнай ідэі і яе гістарычнай канцэпцыі. Зразумела, адных гэта ўсцешыла, абудзіла, акрыліла, а іншых запалохвала, даводзіла да шаленства. За ім пачалі сачыць у поўным сэнсе гэтага слова, яго пачалі закрыть і адкрыта цкаваць, з ім праводзілі "собеседования", яму пагражалі...

Той-сёй з былых, акрыяўшы цяпер, іранізуе: літаратуразнаўства страціла прафесіянала, а гістарыяграфія набыла "аматара". Не, шаноўныя. Можна пагадзіцца з вамі, што ў Міколы Іванавіча не заўсёды і не ва ўсім акадэмічны жалезабетонны стыль, можна спрачацца з яго асобнымі думкамі альбо тое-сёе дапаўняць, але нідзе не дзенешся: менавіта ён стварыў "Па слядах аднаго міфа" і "Старажытную Беларусь", дзе ўвёў ва ўжытак шмат новых гістарычных крыніц ці некаторыя з іх, як тую ж "Ипатьевскую летопись", прачытаў па-новаму, без замоўчванняў і падтасовак, менавіта ён услед за некаторымі папярэднікамі і сучаснікамі ўзмацніў думку нахонт нашай дзяржаўнасці з IX ст., з часоў Рагвалода і Тура, вызначыў ролю сённяшняга Навагрудка ў закладзе падмурка Вялікага Княства Літоўскага і тым самым высакародна абуджаў ад сну, ляноты нашай думкі і душы, да абуджэння гістарычнай памяці, без якой не было і не будзе ні аднаго народа, ні адной дзяржавы. Нават без аднаўленых Мірскага замка ці Нясвіжскага палаца...

Так што гэта — не аматарства, гэта — подзвіг...

...Афіцыйных некралогаў пра яго, чалавека, пісьменніка, гісторыка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, здаецца, не было. Ды быў, ёсць і будзе Ён сам!

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

КНІГАРНЯ

# Працяг вясковазнаўчай серыі

Пэўную вядомасць (асабліва сярод краязнаўцаў) набыла серыя нарысаў "Ведаць свой край — Беларусь". Распачаўшы яе выпуск, выдавецтва "Пейто" (прыватнае, між іншым) паставіла перад сабою наступную задачу: кожная з кніжачак прысвячаецца асобнаму паселішчу. І вось да чытача прыйшла сёмая па ліку "вясковазнаўчая энцыклапедыя". Праўда, гэтым разам у серыі прадстаўлены фальварак "Карпілаўка".

Аўтар Уладзімір Содаль дасведчаны багушэвічазнаўца, вопытны літаратурны краязнаўца, расказвае пра Карпілаўку ў судакрананні з жыццём і творчасцю празаіка Ядвігіна Ш. Менавіта ў Карпілаўцы наапісаны многія яго мастацкія творы, публіцыстычныя артыкулы. Якраз у фальварку пісьменнік сустракаўся з Янкам Купалам (тут вялікі песняр чытаў болей сталаму па гадах літаратару сваю камедыю "Паўлінка"), Максімам Багдановічам, Змітраком Бядулем, Зоськай Верас, Аляксандрам Уласавым... З Карпілаўкай звязаны лёсы і дачкі Ядвігіна Ш. — Ванды Лявіцкай, і яго зяця — Язэпа Лёсіка.

Нарыс У. Содаля нагадвае: многія мясціны Беларусі носяць выразнае вызначэнне "літаратурныя сядзібы". Але толькі некаторыя з іх ушанаваны пільнай увагай літаратуразнаўцаў і краязнаўцаў. Магчыма, прадметам уважлівага, грунтоўнага разгляду будучых аўтараў "вясковазнаўчых энцыклапедый" стануць такія літаратурныя вёскі, паселішчы, як Рудзенск Пухавіцкага (з ім звязаны імёны Міхася Чарота, Міхася Пянкрата, Уладзіміра Ляпёшкіна, Кастуся Цвіркі, Таісы Бондар, Казіміра Камейшы), Вялікі Бор Хойніцкага (тут нарадзіліся Барыс Сачанка, Барыс Пятровіч, Змітро Бяспалы, Алесь Шлег), Давыд-Гарадок Столінскага раёна (у горадзе жыла Лідзія Абухава. Нарадзіліся Леанід Драньо-Майсюк, Уладзімір Глушакоў, Георгій Марчук). А выдавецтва "Пейто" і надалей спрычыніцца да друкавання такіх літаратурна-краязнаўчых летапісаў.

**Мікола МІРШЧЫНА**

ПРОЗА

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# СТАРАСВЕЦКІЯ МІФЫ ГОРАДА Б*



## Адысей і Сірэны

***Сірэны — паўптушкі-паўжанчыны, якія заманьвалі сваімі чароўнымі спевамі мараходаў на смертаносныя скалы. Толькі Адысей змог беспакарана паслухаць іх спевы, бо загадаў сваім сябрам заляпіць вушы воскам, а яго самога прывязаць да мачты.***

**Старажытнагрэчаскі міф**

Горад Б* цяжка назваць Венецыяй. Нават сіняй травеньскай ноччу, калі яго вулкі затапляе мора веснавога водару, а цёмная лістота бэзу і язміну са светлай пенай квецені і самаму беднаму ўяўленню нагадвае хвалі...

Не, ніхто і ніколі не параўноўваў горад Б* з Венецыяй! А між тым хіба дзесьці яшчэ на свеце ёсць такія галасістыя дзяўчаты, хіба дзесьці так працінае цёплае вечаровае паветра чыстая, як месяцовы прамень, песня? А зухаватыя хлопцы горада Б* — хіба не падобныя яны да венецыянскіх гандальераў, калі плывуць іх постаці ў святочных вышыванках ля прысадаў дома, дзе жыве асабліва прыгожая паненка, і лунае над імі вечная песня вясны і кахання, якая не змянілася ад часоў Саламонавых?

Так, горад Б* спяваў не менш (а цалкам, магчыма, і не горш) за тую Венецыю...

Таму нікога не здзівіла, калі Апякунства народнай цвярозасці горада Б* аб'явіла аб стварэнні хору. Акрамя дабратворнага ўплыву песеннага мастацтва на тутэйшыя норавы, хор мусіў стаць крыніцай дабрачыннага збору сродкаў на падтрыманне тых жа нораваў на адпаведнай гордаму гораду Б* вышыні.

Друзлая сцэна летняга тэатра, на якой з прычыны працякання даху і праваливання пад нагамі дошак ужо гады з тры не было ніякіх тэатральных імпрэз, з глыбокай павагаю сустрэла пятнаццаць жаўронкаў горада Б*, самаадданых прыхільніц мастацтва і, вядома ж, народнай цвярозасці.

А самаадданае служэнне мастацтву (і тым больш цвярозасці) не можа не сустрэць водгуку ў шчырым недасведчаным сэрцы...

Тэлеграфнага служачага восьмага разраду Лютыся ніхто не назваў бы дасведчаным хоць у чымсьці, гэтак жа , як горад Б* не называюць Венецыяй. Нават Лютысяў бацька, тэлеграфіст са стажам, калі глядзеў на свайго нашчадка, які лена перацягваў з кута ў кут стосы паперы, а прыпухлыя, нібыта вечна заспаныя вочы скіроўваў пры гэтым плённым працоўным працэсе да столі, — нават гэты вытрыманы, паважаны чалавек з прыкрасцю грукаў худым кулаком па стале:

— Пакараў жа Гасподзь мяне, грэшнага, такім ёлупнем...

Не выяўляў Лютысь цікавасці ні да чаго карыснага, адно да калдуноў са смятанай. Скончыў ён чатыры класы рамеснай вучэльні і быў уладкаваны бацькам на ніжэйшую пасаду гарадской тэлеграфна-паштовай службы...

У летні тэатр гарадскога парку Лютысь трапіў таму, што пачаўся дождж, а ў кішэні была прыхаваная цыгарэтка, і сустракацца ні з кім не хацелася. Бо ўсе сустрэчныя заўсёды нечага ад небаракі Лютыся хацелі — каб ён ветліва павітаўся, зашпіліў каўнер, распавёў, дзе быў учора апоўдні ці заўчора вечарам, і чаму ў яго такі адсутны выгляд...Не, лепш пасядзець у ціхім спакойным месцы...

Але на гэты раз месца не было ціхім... У сырым памяшканні, адбіваючыся ад збуцвелых сцен размытым рэхам, грымнулі галасы хору Апякунства народнай цвярозасці...

Лютысь хацеў быў збегчы, але чамусьці не змог. Яны ўсе былі тут, на сцэне — і чарнявая паненка Анэля, і бялявая кірпаценькая Юзька, і рудая кучаравая Анця...Яны спявалі для яго, адзінага слухача, недарэкі Лютыся, і як спявалі! Райскія птушкі, аблокі з мігдалавага крэму, залатыя купалы і кедр ліванскі на прасторах Лютысевай душы!

Лютысь ніколі не быў у тэатрах, але ведаў, што пасля прадстаўлення трэба пляскаць у ладкі... Удзельніцы хору, заружавелыя, сціпла пакланіліся...Іхняя кіраўнічка, маладая жонка настаўніка літаратуры мужчынскай гімназіі, строга запатрабавала цішыні, узмахнула рукамі, і пад дзіравую столь ускрыліла новая песня...

Так Лютысь пачаў наведваць усе рэпетыцыі новага хору. Вядома, ён і раней чуў розныя спевы. І ад маці, і ад мясцовых дзяўчат... У параўнанні са спевамі хору гэта было што даматканая посцілка ў краткі перад крамным дыванком з чароўнымі пастушкамі ў гірляндах з ружаў... Хто прадугледзіць, як і калі прыгажосць пастукаецца ў ягоную душу? Харысткі пелі дзівосныя песні пра залатыя хмаркі і суровыя скалы, пра няшчасных сіротак і літасцівых пані, нарэшце, пра каханне, такое нябёснае і дасканалае, што Лютысь не разумеў і паловы слоў.

Харысткі хутка прывыклі да адданага паклонніка, які не стамляўся пасля кожнай песні біць у ладкі і так шчыра перажываў за кожную іхнюю ноту. Яго пасылалі купіць лядзенчыкаў ці піражкоў з капустай, прасілі прынесці бутэлечку сельтэрскай вады дзеля чысціні голасу. Ніхто са знаёмых не пазнаў бы тут Лютыся — вечна санлівы абыякавы твар гарэў такім энтузіязмам, які прыходзіць толькі да непаўналетняга юнака, які ўпершыню патрапіў на рэпетыцыю жаночага хору.

Дзіўна, але хаця Лютысь абагаўляў сваіх спявачак, кожная з іх паасобку як бы не цікавіла яго. Ні чарнявая Анэля, ні бялявая Юзька, ні нават рудая кучаравая Анця... А напэўна ж, кагосьці з іх ён сустракаў, і нават не раз, і па-за сцэнай летняга тэатра. Але яго абыякавы пагляд заўсёды кіраваўся міма, у тую кропку, дзе ззяюць залатыя купалы і спяваюць райскія птушкі... Дзе лунае звонкагалосы херувім з пятнаццаццю прыўкраснымі галовамі...

Вясна з усіх пор года мінае найхутчэй. Здаецца, толькі-толькі закружыла галовы, разгайдала сэрцы ў рытме першых дажджоў, а ўжо абсыпалася квецень, і птушкі , прыгнечаныя сямейнымі клопатамі, суцішылі пошчак. Апякунства народнай цвярозасці ладзіла першую вечарыну па дабрачынным зборы сродкаў на... Гісторыя не захавала звестак, на што менавіта, але ж мы з вамі не сумняваемся, што гэта была вартая, плённая ў справе падтрымання народнай маральнасці мэта.

"Цвіком" вечарыны мусіла стацца выступленне хору.

Ах, як яны хваляваліся, як прасавалі бялюткія каўнерыкі і манжэты, а на спадніцы нечакана выяўлялася пляма, якую зараз жа спрабавалі вывесці з дапамогай солі і праса, а ў гэты час з кудзерак выпадалі дзве папільёткі, а татка заўважаў, што папільёткі скручаны з сённяшніх непрачытаных "Губернскіх ведамасцяў", і ў давяршэнне брыдкая котка (ці малодшая сястрычка) скідала са стабурка парфуму... А ў горле невыносна казытала, і сціскала, і пякло...

Лютысь сядзеў у чацвёртым радзе амаль дыхтоўнага гарадскога клуба, у мундзіры тэлеграфнага службоўца, зашпіленым пад самае горла, і паблажліва пазіраў на стракатую публіку. А публіка сапраўды была стракатай — акрамя актывістаў руху за гігіену, санітарыю і, вядома, народную цвярозасць, былі запрошаныя прадстаўнікі таго самага народа — рабочыя з мануфактуры і бровара. Лютысю страшэнна не падабалася, што замест таго, каб стаіць дыханне ў чаканні цуду, многія перашэптваліся, перасмейваліся і нават рагаталі.

Але чаму яны не змоўклі, калі заспяваў хор?

— Бляюць, нібы козы някормленыя...— сярдзіта абазваўся нейкі грубіян за Лютысевай спіной.

Лютысь якраз вывучыўся, акрамя пляскання ў ладкі, гучна крычаць "Брава!" і "Біс!" Але ўсё-ткі не так гучна, каб заглушыць усе незадаволеныя галасы, смех і свістанне. А хор між тым намагаўся з усіх сіл. І панна Анэля, і панна Юзька, і рудая Анця, вытанчана склаўшы белыя ручкі перад сабой, падобна мармуровым анёлкам на каталіцкіх могілках горада Б*, старанна выводзілі рулады пра залатую хмарку і пра бедную сірацінку...

— Ну колькі можна нудзіць? Яшчэ па праграме чытальнік і піяніст. А калі ж танцы? — абураўся несвядомы люд. Але са сцэны пятнаццаць галасоў натхнёна зацягнулі раманс...

Так, пры поглядзе ў гэты момант на публіку гарадскога клуба самы мройнік пагадзіўся б, што горад Б* мала падобны да Венецыі. З-за куліс чырванатвары чытальнік з набрыялінанымі вусамі адчайна размахваў кнігай апавяданняў Чэхава — на знак кіраўнічцы хору заканчваць выступ.

Вось і растала цуда... Развеянае чараўніцтва... Хіба хопіць у кагосьці сілы захаваць свой чароўны востраў, калі любячыя бліжнія даходліва патлумачылі, што той востраў — толькі купінка пасярод свойскага балота? Яны ж такія клапатлівыя і разумныя, нашы бліжнія... Яны заўсёды аберагаюць нас ад непатрэбных, няхай і прыгожых, летуценняў.

На наступны дзень мусіла адбыцца чарговая рэпетыцыя. Сем самых стойкіх да жыццёвых няўдач паненак, якія сёння толькі і прыйшлі ў пусты летні тэатр, сумна зацягнулі пра залатую хмарку пад суровыя ўзмахі рук кіраўнічкі. Плач старазапаветнага прарока Іерэміі па зруйнаваным Ерусаліме і стогн наведніка Бурыгавай карчомкі па паўнюткім перакуленым на падлогу куфлі піва — ніштo ў параўнанні з той нябёснай тугой, з тым тужлівым шкадаваннем, якімі трымцелі абражаныя грубай рэальнасцю галасы парадзелага хору Апякунства народнай цвярозасці. Вось апошні гук растаў пад дзіравым дахам. А магчыма, праз тыя дзіркі, на цыраванне якіх сквапная гарадская рада не выдзяляе сродкі, узняўся той гук высока-высока, аж да нябёснага прастолу, дзе спяваюць райскія птушкі на аблоках з мігдалавага крэму...

І ці то з тых аблокаў, ці то з цёмнага кута сырога памяшкання летняга тэатра грымнула:

— Брава! Біс!

Верны Лютысь стаяў і зацята біў у ладкі, нязграбна прыціскаючы да сябе локцем вялікі букет хрызантэмаў.

І няхай дзесьці ў вялікіх бліскучых залах прымадонны з непамернымі бюстамі атрымліваюць ружы кошыкамі.

Хіба гэта прыгожа — кветкі ў кошыку?

І хор аднавіў свае рэпетыцыі. І наважваўся на новыя і новыя выступленні... І сціплы тэлеграфны службовец восьмага разраду заўсёды сядзеў у чацвёртым радзе справа, і крычаў свае "брава" і "біс", і шчыра перажываў за кожную нотку... І бегаў па асабістых просьбах па лядзенчыкі, а да Калядаў і Вялікадня абавязкова атрымліваў цэлы стос сурвэтачак, вышытых незабудкамі ці галубочкамі. Так што Лютысёва маці, гучнагалосая мажная кабета, разглядаючы прэзенты, расчулена выцірала слязу і думала: "Вылюднеў...Хутка жэніцца..."

Лютысь не зважаў, калі змяняліся харысткі, ці калі чарговы знаўца падчас іх выступаў хапаўся за галаву. Ну і няхай хапаецца, калі гэта ў яго слабое месца!

Бо херувімы пяюць на грэшнай зямлі толькі для абранцаў. І нават у горадзе Б*.

## Ахілесава пята

***Герой Ахілес меў непаражальнае цела, за выключэннем пяты. Сын цара Троі Парыс, які не вызначаўся ваеннымі талентамі, забіў героя, пацэліўшы яму стралой у гэтае адзінае паражальнае месца.***

**Старажытнагрэчаскі міф**

Калі сумленнаму абывацелю горада Б* не хапала ўласных праблем, ён пачынаў вырашаць праблемы грамадскія.

Праўда, сорамна прызнацца, гэткіх шчаслівых людзей у горадзе Б* жыло няшмат . Большасць абывацеляў корпаліся ў сваіх штодзённых асабістых справах, нараджаліся, жаніліся, сварыліся, паміралі і ведаць не ведалі пра новыя павевы ў цывілізаваным свеце. Так-сяк дзейнічалі Апякунства народнай цвярозасці і Гурток аматараў драматычнага мастацтва, і то дзякуючы хору і танцавальным вечарынам. Несвядомы люд насяляў горад Б*!

Мадам Касіо, утрымальніца пансіёна высакародных паненак горада Б*, раздражнёна адклала на ампірны столік газету. Нават у горадзе Н* стварылі Таварыства абароны жанчын! А тут — суцэльны патрыярхат, цямноцце.

Мадам Касіо карысталася павагай усяго горада Б*. Калі насустрач імкліва рухалася ейная танклявая высокая постаць у чорнай сукенцы з пышным карункавым каўняром і манжэтамі, увенчаная купалам сапраўднага парыжскага капелюша, нават самы смелы служачы сельскагаспадарчага банка — а пра служачых гэтага банка гаварылі, што з любога сарочку здымуць,— намагаўся збочыць, зрабіцца непрыкметным, як павуцінка бабінага лета. Абы толькі не наставіла мадам Касіо на цябе свой страшны ларнет, абы не сустрэцца позіркам з яе светлымі, як ільдзінкі, вачамі... Ну а зусім гора, калі скіруе на цябе мадам свой доўгі чорны парасон , калі прагучыць металёвае:

— Пра вашыя манеры, малады чалавек, я буду размаўляць з вашым "папа".

Таму ліст па збіранні сродкаў на стварэнне ў горадзе Б* Таварыства абароны жанчын падпісалі і сам губернатар, і паліцмайстар, і нават дырэктар сельскагаспадарчага банка Шкудровіч. Там, дзе металёвы голас і ларнет былі менш дзейсныя, у бяспройгрышную бойку ўступалі серабрысты галасок і сарамліва-прамяністыя пагляды маладзенькай мадэмуазель Нінэль, выкладчыцы музыкі і спеваў пансіёна мадам Касіо. Мадэмуазель Нінэль, або ў сапраўднасці засцянковая шляхцянка Ніна Гаршкова, мініяцюрная сільфіда ў німбе штучных локанаў, пазірала на сумніўцa справы абароны жанчын з такім натуральным жахам , з такім немым дакорам увасобленай жаноцкасці, што самае каменнае сэрца мусіла здрыганууцца, а рука — пацягнуцца падпісваць ліст.

Ніхто не ўстаяў перад двайным націскам актывістак прагрэсу. Ніхто... Акрамя Базыля Магарыша, уладальніка невялікага, але працвітаючага конезавода. Ах, якія коні былі ў Магарыша! Сытыя, гладкія, шыракаспінныя, нібыта створаныя вазіць рыцараў у поўным узбраенні. Праўда, набывалі іх для куды больш празаічных патрэб. Але коні прыносілі даход немалы. І не дзіва — Магарыш, палкоўнік- кавалергард у адстаўцы, свету не бачыў за сваімі грывастымі ўлюбёнцамі. Ні вясёлыя сябрукі, аматары халасцяцкіх уцех, ні прыўкрасныя паненкі горада Б* з пасагамі рознай велічыні не маглі звесці Магарыша з ягонага суровага мужчынскага шляху. Часам ён і сам нагадваў неаб'езджанага рысака — чорныя валасы грывай, бакенбарды і вусы неймавернай велічыні, ноздры раздзімаюцца, ногі ў кавалерыйскіх ботах нецярпліва пераступаюць, а на твары адно напісана — кажы, чалавеча, якая патрэба, ды збаў мяне ад сваёй прысутнасці.

Але Магарыш, як уладальнік буйнога (у межах горада Б*) капіталу, не мог быць прамінуты ў працэсе збору сродкаў на новае таварыства.

Як пунсавелі шчокі ў мадам Касіо, калі яна шпаркім крокам, у суправаджэнні зарумзанай мадэмуазель Нінэль, выходзіла з дубовых варот Магарышавага дома! Напэўна, каб патрапіў у гэтае імгненне якісь небарака пад прыцэл лінзаў ейнага ларнета, спапяліўся б, як волас над свечкай.

Гэта была параза. Мадам Касіо збіралася друкаваць падпісны ліст за стварэнне Таварыства абароны жанчын у губернскай газеце, разам з усімі сабранымі подпісамі... І сярод іх не будзе подпісу палкоўніка ў адстаўцы Магарыша! Палкоўнік славіўся не толькі дзікім норавам, але й тым, што мог шчодрай рукой адваліць грошай на карысную дабрачынную справу. Напрыклад, на палеанталагічны музей ці атлетычны гурток. Хадзілі чуткі пра незвычайныя акалічнасці ранняй адстаўкі палкоўніка. Нібыта быў ён западозраны ў сімпатыях да дзівакоў, што не надта любілі магутную імперыю, якая літасціва ўзяла пад сваё крыло тутэйшы край... Ды яшчэ меў палкоўнік дрэнны звычай згадваць былыя шляхецкія вольнасці гэтага краю і сваіх ваяўнічых продкаў, што змагаліся пад іншым, забытым цяпер, штандарам...І ці то Магарыш адмовіўся аддаць загад у некага страляць, ці то сам пацэліў не ў таго...

"А з-за жанчыны, пэўна, гісторыя была, таму й не любіць жанчын",— адмахваліся скептыкі. Але і яны пачціва кланяліся ды таемна зайздросцілі, калі Магарыш пралятаў па вуліцы горада Б* на сваім улюбёным чорным жарабку.

Але за пятнаццаць гадоў існавання пансіёна ніхто не наважыўся спрачацца з ягонай дырэктаркай.

Горад Б* з цікавасцю чакаў зыходу двубою.

Ніякія спробы расчуліць сэрца конезаводчыка не ўдаліся. Ён не баяўся гарадскіх улад, не заляцаўся да кабет, не напіваўся, што выключала наяўнасць сардэчных сябрукоў, і не меў сваячак з цвёрдым характарам.

(Працяг на стар. 12)

## Літаратурна-музычная вечарына

У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка ёсць музычна-педагагічны факультэт (або, як кажуць у народзе, "музпед"), дзе рыхтуюць выкладчыкаў музыкі для навучальных устаноў самага рознага тыпу — агульнаадукацыйных школ, школ мастацтваў, музычных вучэльняў. Неўзабаве факультэт адзначыць трыццаціголдзе з часу свайго заснавання.

Ёсць на факультэце літаратурна-музычная гасцёўня, у якой час ад часу ладзяцца сустрэчы з людзьмі мастацтва, якія маюць прафесійнае дачыненне да музыкі. Так, адной з першых была сустрэча са славутым беларускім харавым дырыжорам Міхасём Паўлавічам Дрынеўскім — народным артыстам Беларусі, мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча.

А зусім нядаўна на факультэце адбылася сустрэча з рэдактарам аддзела музыкі часопіса "Мастацтва", журналісткай і паэтэсай Таццянай Мушынскай. Вечарына атрымалася вельмі цёплай і сардэчнай. І таму, што на яе прыйшла кампазітар Алена Атрашкевіч разам з юнай спявачкай Вікай Падвербнай, адной з найбольш здольных сваіх вучаніц. (Дарэчы, у канцы мінулага года на III міжнародным адкрытым конкурсе выканаўцаў дзіцячай песні, які адбываўся ў Санкт-Пецярбурзе, Віка была адзначана прызам Саюза кампазітараў горада і дыпломам Міністэрства адукацыі Расіі).

У той дзень адбылася прэм'ера песні "Ціхі сон". Яе напісала кампазітар Алена Атрашкевіч на словы Т. Мушынскай. Спявала, вядома, Віка...

Вечарына атрымалася цёплай яшчэ і таму, што ў выкананні студэнтаў музычна-педагагічнага факультэта прагучала шмат музычных нумароў на словы паэтэсы — харавыя творы "Цыкорыя" і "Завіруха" з цыкла "Пейзажныя замалёўкі" (кампазітар А. Атрашкевіч), песні "Кліча нас з табой зіма" і "Шарык", напісаныя маладым маладзечанскім кампазітарам Віктарам Кажухарам, раманс "Малітва" з вакальнага цыкла "Споведзь жанчыны" (кампазітар Марына Марозава).

Шмат сваіх вершаў, прысвечаных вясне, каханню, жанчыне, чытала сама паэтэса. Чыталі яе вершы і студэнты. Харавыя і сольныя нумары будучыя педагогі падрыхтавалі пад кіраўніцтвам выкладчыка Тамары Сярновай.

Вяла вечарыну кандыдат мастацтвазнаўства Валянціна Чарняк.

Н. К.

## Чароўная калыханка мастачкі

Шматгранным талентам надзяліла прырода сучасную беларускую мастачку Ірыну Кузняцову. Яна малюе карціны, ставарае аб'ёмныя вітражы, прасторавыя кампазіцыі са шкла і літыя свяцільні, піша вершы і казкі... "І чараўніцтва сувязная ніць" — так назвала яна сваю першую кніжку вершаў у 1993 годзе (на рускай мове)... Пра ўсё гэта можна было даведацца, трапіўшы на адкрыццё канцэптуальнай выставы Ірыны Кузняцовай "Калыханка для сонца" ў Нацыянальнай бібліятэцы ў мінулым месяцы.

Трапны час выбрала мастачка для свайго "чароўнага дзейства" (а як інакш назваць таямнічае запальванне свечак і чытанне вершаў перад кожнай з выстаўленых карцін?). Калі зіма пераходзіць у вясну, а паветра насычана прадчуваннем сустрэчы з бліскучай сонечнай госцяй... Пятнаццаць квадратных палотнаў уяўляюць сабой нібыта пятнаццаць імгненняў доўгага сонечнага сну. Усе надпісы да палотнаў, на якіх звычайна змяшчаюцца назвы, складаюцца ў адзін верш "Калыханка для сонца":

Спіць куст, спіць загарадзь, спіць лес,

І дрэвы спяць, спіць горад...

Надрукаваныя на аранжавых лапіках — як сонечныя зайчыкі-блікі! — збіраюцца яны ў адзін вялікі аранжавы аркуш з тэкстам верша, які адкрывае ўсю экспазіцыю серыі. "Спружыны" і "пукатыя ніці" акрылавых фарбаў ствараюць хвалюючую дынаміку кожнага твора мастачкі.

На выставе дадаткова экспануецца і трыпціх "Туман над возерам Вурода", дзе мастацкія выявы і тэксты сустракаюцца разам проста на палатне (у аснове вобраза — таксама ўласны верш).

Паездкі па святых месцах, вельмі важныя для творчага пошуку мастачкі ў апошнія гады, зрабілі яе асабліва чуйнай да праблемы: хто мы ў свеце? "Мова мастацтва — гэта адзіны код, адзіная вібрацыя, адлюстраваная мной у розных жанрах", — сцвярджае Ірына Кузняцова.

Людміла СІЛЬНОВА




***Беларускі кіназнаўца Святлана Саўчык — заўсёдніца Берлінскага кінафестывалю, "наш чалавек" на гэтым фэсце. Штогод яна наведвае Берлін, адкуль прывозіць вельмі каштоўную інфармацыю пра міжнародныя кінапрэм' еры.***

***Сённяшні Берлінскі фестываль быў багаты на цікавыя фільмы, рэтраспектывы і ...сенсацыі. Напрыклад, у Берлінале-2001 брала ўдзел новая стужка беларускага рэжысёра-дакументаліста Ю. Хашчавацкага "Багі сярпа і молата" (нагадаю, што тры гады таму рэжысёр прывозіў у Берлін яшчэ адзін свой знакаміты відэафільм). Новая карціна дэманстравалася ў кінатэатры некалькі дзён і прыйшлася даспадобы нямецкай публіцы.***

***Пра новы фільм Ю. Хашчавацкага, а таксама пра ўсё, што адбывалася на Берлінскім кінафестывалі, расказвае С. Саўчык.***

# Інтымны фестываль

— Фільм Ю. Хашчавацкага ўдзельнічаў у праграме эксперыментальнага кіно "Форум." Відэастужка ішла ў кінатэатры тры дні. Я прысутнічала на двух праглядах і бачыла, што фільм вельмі спадабаўся многім гледачам (стужку адразу запрасілі на многія фестывалі). Калі прыехаў рэжысёр, адбылася працяглая дыскусія з ім, бо ў сваім новым фільме Хашчавацкі разважае наконт дачыненняў сённяшніх уладаў з праваслаўем. (Здымкі карціны фінансавалі французская кампанія "АРТЭ" і польскае тэлебачанне.) І Расія, і Беларусь сёння перажываюць рэлігійны рэнесанс у сваіх краінах: людзі зноў пачалі наведваць царкву, звяртаючыся перадусім да праваслаўнай веры. Як гэта магчыма, каб народ так хуценька адмовіўся ад ідэалогіі бальшавікоў і стаў зноў веруючым? Гэта пытанне даследуе Ю. Хашчавацкі ў сваім жывым, цікавым кінаэсэ, дзе выкарыстоўвае надзвычайныя архіўныя відэаматэрыялы. За 52 хвіліны на экране праходзіць гісторыя рускага народа ад Хрышчэння Русі да нашых дзён, якая суправаджаецца заканадравым, іранічным каментарыем беларускага рэжысёра. Ён упэўнены, што кінахроніка — гэта машына часу, дзе можна разгледзець шмат якія дэталі, убачыць шмат нечаканых рэчаў.

**— Святлана, я ведаю, што сёлетні фестываль быў, так бы мовіць, развітальным для легендарнага дырэктара Берлінале Морыца Дэ Хадэльна, які знаходзіўся на гэтай пасадзе дваццаць два гады. З якой прычыны адбылося гэтае нечаканае адхіленне, што казалі пра гэта ў Берліне?**

— Ведаеце, размовы пра неабходнасць змяніць фестывальную каманду ішлі вельмі даўно. Фэст меў патрэбу ў змене фестывальнай палітыкі, і вось з якой прычыны. Берлінале заўсёды лічыўся кінафэстам палітычнага накірунку, які ладкаваў своеасаблівы мост паміж краінамі Заходняй і Усходняй Еўропы, Азіі. Доўгі час на ім атрымлівалі ўзнагароды перадусім фільмы, якія сцвярджалі ідэі дэмакратыі. Але ўсё гэта мела сэнс, пакуль існавала Берлінская сцяна. З яе разбурэннем знікла і патрэба ў палітычных фільмах. У Еўропе ўсё істотна змянілася, людзі пачалі жыць зусім па-іншаму. Думаю, усё гэта падштурхнула арганізатараў фестывалю шукаць новую мадэль Берлінале. Уяўляю, як цяжка было знайсці замену такому паважанаму чалавеку, як Морыц Дэ Хадэльн, бо шыкоўнае абліччa сённяшняга Берлінале — гэта перадусім яго заслуга. Сёлета новы дырэктар не быў прадстаўлены, але вядома, што ён з іншага горада. Хутчэй за ўсё гэты чалавек прывязе сваю каманду, а гэта значыць, што змены закрануць увесь Берлінскі фестываль.

Акрамя прычыны, звязанай з аб'ектыўнай неабходнасцю звальнення Дэ Хадэльна, была яшчэ адна: дырэктара абвінавацілі ў тым, што фестываль вельмі залежыць ад Галівуда. Маўляў, мінулым разам Морыц "перабраў" з ім. Дырэктар абараняўся, казаў, што сёння ўся сусветная кінаіндустрыя трымаецца на Галівудзе і, каб фестываль быў камерцыйна паспяховым, неабходны ўдзел у ім амерыканскіх "каназорак". Я таксама не згодна з абвінавачваннямі, бо лічу, што дырэктар Берлінскага фестывалю якраз знайшоў "залатую сярэдзіну" паміж кіно і камерцыяй.

Трэба прызнаць, што дырэктар "адпомсціў" за тое, што быў вымушаны сысці. Нечакана скандальны фільм "Інтымнасць" быў узнагароджаны Гран-пры, каб яшчэ раз прагучала імя дырэктара кінафэсту, на якім было прынята такое надзвычай радыкальнае рашэнне адносна галоўнага прыза. І гэта яшчэ не ўсё. Звычайна, усе вялікія рэтраспектывы, якія праходзяць у рамках Берлінале, рыхтуюцца загадзя, таму што фільмы збіраюцца па ўсім свеце, па ўсіх сінематэках. На наступны год Дэ Хадэльн запланаваў рэтраспектыву фільмаў вядомага нямецкага рэжысёра Лені Рыфеншталь з нагоды яе 100-годдзя (яна дагэтуль жыве!). Гэта страшэнны скандал, бо такім чынам ён зрабіў мядзведжую паслугу новаму дырэктару: рэтраспектыва, якую ўжо пачалі рыхтаваць, можа сапсаваць яму рэпутацыю. Імя Лені Рыфеншталь хаця і належыць гісторыі нямецкага кінематографа (менавіта яна зняла дзве знакамітыя карціны гітлераўскай Германіі "Трыумф волі" ды "Алімпію"), але дагэтуль лічыць за лепшае пра яго не згадваць. Дэ Хадэльн вырашыў па-іншаму, а што вырашыць новы дырэктар — будзем бачыць у наступным годзе.

**— Памятаю тры гады таму, калі мы з вамі размаўлялі пра Берлінскі кінафестываль, вы падкрэслілі, што стужка-лідэр мусіла вызначыцца адразу. Ці было сёлета так?**






— На жаль, у гэтым годзе такога відочнага лідэра не было. Конкурсная праграма фільмаў уяўляла, так бы мовіць роўнае, павольнае цячэнне, якое не вызначала наперад стужку-пераможцу. Не было асабліва сенсацыйных імёнаў, якія б прыцягвалі ўвагу. Пакуль не вызначыліся намінанты на прэмію "Оскар", што звычайна адбываецца падчас Берлінале. Тады ў поле зроку трапілі і "Трафік" С. Садэрберга, і "Шакалад" Л. Холстрама, і "Малена" Д. Тарнаторэ. Напрыклад, адзін з фаварытаў "оскараўскай" гонкі — "Трафік" цалкам мог бы прэтэндаваць на "Залатога мядзведзя" як вялікае сацыяльнае кінапалатно аб праблемах наркаманіі. Але было зразумела, што першапачаткова рэжысёр задумваў не кіно, а грамадзянскую акцыю, зрабіўшы стаўку на масавага гледача. Таму некалі "сінефільны" Садэрберг прайграў на Берлінале. Затое камерцыйны поспех ягонаму "сацрэалізму галівудскай мадэлі" забяспечыў нядаўнішні "Оскар" за рэжысуру.

Новы фільм Л. Холстрама "Шакалад", у якой сыгралі Жульет Бінош, Джоні Дэп і Джудзі Дэнч, адкрываў гледачу свет правінцыйнага французскага гарадка, у якім адзінокая жанчына з дзіцём трымае кандытарскую. Шакалад, які ў кінастужцы з'яўляецца метафарай шчырага кахання, упрыгожвае жыццё счарсцвелых пурытанаў. Гераіня цярпліва прывучае гараджан атрымліваць радасць ад жыцця, нягледзячы на абвінавачванні з боку царквы ў яе стасунках з д'яблам. Але менавіта ў гаспадыні кандытарскай прыхаджане знаходзяць разуменне і суцяшэнне. Фільм "Малена" італьянскага рэжысёра Д. Тарнаторэ вельмі чакалі на фестывалі. На жаль, гэты фільм з выбітнай аператарскай работай, з непараўнанай Монікай Бялучы ў ролі прыгажуні Малены, не выклікаў асаблівага ўзрушэння. Рэжысёр зрабіў класічнае італьянскае кіно, адкрыўшы новую Сафі Ларэн. Гэты фільм распавядае пра пяшчотнае захапленне трынаццацігадовага падлетка мясцовай красуняй Маленай, якая знаходзіць у ім сапраўднага вздыхатара. Жанр стужкі можна вызначыць як рэтра-меладраму, дзеянне фільма адбываецца падчас другой сусветнай вайны. Адзначу, што фільм Тарнаторэ аздоблены цудоўнай музыкай Э. Марыкона.

Сёлета на фестывалі было шмат заміляваных, сімпатычных фільмаў без надрываў, істэрык. Было такое адчуванне, што кіно зрабілася больш добрым, чалавекалюбным. І самы яскравы прыклад такога гуманістычнага кіно — гэта фільм "Італьянскі для пачаткоўцаў" дацкай рэжысёркі Л. Шэрфінг, прадстаўніцы славутай "Догмы". Ён распавядае пра адзінокіх жыхароў Капенгагена, якія сустракаюцца на курсах вывучэння італьянскай мовы. Здаецца, даволі сціплы, нават "мыльны" сюжэт, але знаёмыя сітуацыі, клішэ паказаны настолькі свежа, з нейкім унутраным святлом, добрым гумарам, што назіраючы фільм да лепшых італьянскіх камедый часоў неарэалізму. Фільм Л. Шэрфінг — першы выпадак калі фільм такога кшталту стаў касавым, меў вялізны камерцыйны поспех, атрымаў шмат прызоў. У Берліне "Італьянскі для пачаткоўцаў" быў уганараваны адным з галоўных прызоў фестывалю "Срэбраным мядзведзем", а таксама прызамі журы кінакрытыкаў і экуменічнага журы.

...Англійская стужка "Пяро маркіза дэ Сада" з Кэйт Уінслет і амерыканскі блокбастар "Ганібал" з Энтані Хопкінсам, хаця і былі ўключаны ў афіцыйную праграму Берлінале, прайшлі па-за конкурсам. Менавіта гэтыя дзве стужкі выклікалі асаблівы ажыятаж у Берліне. На прэм'еру "Ганібала", які з'яўляецца працягам знакамітага "Маўчання ягнят", было проста немагчыма трапіць, публіка проста звар'яцела, калі на фестываль прыехаў выканаўца ролі Ганібала Лектара галівудскі акцёр Э. Хопкінс. З тым жа захапленнем гледачы сустракалі і акцёраў Д. Раша (маркіз дэ Сад) і К. Уінслет ( Мадлен).

Што тычыцца французскага кіно, то яно было дастаткова прадстаўлена ў гэтай праграме, але выглядала вельмі традыцыйным (і "Фелікс і Лола" П. Леконта, і "Смяротнае пераўтварэнне" Ж.Ж. Бэнэкса). Асабіста мне спадабаўся французскі фільм "Тоўстая дзяўчынка" Катрын Брэя. Імя гэтай рэжысёркі сёння вельмі папулярнае на Захадзе, таму што адзін з яе папярэдніх фільмаў "Рамакс" быў пракатаны ў сарака краінах свету. Гэта ашаламляльны поспех для сучаснага французскага кіно. "Рамакс" паспяхова прадаваўся на ўсіх кінарынках і даў падставу гаварыць, што сёння ў Францыі існуе прынцыпова новы рух — кіно, якое здымаюць жанчыны. У сваёй новай карціне К. Брэя працягвае даследаваць тэму жаночай сексуальнасці.

Дыпломная работа рэжысёра Ф. Цытаса "Мой салодкі дом" — адзіны нямецкі фільм, які быў паказаны ў конкурсе. Ф. Цытас, які па паходжанні грэк, прадстаўляе новую генерацыю рэжысёраў вельмі "мульцікультурных" ва ўсіх сэнсах. Малады рэжысёр паспрабаваў стварыць вобраз новага Берліна, які сёння з'яўляецца своеасаблівым Вавілонам у цэнтры Еўропы. Ф. Цытас імкнуўся паказаць гэта на прыкладзе звычайнага кафэ, дзе збіраюцца людзі розных нацыянальнасцяў, уключаючы рускіх (цікава, што аднаго з іх іграе знакаміты рэжысёр Б. Худайназараў). Фільм, як калейдаскоп, складаюць маленькія аскепкі жыццёвых гісторый, што ствараюць люстэрка сённяшняга часу. Дарэчы, дзякуючы Берлінскаму фестывалю, нямецкае кіно перажывае сапраўдны бум. Калі раней, пяць гадоў таму, я наогул не хадзіла на дэманстрацыю нямецкіх фільмаў, то сёлета літаральна разрывалася паміж кінапраграмамі, імкнучыся перадусім убачыць новае нямецкае кіно. Напрыклад, я мусіла не прапусціць паказ фільма Т. Цыквера "Прынцэса і воін", што лічыцца адным з лепшых нямецкіх фільмаў мінулага года. Сёння нямецкія рэжысёры маюць магчымасці для плённай працы, бо яны жывуць у краіне, дзе адчуваюць сябе свабоднымі. А глабалізацыя Еўропы дазваляе ім дастаткова лёгка знаходзіць грошы за кошт усялякіх фондаў, кінаінстытутаў і г.д. Тыя фільмы, якія я ўбачыла на Берлінале, сведчаць пра тое, што сучаснае нямецкае кіно, у якім з'явілася шмат новых імёнаў, робіцца на добрым еўрапейскім узроўні.

Усе чакалі паказу азіяцкіх карцін. Яшчэ з большым нецярпеннем — калі стала зразумела, што яўнага фільма-лідэра няма. Кітайскі фільм "Пекінскі веласіпед" Ван Сяошуая быў паказаны ў апошні дзень фестывалю. Ведаеце, калі прайшло ўжо два тыдні, падчас якіх ты пагледзеў мноства фільмаў, з памяці сціраюцца ўражанні ад папярэдніх карцін. Стомлены, ты перастаеш чакаць нечага асаблівага. І тут нечакана такое глыбокае ўзрушэнне — "Пекінскі веласіпед"! Вядома, усе адразу ўспомнілі італьянскі фільм "Выкрадальнікі веласіпедаў" В. Дэ Сікі, бо гэта было такое ж праўдзівае, далікатнае кіно з цудоўнымі акцёрамі. Веласіпед — вядомы сімвал Кітая. Рэжысёр паспрабаваў зразумець новае пакаленне кітайцаў. Ці лёгка быць сёння маладым: кахаць, змагацца за жыццё? Я думаю, што на фоне астатніх конкурсных фільмаў стужку "Пекінскі веласіпед" варта было ўзнагародзіць "Залатым мядзведзем". Фільм Ван Сяо-шуая атрымаў толькі "Срэбранага".

**—... а Гран-пры фестывалю дастаўся скандальнаму фільму французскага рэжысёра П. Шэро "Інтымнасць".**

— Ведаеце, калі я глядзела гэты фільм, мяне не пакідала адчуванне, што менавіта поспех французскага жаночага кіно падштурхнуў П. Шэро зрабіць такую даволі жорсткую карціну. Гэта з аднаго боку. З другога — еўрапейскае кіно, у прыватнасці, французскае, перастае быць арыгінальным. Пасля Фасбіндара ды Таркоўскага ніхто не зрабіў нічога новага. П. Шэро ў сваёй стужцы аб'яднаў два фільмы, якія ў мінулым уславілі французскае кіно. Сюжэт "Інтымнасці" пабудаваны на аснове "Рамакса" К. Брэя ды "Парнаграфічнай сувязі" Ф. Фантэйна. Я не ўбачыла нічога новага ў гэтым фільме. Напрыклад, стужку "Парнаграфічная сувязь" я лічу куды больш "парнаграфічнай" за "Інтымнасць", таму што яе рэжысёр вымушае гледача перадусім фантазіраваць, дадумваць пэўныя сцэны. А П. Шэро першапачаткова быў захоплены ідэяй спустошэння чалавечай душы: ён зняў грубую і вельмі сумную гісторыю пра мужчыну, што пакутуе ад непаразумення ды адзіноты, марнуючы час у жывёльным савакупленні з незнаёмкай. Гісторыя асобнага чалавека трансфармуецца ў гісторыю пра ўсіх людзей, што развучыліся кахаць. Рэжысёр казаў, што мусіў сумленна распавесці пра ўсіх нас, якімі мы цяпер зрабіліся.

Для мяне фільмы "Італьянскі для пачаткоўцаў" ці "Пекінскі веласіпед" — гэта цудоўны шлях наперад для кінематографа, бо яны абуджаюць у душах людзей добрыя пачуцці, падабаюцца гледачу. Якое будучае можа быць у "Інтымнасці"? У нейкай ступені П. Шэро паставіў кропку, нічога іншага паказаць ужо немагчыма. Хаця меркаванні наконт гэтага фільма былі розныя. Некаторым ён вельмі спадабаўся. Стужка "Інтымнасць", была ўганаравана прызам "Блакітны анёл", як лепшы еўрапейскі фільм. А актрыса Кэры Фокс атрымала "Залатога мядзведзя" за лепшае выкананне жаночай ролі.

**— Многія расійскія журналісты скардзіліся на тое, што ніводнай расійскай карціны сёлета не трапіла ў конкурс Берлінскага фестывалю, нягледзячы на тое, што летась у Расіі было знята звыш пяцідзесяці новых фільмаў, шмат прэм'ер адбылося ў гэтым годзе.**

— Мяне таксама гэта здзівіла. (Адборшчыкі фестывалю чамусьці праігнаравалі і "Пяшчотны ўзрост" С. Салаўёва, і "Атруту" К. Шахназарава, і "Пакуль яна памірала" А. Янкоўскага) усе тыя фільмы, якія Расія планавала ўбачыць на Берлінскім фестывалі. — **В.Б.** Праўда, у "Панараме" ўдзельнічала карціна К. Муратавай "Другарадныя людзі", якая вельмі ўпрыгожыла б конкурс Берлінале. Кажуць, што рэжысёр не паспела тэхнічна падрыхтаваць фільм да конкурсу. Але з другога боку папярэдні фільм Муратавай "Тры гісторыі" не вельмі спадабаўся ў Берліне. Наогул у мяне склалася такое ўражанне, што Берлін крыху стаміўся ад усходнееўрапейскага кіно, якое выглядае вельмі марудным, сумным з нашай адвечнай неўладкаванасцю. На гэты раз К. Муратава зрабіла даволі аптымістычны фільм. "Другарадныя людзі" — абсурдыцкая гісторыя, дзе галоўную жаночую ролю выконвае не Р. Літвінава, а зорка "Маскі-шоу" Н. Бузько. Адбылося нараджэнне вельмі добрай актрысы, якая надала фільму пра жудасныя людскія ўчынкі буфанадную лёгкасць. Рэжысёр пераадолела змрочную маргінальнасць папярэдніх фільмаў і паказала сябе дасціпнай, лёгкай, у нечым падобнай на Вудзі Алена.

Новы фільм А. Сакурава "Цялец" я паглядзела на "Кінарынку". У Германіі вельмі любяць гэтага піцерскага рэжысёра. Аднак сёлета фільм Сакурава не ўзялі ў конкурс. Мне падалося, што новая карціна Сакурава крыху слабейшая за "Малох". Рэжысёр паказаў нам адзін дзень напалову паралізаванага Хворага, у абліччы якога згадваецца Ленін (яго ролю выконвае Л. Мазгавы, які іграў Гітлера ў "Малоху"). Хворы выглядае на экране вельмі злосным, дробязным, эгаістычным чалавекам. Другім жа пасля Леніна героем фільма з'яўляецца яго атмасфера. У кадры пануе змрочная і перадсвітальная адначасова смуга, у якой растваряюцца колеры ды абрысы. Змрок розуму, змрок духу... Жыццё Леніна, асабліва яго апошнія дні ў Горках, па-ранейшаму забароненая тэма. Думаю, Сакураў таксама не меў якіх-небудзь дакументальных звестак пра апошнія дні Леніна, гэты факталагічны недахоп адчуваецца ў фільме. Сакураў абыгрывае толькі два вядомыя нам здымкі, дзе Ленін з Крупскай. Рэжысёр не імкнецца "дакументальна" паказаць, пра што думаў, разважаў у той момант пралетарскі правадыр. Сакураў не планаваў зрабіць гістарычную карціну.

**— Наколькі мне вядома, сёлетні Берлінскі кінафестываль быў багаты на цікавыя рэтраспектывы. Прынамсі, на адной з плошчаў горада пад жывы аркестр былі паказаны славуты фільм Ф. Ланга "Метропаліс"...**

— Фігура Фрыца Ланга — легендарная ў нямецкім кіно, усе самыя знакамітыя фільмы кінаэкспрэсіянізму пачатку XX стагоддзя былі зроблены ў Германіі, Фрыцам Лангам. У берлінскай рэтраспектыве былі сабраны ўсе яго ныя стужкі, праграма была настолькі насычанай, што фільмы дэманстраваліся зранку да вечара. Спецыяльна для паказу "Метропаліса" была напісана новая музыка. Потым мне даводзілася чытаць у нямецкай прэсе, што на фоне стужак Ф. Ланга многія сучасныя фільмы выглядаюць вельмі бляклымі. На думку некаторых кінакрытыкаў, Гран-пры фестывалю трэба было аддаваць менавіта Ф. Лангу, таму што яго кіно — сапраўдная мастацтва.

"Метропаліс" і сёння здзіўляе, узрушае. Думаеш, як здолелі наогул зняць такі твор? Відарысы будучага таталітарнага грамадства не здаюцца наіўнымі — яны выклікаюць мноства паралеляў з гісторыяй XX стагоддзя, а ідэя каставаці грамадства зноў стае злабадзённай. Думаецца, што фенаменальнае майстэрства Ф. Ланга, вастрыня ракурсаў, візуальная фантазія, дасканаласць спецэфектаў і гульня светлацені ў "Метропалісе" могуць быць невычарпальнай крыніцай натхнення для новых рэжысёраў.

Была таксама падрыхтавана невялікая праграма, прысвечаная вядомаму рэжысёру Стэнлі Кубрыку. Нямногія помняць, што адзін з яго самых славутых фільмаў называецца "Касмічная адысея: 2001". У Берліне ж на гэта звярнулі ўвагу. На фестывалі быў прадстаўлены двухгадзінны дакументальны фільм пра С. Кубрыка, у якім закадравы маналог чытаў галівудскі акцёр Т. Круз. Стужка "Касмічная адысея: 2001" была адноўлена, у яе зноў былі ўключаны кавалкі, выразаныя рэжысёрам у 1969 годзе. У выніку карціна доўжылася амаль тры гадзіны. Фільм дэманстраваўся ў стэрэагучанні на вялікім экране Берлінскага палаца і пакінуў незвычайныя ўражанні. У той момант я сапраўды ўсвядоміла выбітнасць рэжысёра, нягледзячы на тое, што фільм у нейкай ступені выглядаў архаічным.

На жаль, Берлінскі фестываль паказаў, як мала зараз геніяльных рэжысёраў, узроўню Ф. Ланга. У майстроў, што тварылі на пачатку эпохі кіно, не было аніякіх камп'ютэраў, а толькі папера, аловак ды нерухомая просценькая камера. Але якое вялікае кіно яны рабілі, нічога навейшага за іх знаходкі яшчэ не прыдумалі. Камп'ютэры аблегчылі працу рэжысёра, але не зрабілі кіно больш мастацкім...

**Гутарыла**
**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымках: кадры з кінафільмаў "Італьянскі для пачаткоўцаў", "Інтымнасць".*

ПАМЯЦЬ

# Лёс мастака Леаніда Лапчынскага



З Леанідам Лапчынскім, мастаком-жывапісцам, мы пазнаёміліся яшчэ ў 1951 годзе, калі разам паступалі, а потым вучыліся ў Мінскім мастацкім вучылішчы. У нашай групе займаліся разам два пакаленні — гэта людзі, якія мелі за плячыма франты Вялікай Айчыннай вайны, якім было, як мне, па 24 гады. Маім аднакурснікам другога пакалення было па 14 год. Шчыра кажучы, такая розніца ў гадах выклікала праблемы і задзірыстае спаборніцтва. Але аб'ядноўвала нас любоў да мастацтва. Асабліва я пасябраваў з высокім худым "бландзінам" Леанідам Лапчынскім, з якім было вельмі лёгка разважаць пра мастацтва, дзяліцца сваімі ўражаннямі, поспехамі і няўдачамі. Мне падабалася ў гэтым хлапчуку выхаванасць, сціпласць, адукаванасць, не па гадах духоўная сталасць і, зразумела, яго адмысловы талент.

Прайшлі гады, мы скончылі мастацкае вучылішча і мастацкі факультэт, аддзяленне жывапісу Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.

Адным чыстым мастацтвам, мастацкай творчасцю зарабіць на жыццё немагчыма. Таму Леанід Лапчынскі пачынае выкладаць у Мінскім мастацкім вучылішчы. А я займаўся мастацтвазнаўствам пры Акадэміі навук.

Сустракаліся час ад часу на абароне студэнцкіх дыпломных работ у вучэльні. Ён у якасці кіраўніка дыпломных прац, я як мастацтвазнаўца. З творамі адзін аднаго мы знаёміліся на выставах. Працы Лапчынскага мяне заўсёды ўражвалі, бо яны былі не падобныя да іншых. Мастак увесь час быў у дарозе ў пошуку новых шляхоў у мастацтве, у складаных пластычна-каларыстычных вырашэннях рэалістычнага накірунку. Калі параўнаць рэалістычнае мастацтва мінулых гадоў, і нават стагоддзяў, дык зусім не цяжка адзначыць, што хоць і змянілася форма твораў, але яго змест быў заўсёды накіраваны да чалавека, да яго думак і пачуццяў.

Так было і ў Лапчынскага. Калі параўнаць яго пейзажы, напісаныя ў 60—70—ыя гады, з тымі працамі, якія стварыў жывапісец у апошнія гады жыцця, дык адразу кідаецца ў вочы тая акалічнасць, што пошукі жывапісца ў асноўным былі накіраваны ў бок пластычна-каларыстычных адкрыццяў. Партрэты "Партрэт рабочага", "Раніца або аводба", "Жаночы партрэт", "Зваршчык", "Дзяўчынка", напісаныя ім у гэты перыяд, былі досыць складаныя на колеры. Тое ж самае можна адзначыць і ў пейзажах ("У Раёўцы" або серыі пейзажаў Міншчыны). Мастак наўмысна не шукаў у прыродзе прыгожыя мясціны. Звычайны немудрагелісты матыў, карыстаючыся сваімі мастацкімі сродкамі, ён мог давесці да высокага гучання сапраўднага жывапіснага твора ("Вясновы дзень", "Гарадскі матыў", "Кар'ер"). Захапляўся мастак і архітэктурнымі пейзажамі ("Стары горад", "Вуліца Старавіленская", "Мірскі замак" "Вечар", "Чырвоны дом", "Замак Трокі"). Нібы з глыбіні стагоддзяў імкнуўся мастак вызваць тую прыгажосць, якой захапляліся жыхары Мінска ў мінулым, хоць ад гэтых помнікаў у большасці засталіся адны руіны.

Рознабаковы талент жывапісца не пакідаў па-за ўвагай самыя розныя матывы. Тут і лірычныя пейзажы ("Ля возера", "Вёска", "Сляды вайны"). У апошнія гады жыцця Лапчынскі стварае серыю палотнаў прысвечаную Мінску, Мінскай вобласці. Было напісана шмат эцюдаў. "Прывакзальная плошча" стаў асновай для манументальнага палатна. Лапчынскі рыхтуецца да сваёй персанальнай выставы. Гэта апошняя карціна, над якой працаваў Леанід Лапчынскі. Памёр Леанід Васільевіч у верасні 1994 года.

Але памяць пра мастака засталася не толькі ў яго творчай спадчыне, якая засталася пасля ягонай смерці, але і ў памяці яго вучняў, якім ён аддаваў усю шчырасць і дабрыню свайго таленту. Яго былыя выхаванцы сталі ўжо прызнанымі майстрамі жывапісу. Яны з пачуццём вялікага смутку ўспамінаюць свае сустрэчы з Майстрам. Але няўмольны лёс жорстка абышоўся з мастаком. Памёр Лапчынскі ў самым росквіце сваіх творчых сіл. Такі ж лёс напаткаў і яго творчую спадчыну, якая некаторы час знаходзілася ў прыватным доме на Вішнёвым завулку, дзе была каркасназасыпная прыбудова, у якой і была размешчана мастацкая майстэрня Леаніда Лапчынскага. Ды толькі захоўвалася яна там нядоўга. Знайшліся "прыхільнікі" мастацтва, якія абрабавалі майстэрню жывапісца. І толькі невялікую частку ўдалося выратаваць сябрам Леаніда Васільевіча і яго ўдаве Лідзіі Віталеўне, якія і арганізавалі ўжо пасмяротную выставу мастака ў мінскім Палацы мастацтваў. Гледачы былі здзіўлены тым, што ўбачылі на гэтай выставе. Яны ўбачылі там сапраўднага, неўтаймаванага мастака, які заўсёды шукаў новыя шляхі ў галіне рэалістычнага мастацтва і надоўга апярэдзіў свой час. Але каталог выставы Лідзіі Віталеўне выдаць так і не ўдалося, не было грошай на яго выданне.

Прайшло ўжо больш за сем гадоў, як удава мастака абівае парогі розных устаноў, каб адшукаць сродкі на выданне каталога альбо манаграфіі пра выдатнага мастака Леаніда Васільевіча Лапчынскага, дзеля ягонай памяці і для нашчадкаў яго творчасці — вучняў, урэшце, для гісторыі нашага мастацтва. Ды толькі ўсё марна. Але надзея, як кажуць, памірае апошняй. І Лідзія Віталеўна працягвае свае намаганні. Пажадаем ёй поспехаў і плёну ў гэтай справе.

**Л. ДРОБАЎ,**
**мастацтвазнаўца**



## Казкі? Калі ласка...

Кнігу казак Анатоля Зэкава "Чатыры зярняткі" дзіцячая бібліятэка № 3 г. Мінска мае толькі ў адзіным экземпляры. Тым не менш, яе тут прачыталі многія. А вучні 4 "В" класа СШ № 186 вырашылі нават падзяліцца сваімі ўражаннямі аб прачытаным і запрасілі на сустрэчу аўтара.

Напачатку Алена Азарава, Алёша Курленя і Рыта Салынская пераказалі змест казак, якія ім найбольш спадабаліся, а потым кожны з вучняў захацеў даведацца з вуснаў пісьменніка, як ствараласяя кніга. А. Зэкаў падрабязна распавёў не толькі пра гэта, але і адказаў на многія іншыя пытанні юных чытачоў, прачытаў свае новыя творы для дзяцей.

Асабліва ўразіла госця арганізаваная да сустрэчы з ім выстаўка малюнкаў, якімі школьнікі праілюстравлі казкі з кнігі "Чатыры зярняткі".

Сяргей КРЫВІЧОЎ

## "Роднае слова", N 3

Пад рубрыкай "Дайсці да Беларусі" змешчаны роздум галоўнага рэдактара "РС" М. Шаўыркіна "Рэформа навучальных праграм ці сістэма навучання?", аўтар якога прыходзіць да высновы: "...Мы можам не мяняць у аснове сістэму навучання і выхавання, не ўспрымаць новаўвядзенняў. Мы можам не рабіць нічога. Вядома, ад гэтага мы не знікнем. Прырода паспрыяе таму.Будзем прадаўжацца ў дзецях, унуках, а яны ў сваіх унуках. Але развіццё адбудзецца не на тым узроўні, як прадвызначана Прыродай. І зноў будуць слёзы і пакутлівыя перажыванні, рэвалюцыі і войны. І радасць, якая ўспыхвае сонейкам у душы зямляніна пры адчуванні велічнасці стваральнага жыцця, будзе ахутвацца цемрай непаразумення". У гэтым жа раздзеле "Школа і нацыянальнае Адраджэнне" прапануецца і артыкул В. Ляшчынскай "Месца і роля стылістыкі ў працэсе навучання беларускай мове". Жыццё і творчасць А. Зарыцкага разглядае А. Гурская ("Шчодрасць паэтавай асяніны"). Тут жа пад агульным загалоўкам "Яшчэ, душа, у бязмежжа зазірні..." друкуюцца некаторыя вершы А. Зарыцкага. Штрыхі да партрэта П. Місько напісаў В. Каратай ("Па дарозе да Храма"). Споўнілася 60 гадоў літаратуразнаўцу Л. Гарэлік. "РС" віншуе яе з юбілеем і дае мажлівасць пазнаёміцца з артыкулам Л. Гарэлік "Я ў горадзе — гаротны, як ізгой...", у якім разглядаюцца урбаністычныя матывы ў сучаснай паэзіі. Публікуюцца таксама артыкулы "Станаўленне трыялета ў беларускай літаратуры" Т. Федарцовай, "Дыдаскалія" Сільвестра Косава — папулярная кніга XVII стагоддзя" І. Войніча, "Творчыя пошукі Язэпа Семяжона пры ўзнаўленні паэмы Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра" І. Лапцёнак, "Новыя аспекты вывучэння творчасці Францішка Багушэвіча" І. Запрудскага, "Літаратура беларускага барока" Л. Баршчэўскага, "Музычны феномен Галіны Гарэлавай" Р. Аладавай, "Пра "Бандароўну" Г. Гарэлавай, "Малюнкі сучасных беларускіх пісьменнікаў: канцэптуалізм ці institus?" Часопіс віншуе з 70-годдзем Г. Кісялёва (артыкул А. Мальдзіса "Талент, памножаны на штодзённую працу") і друкуе яго артыкул "Францішак Багушэвіч і паўстанне 1863 года". Яшчэ адзін юбіляр — крытык і літаратуразнаўца А. Пяткевіч, якому таксама споўнілася 70 гадоў. М. Пажарыцкі выступае з артыкулам "Слова пра настаўніка" (А. Пяткевіч і Гродна), а сам А. Пяткевіч успамінае добрым словам тых, хто паспрыяў яго станаўленню ("Аглядаючыся на настаўнікаў..."). Жыццё Ф. Багушэвіча ў Канатопе — тэма артыкула Г. Загародняга "На гасціннай зямлі Украіны". Пад рубрыкай "І песню родную люблю я..." прадстаўляецца спявачка В. Карэлікава, якая працуе ў ансамблі "Бяседа", а таксама песні з яе рэпертуару. У "Літаратурным ветразі" — вершы Г. Вязіцкай.

ВІНШУЕМ!

# Аркадзю НАФРАНОВІЧУ — 65

**Назва адной з кніг Аркадзя Нафрановіча — "Мядзельскі мерыдыян" — шмат у чым прадвызначае накірунак яго творчых інтарэсаў. Аркадзь Іосіфавіч, хоць і жыве ў вёсцы Камаі Пастаўскага раёна, ніколі не забывае сваіх родных мясцін, вёску Юшкавічы, што на Мядзельшчыне, у якой нарадзіўся. Такое прыцягненне ў яго назаўсёды, таму і нараджаюцца з-пад пяра прачулыя радкі пра хараство менавіта гэтага кутка Бацькаўшчыны. Але роднай Мядзельшчыне цесна ў вершах А. Нафрановіча, таму яна, калі можна так сказаць, просіцца ў песні, а іх Аркадзем Іосіфавічам таксама напісана шмат. Надзіва жыццярадасных, нягледзячы на тое, што аўтарам шмат перажыта: у гады Вялікай Айчыннай вайны ён малалетнім хлапчуком разам з бацькамі быў вывезены ў Нямеччыну, зведаў, што такое фашысцкі палон.**

**З 65-годдзем, шаноўны Аркадзь Іосіфавіч! Няхай і надалей Вам хораша жывецца, а паэтычнае пяро моцна трымаецца ў вашых руках!**

## Аркадзь НАФРАНОВІЧ

### Нашы знакамітыя продкі

*Я думаю аб знакамітых продках,*
*Якіх шмат хто не ведае у нас.*
*Было жыццё іх бурным, як паводка,*
*Яны намнога абганялі час.*

*Падзвіжнікі, сапраўдныя героі.*
*За ісціну і праўду змагары.*
*Жывое слова — вечная іх зброя,*
*З якой і штурмавалі свет стары.*

*Свет цемрашальства і гнілой маралі,*
*Напоўнены падманам, здзірствам, злом.*
*І часта ім жыццё укарачалі*
*Сякерай, шыбеніцай і агнём.*

*Іх узвышала вернасць ідэалам,*
*На новай ніве рупіўся сявец.*
*І будучыні зерне прарастала,*
*Каб золатам калосся зазвінець.*

### Кірыла Тураўскі

*Бунтоўная душа — шукаў свой ідэал,*
*Штось боскае свяцілася ў аблічы,*
*І час узвёў яго на славы п'едэстал,*
*Ягоны подзвіг годна узвялічыў.*

*Стагоддзі адплылі, ды з даўніны сівой*
*Да нас ягоны голас далятае.*
*Не рвуцца ніці памяці святой,*
*Крыніца мудрасці не высыхае.*

### Мікола Гусоўскі

*Там, пад цёплым небам Рыма,*
*Паўставала перад ім*
*У святле бяроз радзіма —*
*Ад чаго і творчы ўздым.*

*Праца ў радасць, асалоду —*
*Ён пясняр парою той*
*Велічы свайго народа*
*І красы зямлі сваёй.*

*Родны край з душой апеты —*
*Вось якія скарбы ў нас!*
*Гэта быў узлёт паэта*
*І ягоны зорны час.*

*Слаўным продкам ганаруся.*
*Сапраўды ён — маг пяра.*
*І Вобразам стаў Беларусі*
*Зубр з падачы песняра.*

### Сімяон Полацкі

*Быў ён, як цяпер вядома, з тых,*
*Хто не біў святым паклонаў лішніх.*
*Ды ўсё ж ходу спраў яго зямных*
*Памагаў, напэўна, Усявышні.*

*Не адну знаў мову, а ключы*
*Ад дзвюх роднасных — бярог у сэрцы.*
*Перавагу ім аддаючы,*
*Спавядаў іх як паэт да смерці.*

*Хай маскоўскі цар і адараў,*
*Толькі ў царстве вершаў быў шчаслівы,*
*Дзе нашмат вышэй ён за цара,*
*Дзе яго засеяныя нівы.*

*Ён масквіч — наканаваў так лёс,*
*Палачанін — існасцю сваёю.*
*Поўны самых смелых думак, кроз,*
*Штурмаваў жыццё, як грэкі Трою.*

*Верхняя друкарня у Крамлі —*
*Пастараўся для яго цар Фёдар.*
*Фарбы пах мілей за кветак водар,*
*Лепшыя надзеі ажылі.*

*Нёс свой крыж цярпліва, без ныцця*
*Самабытны, неўтаймоўны творца.*
*Хоць загасла полымя жыцця,*
*Ды гарэць, не гаснуць яго зорцы.*

# СТАРАСВЕЦКІЯ МІФЫ ГОРАДА Б*

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

Заснавальніцы Таварыства аховы жанчын сабраліся ў класным пакоі пансіёна высакародных паненак. Між кавай і мігдалавым печывам пагаварылі пра дзіцячыя яслі для немаўлятак працоўных кабет, між гарачым шакаладам і безэ пасварыліся наконт рэпертуару дабрачыннага хору. Калі прынеслі садавіну, усплыла непрыемнай плямай на вясёлкавы настрой прысутных праблема — ненавіснік жанчын Магарыш. Па горадзе Б* лётала ўжо некалькі ягоных з'едлівых выказванняў наконт "бабскай самадзейнасці".

— Мужчына — істота прымітыўная, — цвёрда сказала мадам Касіо. — Варта толькі добра падумаць і знайсці яго слабое месца. Згадайма, што наша таварыства клапоціцца не толькі аб жанчынах, але і аб дзетках. Калі гэтая асоба раўнадушная да становішча кабет, ці гэтак жа паставіцца да слёз нявіннага дзіцяці?

Нявіннае дзіця, якое належала ўключыць у чарговую дэлегацыю, знайшлося — гадавалы малеча настаўніка прыродазнаўчых навук. Хлопчык быў слаўны, шчакасты . Ягоная маці падабалася мадам Касіо куды менш — мітуслівая, дзівакаватая кабета, якая ў нанятую мадам Касіо пралётку прыцягнула яшчэ й гэткую ж мітуслівую пудзеліху з мяшчанскай мянушкай Жужу.

Магарыш хаваўся ў сваім летнім доміку побач з канюшняй, у прадмесці горада Б*, там, дзе ўвесну разлівалася мора яблыневай квецені. Мадам Касіо, быццам чорны карабель, праплыла па засыпанай жоўтым пяском сцежцы, рассякаючы духмяныя бела-ружовыя хвалі. У фарватэры за мадам, нібы за флагманскім караблём, палахліва рухаліся мадэмуазель Нінэль, выкладчыкава жонка са сваім нашчадкам, прыбраным у карункавы каптурык неймавернай велічыні, і пудзеліха Жужу. Ля дзвярэй у логавішча жанчынаненавісніка караван прыпыніўся. Прыслужнік, былы панскі дзяншчык, нізавошта не хацеў упускаць у дом спешчанага сабачку, маўляў, у пана жывуць здаровыя ганчакі. А ўладальніца пудзеліхі нізавошта не хацела пакідаць сваю ненаглядную Жужу адну на чужым двары, сярод падазронага асяроддзя. Мадэмуазель Нінэль ахвяравала сабой і засталася сцерагчы знерваваную жывёлінку. Мадам Касіо для баявітага настрою ўспомніла апошні выпуск сваіх пансіянерак, зацягнула разбэрсаныя пачуцці ў сталёвы гарсэт грамадзянскага доўгу і рушыла ў наступ.

—Не дзеля фанабэрыі і славы, а дзеля дзяцінства! Яно глядзіць вам у вочы, яно патрабуе вашай дабрадатнасці! Вы адмаўляеце ў ласцы бязвінным дзеткам, якіх Хрыстос загадаў шанаваць найперш, бо ім належыць Царства Божае! — мадам тыцкала пальцам, абцягнутым чорнай пальчаткай, у бязвіннае дзіця, якое зацята спрабавала сцягнуць з сябе карункавы каптурык.

Але бессаромны конезаводчык толькі іранічна хмыкаў ды паўтараў:

— Мадам, мая спецыяльнасць — коні. Я не разбіраюся ў жаночых клубах... Хіба што з націскам на другі склад.

Ад падобных удараў касы аб камень высякаліся іскры. Няшчасная выкладчыкава жонка туліла да сябе немаўля, нібыта хаваючыся за яго ад маланак, якімі шпурляліся багі-алімпійцы. І тут на двары адчайна завішчэў сабака, і адразу ягоны віск падхапіў магутны сабачы хор.

— Стой, сабачка, стой! — лямантавала дзесьці мадэмуазель Нінэль.

— О, мая небарака Жужу ! Я іду да цябе! — ускліклнула пудзелішына гаспадыня, з мілабожным "О, мадам!..." сунула сваё дзіцятка ў рукі дырэктарцы пансіёна і выскачыла за дзверы.

У пакоі запанавала цішыня. Крыкі і сабачы брэх расталі ў далечыні. Мадам трымала дзіця перад сабой, нібыта амфару з рэдкім віном. Няёмка прызнацца, але твар мадам Касіо чамусьці не выказваў замілавання . Магарыш таксама паглядаў на мілае дзіцятка, якое паспела сцягнуць набакір свой накрухмалены каптурык і агаліць круглую дахоўку, прыўкрашаную адзіным завітым чубком, з нейкім складаным пачуццём.

—У-а-а-а-а-у!

Дырэктарка ледзь не ўпусціла дзіця. Палкоўнік у адстаўцы спрытна падтрымаў крыклівага госця на яе руках. А немаўля гарлала так адчайна, з такой крыўдай на гэты недасканалы свет!

— Супакойце яго, мадам, — раздражнёна буркатнуў Магарыш. — Вы ж самі казалі, што бавіцца з такімі недарослямі — ваш грамадзянскі доўг.

— Я — дырэктар пансіёна для дзявіц, — цвёрда прамовіла мадам, робячы націск на апошнім слове.— Я не маю досведу ў выхаванні немаўлятак.

— Эк гарлапаніць, — з прыкрасцю сказаў Магарыш і паклікаў дзяншчыка. Але той, відаць, таксама збег па сабачых справах, якія нагадвалі пра сябе аддаленым брэхам і жаночым віскам.

Мадам нязграбна гушкала падкідыша.

— А-та-та...Гэта ён вас баіцца. Дзеці адчуваюць нядобрых людзей..

— Перастаньце яго трэсці, ён і змоўкне, — адрэзаў Магарыш і наставіў на немаўля два пальцы казою: — У-цю-цю-цю-цю!

Малеча збрыкнуў нагою і патрапіў забаўніку ў тоўсты нос. Магарыш ледзь стрымаў лаянку.

—Давайце яго мне. Ён жа мужчынскага полу. Я хутчэй з ім паразумеюся. А то, далібог, вушы закладае. Хлопец, любіш коней? Хочаш на коніку пакатацца?

Дзіця адчайна супраціўлялася. Капялюш дырэктаркі, упрыгожаны страусавымі пёрамі, з'ехаў набакір і нарэшце зусім зваліўся ў суправаджэнні звонкага дажджу шпілек. Мадам Касіо расчырванелася, яе валасы, заўсёды сцягнутыя ў строгі вузел, рассыпаліся залацістымі локанамі. А вочы, не абароненыя ларнетам, былі такія разгубленыя... І светлыя...Так што ніхто не пазнаў бы з першага погляду мадам Касіо. Ды і суровага палкоўніка Магарыша, які скакаў па пакоі, трымаючы на плячах тоўсценькага капрызулю, у той час як мадам бегла за гэтай жывапіснай групай, падтрымліваючы малога кавалерыста.

—А вось мы на коніку.. На коніку... Першы раз бачу кабету, якая не можа даць рады дзіцяці! У вас што, ніколі не было ўласных дзяцей?— соп Магарыш.

— Можна падумаць, у вас цэлая куча спадчыннікаў! — агрызалася мадам.— Вы ўвогуле здзічэлі са сваімі коньмі! Цішэй, не ўпусціце малога! Я, прынамсі, стараюся нешта даць хоць чужым дзецям. А вы?..

— А мне часам здаецца, што коні больш вартыя шкадобы і разумення, чымсьці людзі. Ай, нешта за каўнер пацякло...

Калі вярнулася шалапутная маці з ускалмачанай пудзеліхай на руках, пакінуты ёю малы бесклапотна спаў на Магарышавай канапе, а паабапал яго сядзелі пан Магарыш у турэцкім халаце і мадам Касіо без капелюша, хаця з падабранымі зноў у вузел валасамі.

— Прабачце, прабачце, але на Жужу напала зграя злосных грубых дварнякоў!

Мадэмуазель Нінэль таксама прапішчэла ў сваё апраўданне:

— Я нічога, нічога не змагла зрабіць! Іх адагналі толькі вадою!

Мадам Касіо годна ўздзела капялюш, акуратна закалола яго шпількамі.

— Думаю, наш візіт скончаны.

Мадэмуазель Нінэль са здзіўленнем глядзела на ружовыя плямы на шчаках мадам і гадала, ці ўдалося ейнай ваяўнічай кіраўніцы дамагчыся патрэбнага. Пан Магарыш сур'ёзна пазіраў на маўклівую дырэктарку.

— Да сустрэчы, мадам.

Толькі шчаслівая палавіна выкладчыка прыродазнаўчых навук была цалкам у палоне сваіх праблем і нічога не заўважала, спрабуючы адначасова супакоіць і раззлаваную пудзеліху, і абуджанага ад салодкага сну і невымоўна гэтым пакрыўджанага сынулю.

Калі жыхар горада Б* не мог даць рады сваім клопатам, ён абгаворваў клопаты сваіх суседзяў. І такіх выпадкаў у горадзе Б* чамусьці было амаль столькі ж, колькі жыхароў. Таму канец халасцяцкага жыцця конезаводчыка Базыля Магарыша абгаворваў увесь горад.

Адны шкадавалі небараку — узяць за жонку такую мегеру! Другія дзівіліся — якім шляхам пракралася ў кавалерыйскую душу падступнае пачуццё? На гэтае пытанне маглі б, напэўна, адказаць непаўналетнія наведнікі ясляў для дзяцей працоўных кабет горада Б*, але, на жаль, яны яшчэ не ўмелі размаўляць.

# СУСТРЭЧА З АРХІМАНДРЫТАМ

## БЫЛЬ

Сяргей ГРАХОЎСКІ



НА СВОЙ ПЕРШЫ ЎРОК рускай мовы і літаратуры я ішоў у дзесяты клас, як на кару і пагібель. Быў упэўнены ў поўным правале. Што я скажу вучням пасля такой доўгай адсутнасці ў параўнаўча вольным свеце? Я ж увесь гэты час не бачыў ні кніг, ні газет, ні новых часопісаў. А ў літаратуру прыйшлі новыя таленты, пісьменнікі, імёнаў якіх я нават не чуў. Праз пару дзён мяне вытураць, як ашуканца, недасведчанага прайдзісвета, і выставяць з педагагічнай работы назаўсёды. Не ўяўляў, куды падамся, за што зашчамлю рукі, што мяне чакае на волі.

Прызначэнне я атрымаў у Міністэрстве асветы і райана, а першы начлег — у адзіным пакоі дырэктарскай кватэры на доўгай і пакатай скрыні. У кватэры, апрача гаспадароў, было трое дзетак. Сысунок Ваня скуголіў усю ноч, маці ніяк суняць яго не магла. Я не заснуў ні на волас: у галаве круцілася адно — правал і безнадзейнасць. Прызнацца не хапіла адвагі. Тры дні дырэктар шукаў мне прытулак у амаль спапялелым у вайну пасёлку, каб хутчэй пазбавіцца ад не надта пажаданага кватаранта. Нарэшце знайшоў у самай доўгай і пясчанай вуліцы прахадны, без цяпла і святла катушок. І школы фактычна не было — згарэла ў першыя ж дні вайны. Класы туліліся ў некалькіх цудам ацалелых безгаспадарчых хатах. Немцы іх апаражніць апаражнілі, а спаліць не ўправіліся. У апусцелых хатах тулілася па два-тры класы. У колішнім папоўскім доме жыў дырэктар, а за сцяною гулі тры старэйшыя класы.

На ўрок тэхнічка званіла пасярод вуліцы, каб чутно было і ў дальніх класах. Як прысуд, празвінеў для мяне першы званок.

Вясёлыя маладыя настаўніцы ды два кульгавыя нядаўнія франтавікі і ваенрук у шчыгульным кіцелі з мноствам ордэнскіх планак, з журналамі і сшыткамі разыходзіліся па класах, тулячыся ад імжы і пранізлівага ветру. Мой навучальны год пачаўся аж у кастрычніку, калі мяне ўзялі на работу замест настаўніка Шулякоўскага, які па нейкай прычыне самаволам пакінуў школу і некуды з'ехаў.

Я сказаў не надта ветліваму завучу, што пайду знаёміцца са сваімі вучнямі. З адным журналам, бо ні падручнікаў, ні канспектаў у мяне не было. Завуч мне паказаў, куды ісці, і я павольна, як асуджаны, паплёўся ў дзесяты клас. Ён быў у тым жа папоўска-дырэктарскім доме. На першых дзвярах напісана "10 кл." Я ўвайшоў, нібыта боўтнуўся ў пельку. Сабраўся з духам, ветліва павітаўся, дазволіў садзіцца, агледзеўся. У маленькім пакоі стаяла шэсць партаў. За імі сядзела пяцёра рослых з прыкметнымі вусікамі перарасткаў і сямёра гладкіх, дагледжаных, гатовых да выдання дзяўчат. Дзіва што! Усю вайну не вучыліся, павырасталі і многае забыліся, а трэба было хутчэй выпускаць з дзесяцігодак і хутчэй рыхтаваць настаўнікаў, урачоў, аграномаў. Толькі таму і мяне з усімі плямамі прынялі на работу, каб заткнуць дзірку ў некалі вядомай Парэцкай школе.

Каб не маўчаць, я па журнале выклікаў усе дванаццаць прозвішчаў, і кожнага вучня і вучаніцу запомніў у твар. Пацікавіўся, на чым яны спыніліся з маім папярэднікам. "На біяграфіі Блока", — адказала з першае парты ружовашчокая Вера Заблоцкая. Я адразу акрыяў. Я ж у інстытуце пісаў і абараніў дыпломную работу па творчасці Блока, да драбніц ведаў яго біяграфію і помніў мноства вершаў. Я іх часта чытаў сам сабе і сябрам па няшчасці там, дзе доўга пакутаваў. Любоў да творчасці Блока разбудзіў наш інстытуцкі выкладчык акадэмік Замоцін, а ён некалі працаваў разам з бацькам паэта ў Варшаўскім універсітэце і ведаў асабіста аўтара "Скіфаў", "Дванаццаці" і незабыўнай лірыкі.

Я ўхапіўся, як тапелец за чарацінку, за Блока, акрыяў духам і натхнёна пачаў расказваць цікавейшыя дэталі з жыцця любімага паэта.

На ўвесь клас была адна зацёртая хрэстаматыя і падручнік, замест сшыткаў вучні пісалі на нейкіх канторскіх бланках і нават на старых газетах, чарніла рабілі з парцяной фарбы. Настаўнікам давалі па некалькі сшыткаў на канспекты і планы.

Я расказваў рэдкія факты з жыцця Блока, чытаў вершы і раздзелы з паэм. Не заўважыў, як зазвінеў званок, а вучні не варушацца, не ляскаюць вечкамі партаў. Калі я змоўк, зграбна апрануты бялявы юнак з апошняй парты запытаў: "А вы нас не пакінеце?" — "Пажывём, пабачым", — адказаў я.

Я пайшоў у настаўніцкую — невялікую хату з адным класам. Амаль усе настаўнікі былі мясцовыя, або з недалёкіх вёсак. Матэматык і фізік прыязджалі на пачарнелых веласіпедах за дзесяць кіламетраў. У настаўніцкай я больш маўчаў — баяўся, каб не распытвалі, хто я, што я, адкуль узяўся, хоць здагадваўся, што загадчык райана Цыбулька, напэўна, расказаў дырэктару маю не зусім гладкую біяграфію. Таму, відаць, мае новыя калегі не надта распытвалі мяне.

За дзесяць гадоў у рускім асяроддзі я авалодаў беззаганным, амаль маскоўскім вымаўленнем. Амаль усе настаўнікі гаварылі па-беларуску, а я прыкідваўся чыстакроўным рускім, бо і прыехаў з Расіі. Аднойчы не ўтрымаўся: узяў са стала "Звязду" і пачаў моўчкі чытаць. Сустрэў некалькі знаёмых пісьменніцкіх прозвішчаў і парадаваўся, што хоць яны неяк уратаваліся ад "чорных воранаў" і фашысцкага пекла. Выкладчык беларускай мовы пацікавіўся, ці разумею прачытанае. "Мовы блізкія, сэнс зразумелы", — выкручваўся я, хоць потым зразумеў, што гэта была дарэмная гульня.

Дырэктар дастаў з шафы некалькі падручнікаў, пакінутых маім папярэднікам, а граматыкі не было. Мне ж трэба выкладаць і мову. Граматыкай я не надта захапляўся і многае забыў за гады адсутнасці. А трэба было тлумачыць правілы, правяраць дыктанты. Што рабіць? Але пашанцавала: была ў мяне "фортачка" і я застаўся ў настаўніцкай адзін. Убачыў на этажэрцы сярод сшыткаў і падручнікаў настаўнікаў малодшых класаў граматыку для чацвёртага класа і сшытак з планамі ўрокаў настаўніцы таго ж класа. Я не ўяўляў, як цяпер пішуцца планы. І тут ухапіўся за тую самую саломінку, перапісаў сабе схему плана: "Арганізацыйны момант, праверка хатняга задання, апытанне вучняў, тлумачэнне новага матэрыялу, замацаванне, заданне на дом". Планы паклаў на месца, а падручнік адважыўся прыхапіць з сабою.

У мой халодны і цёмны катушок гаспадыня дала каганец і папярэдзіла, што настаўніцкі паёк — два літры газы на месяц — я павінен аддаваць ёй.

Як крык аб ратунку, паслаў тэлеграмы і лісты ў Калінінскую вобласць жонцы, стрыечнаму брату — у Мінск, другу па лагеры — у Маскву, каб тэрмінова набылі і прыслалі мне неабходныя падручнікі. Пры афармленні на работу спагадлівы Цыбулька выдаў мне трохі грошай, гэтак званыя "пад'ёмныя", і я на першых парах неяк мог існаваць. У выхадны дзень праскочыў у Слуцк і там набыў з рук на рынку такія-сякія падручнікі. Жонка прыслала граматыку і падручнік, брат — арфаграфічныя слоўнікі, а маскоўскі друг Коля — каштоўнейшую "Историю русской литературы" Д. М. Овсянико-Куликовского. Я забыўся пра сон і спакой і стаў патаемным "завочнікам-другагоднікам". Многае ажывала ў памяці, засвойвалася адразу.

У дзесятым класе я затрымаўся на выратавальным Блоку. Неяк на ўроку спытаў, хто выразна чытае. Некалькі галасоў назвала Вову Шуміцкага. Я папрасіў яго прачытаць другі раздзельчык артыкула Блока "Искусство и революция". Падняўся запомнены з першай сустрэчы зграбны бялявы юнак і пачаў выразна чытаць. Раптам спыніўся на трэцім абзацы, пачырванеў, закашляўся: "Прабачце, далей не магу, нешта ў горле застрала". Я папрасіў яго суседа: "Прадоўжыце, Галоўчыц". І ён пачаў чытаць: "Учение Христа, установившего равенство людей, выродилось в христианское учение, которое потушило религиозный огонь". Пакуль чытаў Галоўчыц, клас прытоена маўчаў.

Пасля званка мяне праводзіў да настаўніцкай староста класа Яша Белкін. Я пацікавіўся, што здарылася з Шуміцкім. "Нічога. Ён сын мясцовага святара і сам веруючы. Таму не адважыўся нешта чытаць пра Хрыста". Я здзівіўся, што ў гэтым недагарэлым пасёлку няма царквы, а ёсць поп. Белкін расказаў, што ён ездзіць па вёсках, хрысціць дзяцей, правіць шлюбы, адпявае нябожчыкаў, у вялікія святы бацюшку прыслужвае Вова. Я стараўся і паўсловам не абразіць яго пачуццяў, павярнуць яго да атэізму.

Па ўсіх прадметах Шуміцкі вучыўся на "выдатна". Абклаўся падручнікамі і я і не шкадаваў сілы і часу рыхтавацца да ўрокаў. Завуч часам наведваў мае ўрокі, я стараўся ўкладвацца ў схему плана, а для завуча гэта было галоўнае, і ён пачаў мяне час ад часу пахвальваць.

Вайна выбіла ў Беларусі амаль усіх спецыялістаў. Таму загадвалі арыентаваць вучняў паступаць у інстытуты, тэхнікумы, на педагагічныя і фельчарскія курсы. Конкурсаў амаль не было. Класныя кіраўнікі мусілі раіць вучням, куды лепш паступаць. Большасць імкнулася туды, дзе хутчэй можна атрымаць хоць якую спецыяльнасць, каб узбіцца на свой хлеб. Вова Шуміцкі марыў пра медыцынскі інстытут, хацеў стаць доктарам.

Мой першы навучальны год закончыўся, усе дзесяцікласнікі здалі экзамены, Шуміцкі па ўсіх прадметах атрымаў "пяцёркі", марыў пра залаты медаль і медінстытут.

Пасля экзаменаў сабраўся педагагічны савет. Пра свой выпускны клас давялося дакладваць мне. Відаць, па наіўнасці, прэтэндэнтам на залаты медаль назваў круглага выдатніка Уладзіміра Шуміцкага. Сказаў, што ён марыць быць медыкам і з яго здольнасцямі з яго выйдзе добры доктар. Усталявалася доўгая напружаная цішыня. Узняў галаву і ўтаропіўся ў мяне здзіўленым поглядам дырэктар, заўсёды лагодны Іван Цімафеевіч. Пасля доўгай паўзы спытаў: "А вы падумалі, каго прапануеце на медаль? Хочаце нашу школу асарамаціць на ўсю рэспубліку, каб нас працадзілі праз густую марлю, абвінавацілі ў ідэйнай класавай слепаце? Думаць трэба, а вам асабліва". — У голасе дырэктара пачулася пагроза і напамін пра маю падмочаную біяграфію.

—Але ж ён усе экзамены здаў на "выдатна", паводзіны — узорныя, дапамагаў слабейшым, яго веды шырэйшыя за праграмныя. Па ўсіх гэтых паказчыках вучань мае права прэтэндаваць на медаль, — даводзіў я.

—І гэта вы гаворыце сур'ёзна? Гэта ж трэба дадумацца — сына папа сватаць на медаль, — аж прыўзняўся малады, з мноствам ордэнскіх планак на кіцелі ваенрук Міхась Адамавіч. — Так, так, так! — шматзначна пратататакаў ён. — Я зніжаю Шуміцкаму адзнаку па сваім прадмеце, а ён у наш час важнейшы за вашы "сцішкі". Адумайцеся, шаноўны, і больш не заікайцеся нідзе. Думаю, што і Павел Мікалаевіч знізіць яму бал па беларускай мове, бо ён жа ўвесь час гаворыць толькі па-руску, а хутка і на старасланскай загаворыць.

—Зніжаю на чацвёрку і я, — азвалася зіркатая і вастраносая "хіміца" Марыя Сідараўна.

Я да канца педсавета маўчаў, як мыла з'еўшы. Пасля педсавета ніхто з настаўнікаў са мною не загаварыў, нібыта я нешта зрабіў недаравальнае.

У свой катух я ішоў прыгнечаны і ўстрывожаны думкаю, што там, дзе трэба, будуць ведаць пра маю дзікую прапанову. І цяпер ужо можна ўсяго чакаць. На паўдарозе мяне дагнаў выкладчык беларускай мовы Павел Жук, малады, статны і прыгожы хлопец, нядаўні партызан і ўлюбёны ў літаратуру. Я здагадваўся, што ён піша вершы. Параўняўшыся, і ён неяк спагадліва папракнуў мяне за недарэчную прапанову.

—Я ж закон не парушыў, — апраўдваўся я, — мы павінны прапанаваць выдатніка, а начальства вырашыць, даваць ці не даваць медаль.

—Вы забыліся, хто яго бацька, — напомніў Павел Мікалаевіч.

—Яго ж бацька не злодзей, не бандыт, не вораг. Тым больш, што сам Іосіф Вісарыёнавіч сказаў: "Сын за бацьку не адказвае". Ён і сам вучыўся на папаў, а Ленін быў з дваран.

—Лёгка казаць, ды цяжка так рабіць, — адвітваючыся, сказаў Павел і звярнуў у свой вілясты завулак.

Пакуль гаварыў з добрым чалавекам, на душы было лягчэй, а на адзіноце апаноўвалі самыя страшныя думкі, хоць пасля ўсяго перапакутаванага нічога страшней не было. Але ж цяпер недзе ў Калашнікаве жылі жонка і дачка, я марыў, што вясною яны пераедуць да мяне. Што ж цяпер будзе, як выганяць з часовым пашпартам і без "грамадзянскіх правоў"? Куды тады падацца, дзе прыхінуць галаву, што чакае сям'ю, навошта завязаў ім свет? Суцяшала, што я выраўняўся: амаль усё ўспомніў, удасканальваўся па мове і літаратуры. Радавала, што мне даручалі рабіць даклады на метадычных канферэнцыях і нават інструктыўны даклад напярэдадні гадавіны з дня смерці Леніна. Тут я не паленаваўся: вывучыў вершы Маякоўскага, Палетаева, Дзям'яна Беднага, Веры Інбер. Асабліва трывожыла, што на апошняй парце сядзеў маёр раённага аддзела КДБ Ушакоў. Я ведаў, што ён асабліва цікавіцца мною. Ведаў я і свайго "стукача": ён, п'яненькі, у сталоўцы згубіў данос на мяне, а яго мне аддала афіцыянтка.

Здзівіла і суцешыла мяне, што пасля даклада Ушакоў падышоў і пахваліў маё выступленне. Гэтай дробяззю я наіўна цешыў сябе пасля памятнага педсавета.

Мне дазволілі адбіць сабе катушок у "жактаўскім" доме ў цэнтры пасёлка, сярод мноства зямлянак з удовамі і дробнымі дзецьмі бацькоў, сасланых "за супрацоўніцтва", за тое, што зараблялі пры немцах на хлеб на бровары, на чыгунцы, на смалакурні. Праз вуліцу, трошкі наўкасы ад маёй кватэры, быў прасторны, дагледжаны дом айца Івана Шуміцкага. За домам — вялікі ўрадлівы сад і ўзорны гарод, палісад красаваўся самымі прыгожымі вяргінямі, півонямі. мальвамі, настурцыямі. Святар быў нястомным працаўніком. Памагалі яму абодва сыны — мой вучань Валодзя і меншы Коля — зацяты футбаліст і завадатар у сваім шостым класе. З Валодзем нам часта даводзілася разам ісці дамоў. Ён больш распытваў, чым гаварыў, і толькі пасля таго трывожнага педсавета падзякаваў мне і прызнаўся, што ўвесь час марыў быць доктарам, ратаваць людзей, дапамагаць пакутнікам. "Што ж, цяпер мая мара засталася мараю. Тату свайго не вінавачу: ён робіць тое, у што верыць, і служыць сумленным людзям у радасці і ў бядзе. Ён людзям і мне на многае адкрыў вочы. А вам вялікі дзякуй за падтрымку. Не злуюся на ваенрука і Хромаву, што перакрылі мне дарогу ў медыцыну. Такая ў іх служба і несумленнае "сумленне". Каб не яны, нехта б другі сказаў тое ж самае. Хай ім Бог даруе".

Я пацікавіўся, адкуль ён ведае, хто і што гаварыў на тым педсавеце. "Нам усё вядома, пра што гавораць у настаўніцкай і нават дома. Настаўніцкія ж дзеці вучацца з намі. Наогул, у мястэчку нічога схаваць нельга — раскажуць, ды яшчэ прыхлусяць". Я маўчаў. На развітанне паклаў яму руку на плячо і суцешыў, што з талентам і яго працавітасцю ён свайго даб'ецца.

Дзякаваць Богу, навучальны год закончыўся. Напісаў і я характарыстыкі на сваіх вучняў, усе справаздачы, і пачаўся доўгі настаўніцкі адпачынак. Але ў райана не было грошай, і настаўнікі не атрымалі ні зарплаты, ні адпускных. Жылі на пазычках і спадзяваннях, а мясцовыя настаўнікі — на сваіх гаспадарках, часам нечым частавалі і нас. У іх былі добрыя гароды, бульбяныя соткі ў полі, садкі, кароўкі і парсюкі.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Юбілей даследчыка Віцебшчыны

**У Нацыянальным навукова-асветным Цэнтры імя Ф. Скарыны прайшоў "круглы стол", прысвечаны 150-й гадавіне з дня нараджэння Аляксея Парфёнавіча Сапунова (1851—1924). Аляксей Сапуноў усё сваё свядомае жыццё даследаваў амаль выключна Віцебшчыну і практычна ніколі не звяртаўся да іншых праблем. Адзіным выключэннем можна лічыць яго грунтоўную працу "Рака Заходняя Дзвіна". Яго постаць і багатая творчая спадчына яшчэ і сёння з'яўляюцца своеасаблівай візітнай карткай Віцебшчыны. Яму першаму сярод усіх беларускіх гісторыкаў далі персанальную пенсію (у 1924 г.), аднак з-за смерці атрымаць яе ён так і не паспеў.**

**У гэтым "круглым стале" прымалі ўдзел старшыня Археаграфічнай камісіі доктар гістарычных навук, прафесар Р. Платонаў, а таксама загадчык аддзела Скарынаўскага Цэнтра, доктар філасофскіх навук У. Конан, супрацоўнікі Акадэміі навук А. Кіштымаў, Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы, кандыдат гістарычных навук М. Шумейка, кандыдат гістарычных навук, намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводстве Беларусі У. Адамушка, працаўнікі беларускіх архіваў, Нацыянальнай бібліятэкі. Вёў пасяджэнне "круглага стала" намеснік дырэктара ННАЦ імя Ф. Скарыны, кандыдат гістарычных навук В. Скалабан.**

**У Беларусі некалькі гадоў таму выйшаў нарыс краязнаўца А. Падліпскага "Летапісец Віцебшчыны". Напісана кніга (на ўзроўні кандыдацкай дысертацыі) Людмілы Хмяльніцкай "Гісторык з Віцебска (жыццяпіс А. Сапунова)". Існуе невялікая вулачка Сапунова ў Віцебску.**

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстава кніг Аляксея Сапунова, выпушчаны канверт з маркай. У чэрвені ў Віцебску адбудуцца архіўныя чытанні, прысвечаныя 150-годдзю летапісца.**

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ,**
**супрацоўнік Скарынаўскага Цэнтра**

# СУСТРЭЧА З АРХІМАНДРЫТАМ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)*

Нарэшце ў канцы жніўня з намі развіталіся. Я аддаў усе свае даўгі, трохі акрыяў, а на душы было неспакойна — чакаў пачатку новага навучальнага года: утрымаюся ці турнуць. Не, пакуль што трымалі, даравалі і "медаліста" з брачком. Асабліва акрыяў духам, калі Вярхоўны Савет зняў з мяне судзімасць, калі атрымаў сапраўдны пашпарт, вайсковы і прафсаюзны білеты. За работу ўзяўся з вялікім імпэтам.

Радавала, што мае выпускнікі лёгка паступаюць у педвучылішчы, фельчарскія школы, каб хутчэй пачаць самастойнае жыццё і злезці з бацькоўскай шыі. Радавала, што тры мае хлопцы паступілі ў толькі што адкрыты Віцебскі медычны інстытут. Доўга нічога не ведаў, куды з'ехаў Валодзя Шуміцкі: блізкіх сяброў у яго не было — камсамольцы не адважваліся дружыць з папоўскім сынам. Уціхамірыўся і я. Адвучыў яшчэ год, прыехалі да мяне жонка з дачкою, далі нам двухпакаёвую хатку і жонцы пасаду матэматыка ў рускай сямігодцы. Здавалася, лепшага нічога і не трэба, каб толькі тут даседжаць да старасці: суседзі і знаёмыя паважалі нас і, чым маглі, дапамагалі.

Я ўпэўнена і з задавальненнем ішоў на ўрокі, ладзіў школьную самадзейнасць — спектаклі, літаратурныя вечары і віктарыны.

Сустракаючыся з айцом Іванам Шуміцкім, мы ветліва віталіся, перамаўляліся некалькімі будзённымі сказамі. Ад яго даведаўся, што яго Вова паступіў у Жыровіцкую духоўную семінарыю, правучыўся паўгода, захварэў, а цяпер вучыцца ў Ленінградскай духоўнай акадэміі. Вельмі задаволены вывучэннем моў, філасофіі і спецыяльных прадметаў. Я прасіў перадаць яму прывітанне, а айцец Іван падзякаваў, што я адзіны падтрымаў яго сына. Я пажартаваў: "А сам ледзь не апынуўся на вуліцы".

Я адвучыў яшчэ адзін год і адчуў грунт пад нагамі. Завёў такую-сякую гаспадарку, трохі апрануліся, каб быць хоць збольшага падобнымі на настаўнікаў, разжыліся на кароўку. Я тры тыдні касіў сена на куп'істым балоце аж у суседнім раёне, а дома шчыравалі з жонкаю на невялікім гародзе.

Але ў наш час, асабліва чалавеку, пазначанаму каінавай пячаткаю, нельга надоўга загадваць, нават зранку нельга спадзявацца на спакойны і шчаслівы вечар ці ноч. Я ўсё ж спадзяваўся на лепшае, бо за сабою не чуў аніякай віны. Але, але... У пачатку 1949 года пошапкам пачалі даходзіць трывожныя чуткі: у гарадах другім наваратам забіраюць раней ні за што пакараных. Зніклі і мае знаёмыя. Душу апанаваў непраходны страх, пачаліся бяссонныя ночы, гул машыны, тупат і галасы за вокнамі кідалі ў халодны пот, сэрца збівалася з рытму, здавалася, кроў закіпае ў скронях. Усё часцей у сельсавеце і ў школе з'яўляліся раённыя чэкісты ў цывільным, выклікалі вядомых мне "стукачоў". Работа пачала валіцца з рук, скончыліся мае натхнёныя ўрокі. Я часам збіваўся з ладу, забываўся самае элементарнае, рабіўся маўклівы ў настаўніцкай і пры сустрэчах з суседзямі, адчуваў, што спагадліва часам глядзяць на мяне вучні. Больш за ўсё баяўся звар'яцець. Хацелася паехаць у раён і прасіць начальніка ў блакітнай фуражцы, каб хутчэй забралі, бо найбольшы жах — чакаць непазбежнага. З'явіўся новы тэрмін: "паўторнікі" — паўторна ні за што забраныя. Відаць, берыеўская хеўра не чакала, што выжыве і вернецца з лагераў нямала жывых пакутнікаў і пачнуць пісаць хадайніцтвы аб рэабілітацыі, аднаўленні ў партыі, у вайсковых званнях і вучоных ступенях. Вось і вырашылі пазбавіцца ад надакучлівых хадатаяў: пасадзіць усіх, даць нагрузку следчаму апарату, калі знойдзецца зачэпка — адправіць назад, каб "не вякалі", а не знойдзецца нічога — саслаць навечна ў Сібір і Казахстан. Так і зрабілі: за некалькі месяцаў падчысцілі ўсіх і пайшлі эшалоны на Усход.

Прыйшла і мая чарга ў страшны для мяне дзень — 19 мая, напярэдадні першага экзамена ў дзесятым класе. Вучні чакалі мяне на кансультацыю, ды так і не дачакаліся: я ўпершыню не прыйшоў у прызначаны час. Я не ішоў, а мяне вялі мой знаёмы маёр Ушакоў і капітан з вобласці Шаўцоў. Праводзілі мяне жонка і чатырохгадовая дачка, цесць нёс маю арыштанцкую торбу. Суседзі з двароў, з веснічак, з вокан пазіралі на гэтую "працэсію". Што яны думалі, цяжка сказаць. Потым казалі мне, што прыдумак было шмат і самых неверагодных — шпіён, трацкіст, нацдэм. Большасць ведала, што часцей бяруць невінаватых, і я ж нікому і зрэнку не запарушыў.

Палутарка чакала мяне каля сельсавета, а вучні — праз вуліцу ў сваім класе. Як толькі мяне прывялі, усе вучні з майго і іншых класаў высыпалі на вуліцу. Спыняліся людзі, выходзілі са сталоўкі і магазіна. Глядзелі спагадліва і маўкліва, некаторыя вучаніцы плакалі. Калі я развітаўся са сваімі і перакуліўся праз борт у машыну, многія махалі рукамі і шапкамі, а я паспеў сказаць: "Я яшчэ вярнуся". Машына затарахцела па бруку, і ўсё знікла за шлейфам пылу. Маёр Ушакоў сеў побач са мною, загаворваў зубы і суцяшаў усю дарогу.

Так нікто і дагэтуль не ведае і не скажа, за што пасля лагернай "дзесяцігодкі" давялося мне яшчэ адмантуліць "сямігодку" па волі нейкай маскоўскай "тройкі", якая не чула і не бачыла мяне, хіба толькі на арыштанцкай картцы ў анфас і ў профіль з пяцізначным нумарам на грудзях. Так "паўторнік" завочна стаў вечным ссыльным у край вечнай мерзлаты. Давялося прайсці дзясяткі перасыльных турмаў, "сталыпінска-сталінскіх" закратаваных вагонаў ад Слуцка да Новасібірска, а далей — сотні кіламетраў у кузавах грузавікоў пад пільным вокам аўтамата да прытулку "навечна" ў доўгім таежным сяле, дзе свяціла газніца, а грэлі бляшаныя печкі.

Але гэта ўжо — другая старонняя гісторыя і не пра яе гаворка. Там я за сем гадоў стаў сталяром, цесляром, тынкоўшчыкам, печнікам, конюхам, лесарубам і аратым. Усё жыве ў памяці, як жахлівы і неверагодны сон, і вяртаецца ў трывожную памяць ледзь не кожную ноч.

Як толькі мы, дзякаваць Богу, "асірацелі" 5-га сакавіка 1953 года, знялі наморднік і з мяне, і ўсцешыла кожнага пакутніка новае ўсцешнае слова "рэабілітаваны". Ніхто не папрасіў прабачэння, не паклапаціўся пра далейшы лёс. Тыцнулі нейкую дробную "кампенсацыю", і распаўзліся недабіткі, куды каторы, шукаць сабе прыстанішча. Мяне адразу пацягнула на Радзіму. Мяне нічога не страшыла, бо нікому нічога благога не зрабіў, мог кожнаму глядзець у вочы, а "стукачыкі" туляліся і пазіралі ў дол.

Я вярнуўся, і праз нейкі час пацягнула ў Парэчча, каб спраўдзіць слова, сказанае з кузава нявольніцкага грузавіка: "Я яшчэ вярнуся". Вось праз восем гадоў і завітаў у адбудаваны на месцы зямлянак пасёлак, з дзвюма новымі школамі, клубам і пашыраным бровараам. Хацелася сустрэць маёра Ушакова, але, казалі, яго і след прастыў.

Затое сустракаў даўніх знаёмых, татаў і мамаў — маіх вучняў. Адны сталі настаўнікамі, другія агрраномамі, трое маіх першых выпускнікоў — урачамі. Усе запрашалі пагасцяваць у іхніх новых хатах. Я распытваў пра кожнага. Амаль усе мне з лёгкай зайздрасцю і здзіўленнем расказвалі пра Вову Шуміцкага. Ён стаў прафесарам багаслоўя Ленінградскай духоўнай акадэміі, мае высокі сан. Прыязджаў на ўласным "ЗіМе" і з уласным шафёрам. Адзенне на ім аж шапацела. Ахвотна сустракаўся з былымі настаўнікамі і аднакласнікамі. Пра сябе расказваў мала, болей распытваў былых сяброў.

Я парадаваўся за яго і падумаў, якім бы выдатным доктарам ён мог быць у якой-небудзь раённай бальніцы. Выходзіць, я дарэмна стараўся, сватаючы яго на медаль.

У Парэчча я заязджаў яшчэ разы два — шукаў заглушаную густым бэзам цэш-

# "Не шукайце за Чарнобылем Бога"

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 12)*

і ў 1697 годзе скасавана нават афіцыйнае функцыянаванне мовы. Нацыянальная эліта паступова перараджалася. А ў складзе царскай Расіі — тая ж нядоля. Не дапускалася ўжыванне беларускай мовы, як і нагул функцыянаванне нацыянальных інстытутаў, адраджэнне інтэлекту. Пацяпленне палітычнага клімату для беларусаў пачалося на пачатку дваццатага стагоддзя, калі была легалізавана мова і сталі выходзіць газеты "Наша Доля", "Наша Ніва", асобныя кніжкі...

Адкрытае выпраменьванне беларускасці ў друку, пэўныя зрухі ў асвеце, арганізацыя інфармацыйнага поля дазволілі неўзабаве хутка і жыва ўзняцца да грамадскага ўзроўню ды і кансалідавацца нацыянальнай інтэлігенцыі, настаўнікам, урачам, вайскоўцам. Яны пацягнулі за сабой на ўзровень грамады і інтарэсы тутэйшых. Як доказ таму — слуцкі збройны чын.

Усебеларускі з'езд, які адбыўся ў снежні 1917 года, як і Рада БНР, абраная ім, пакінулі выразны след у палітычнай прасторы, і, менавіта дзякуючы нацыянальнаму абуджэнню беларусаў, у студзені 1919 года бальшавікамі была дэкларавана дзяржаўнасць для тутэйшага люду, створана БССР. Інтэлігенцыя на той час штучна не проціпастаўлялася народу і не адслойвалася ад яго, як цяпер.

Але неўзабаве — новая згуба і трагедыя — амаль дачыста высеклі і замардавалі нацыянальную інтэлігенцыю. Народ залазвалі кулямі і голадам, турмамі, ссылкамі... Нарэшце, паступова дайшло да ліквідавання нацыянальных інстытутаў, — да пралетарызацыі, інтэрнацыяналізацыі, манкуртызацыі ўсяго складу насельніцтва БССР у складзе СССР. Гэта быў глабальны эксперымент над народам, яго мараллю, душой, псіхікай, калі галоўнай умовай раз і назаўсёды ставілася ўпакорыцца ўладам і славіць партыю. Дазвалялася жыць вытворчым, а яшчэ сямейным жыццём.

Хутчэй за ўсё адсюль і пайшло "абыдленне" як сацыяльная хвароба ў тагачасным грамадстве. Партыі патрэбна была цяглавая сіла. Адсюль, напэўна, і заўважаныя А. Казловічам "отморозки". Між тым сёння на сацыяльным фоне "вымаражаных" мы маем усе прыкметы грамадзянскай інфармацыйнай вайны, зацятай, шматпакутнай і часам смешнай.

Чарнобыльская катастрофа, ды нястача, ды роспач, адчай, як і ўжыванне гарэлкі і наш сусветны рэкорд пры яе ўжыванні — каля 10 літраў у пераліку на спірт у год на душу (не выключаючы немаўлят), дзявочае курэнне — усё гэта не магло не адбіцца на псіхіцы людзей. Наш народ, на вялікі жаль, апынуўся ў стане хворай супольнасці. А тут адбярыце яшчэ патрыятычную ідэю, адрэжце інтэлект, нацыянальную эліту... Уявіце сабе, які прэсны і ніякаваты кактэйль застанецца! Утворыцца тое, што мы сёння і маем, — дэфармаваныя "зялёным зміем" сямейныя адносіны і інтарэсы, страх высунуцца са сваёй зачэрхлай абалонкі, туга па "спакойным" мінулым... Постчарнобыльская імпатэнцыя і дзве трэці разводаў.

**— Вы часта бываеце ў чарнобыльскай зоне, на Гомельшчыне. Вашы апошнія ўражанні...**

— Цяпер я бываю там не так часта, як раней, калі вывучаў нявывучанае. Няма магчымасці, дый сродкаў тых вобмаль, каб памагаць тамтэйшаму люду. А без гэтага таксама нельга. Нядаўна ўпершыню за 15 гадоў у зону былі запрошаны міністры розных галін гаспадаркі. Часцей наварачваюцца туды і дзяржаўныя служачыя іншых рангаў. Гэта на іх сумленні ляжыць тое, што ў зоне з радыяцыяй ад 15 да 40 кюры на квадратны кіламетр усё яшчэ жывуць людзі разам з дзецьмі — усяго 140 тысяч чалавек. Ці гуманна гэта? І ці адпавядае сумленню і розуму тое, што з сельскагаспадарчага

## "Зямля з блакітнымі вачыма"




**У навукова-метадычным цэнтры вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь адбылася прэзентацыя дапаможніка для педагогаў дашкольных устаноў "Зямля з блакітнымі вачыма", які ў цудоўным афармленні выйшаў у выдавецтве "Беларусь".**

**На прэзентацыю прыехалі педагогі і метадысты з многіх дашкольных устаноў нашай краіны. Перад імі выступілі аўтары кнігі Разалія Александровіч і Тацццяна Нескаромная, якія расказалі пра сваю працу над дапаможнікам, падзяліліся планамі на будучае. На прэзентацыі прысутнічалі прадстаўнікі выдавецтва "Беларусь". Ад іх можна было даведацца пра тое, як афармлялася кніга і наогул як ішла праца з аўтарамі. Сваімі думкамі пра кнігу і яе значэнне ў выхаванні беларускіх дзяцей гаварыў рэцэнзент выдання Ігар Чарняўскі. Шмат цёплых слоў у адрас аўтараў кнігі і выдаўцоў было сказана і іншымі выступоўцамі, але ўсе сышліся на адным — "Зямля з блакітнымі вачыма" павінна стаць настольнай кнігай усіх, хто зацікаўлены, каб нашы дзеці з самага ранняга ўзросту маглі пазнаёміцца з краінай Беларусь, у якой і дзеля якой яны жывуць і будуць жыць.**

**Н. К.**

АРХІВЫ

# Сціплы чын музыканта...

***Шмат цікавых, а часам невядомых ці зусім забытых звестак з гісторыі беларускай культуры захоўваюць таямнічыя паліцы архіўных сховішчаў. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва — гэта памяць нашай культуры. Кажуць, шчаслівы той чалавек, якому ёсць што ўспомніць з дзяцінства... Гэтак жа і народ. Безумоўна, многае мы яшчэ прыгадаем, узновім у памяці, занатуем для нашчадкаў. Шматлікія рукапісы, лісты, дзённікі, запісныя кніжкі, фотаздымкі, дакументы творчых арганізацый не толькі даюць яскравае ўяўленне пра культурнае жыццё краю, знаёмяць сучаснікаў з важнейшымі гістарычнымі падзеямі, але і ўводзяць у атмасферу жыцця творчых асоб.***

Цікава пазнаёміцца з асабістым архівам Сяргея Сяргеевіча Аксакава, з дня нараджэння якога споўнілася 110 гадоў. Праўнук вядомага рускага пісьменніка-класіка С. Ц. Аксакава, кампазітар Сяргей Аксакаў нарадзіўся 7 студзеня 1891 г. у Самары. Сярэднюю адукацыю атрымаў у адной з прыватных гімназій Масквы, а вышэйшую — у Аляксандраўскім ліцэі ў Пецярбургу. У гады першай імперыялістычнай вайны Сяргей Аксакаў працаваў упаўнаважаным таварыства Чырвонага Крыжа ў Полацку, Рызе, Пскове, Самары і, нарэшце, у Харбіне. Тут жа ў 1918 годзе ён атабарыўся і пачаў педагагічную дзейнасць як выкладчык Харбінскай вышэйшай музычнай школы імя А. Глазунова.

Пра найбольш цікавыя моманты свайго жыцця С. Аксакаў пакінуў успаміны, якія і прапануюцца ўвазе чытача ў перакладзе з рускай мовы.

**"Я, зразумела, не памятаю свайго прадзеда — знакамітага рускага пісьменніка-класіка С. Ц. Аксакава: ён памёр у 1859 годзе, за 32 гады да майго нараджэння. Аднак яго светлы вобраз, не толькі як выдатнага пісьменніка, але і як чалавека, вядомага сваёй непадкупнай сумленнасцю, дабрынёй і любоўю да людзей, палымянага барацьбіта за справядлівасць, простага і дэмакратычнага ў асабістым жыцці — гэты вобраз заўсёды жыў у нашай сям'і і служыў пуцяводнай зоркай для ўсіх яго нашчадкаў. Памятаю, калі мне яшчэ было 5-6 гадоў, мая старэнькая няня вельмі часта гаварыла мне: "Ты, Сярожачка, будзь заўсёды такі ж, як твой прадзед, — а ён за ўсё сваё жыццё не сказаў ніводнага слова няпраўды!" І гэтыя словы простага чалавека на ўсё жыццё запалі ў маю душу. Мае свядомыя ўспаміны пачынаюцца толькі з 1901 года. У гэты час мая сям'я жыла ў Маскве, я вучыўся ў гімназіі і адначасова з вялікім захапленнем займаўся музыкай — па фартэпіяна ў прафесара К. М. Ігумнава, па кампазіцыі ў А. Ц. Грачанінава і па гісторыі музыкі ў Ю. Энгеля. Дзякуючы менавіта гэтым людзям я вельмі часта сустракаўся з многімі вядомымі людзьмі той эпохі. А. Ц. Грачанінаў некалькі разоў браў мяне з сабою на музычныя сходы да кампазітара С. І. Танеева, дзе я сустракаў Скрабіна, Метнера, Глазунова, Рахманінава, Гальдэнвейзера... У іншых дамах Масквы я сустракаўся з многімі знакамітымі артыстамі — з Максімавым, Шаляпіным, Масквіным і, аднойчы, з хваляваннем акампанаваў самому Собінаву.**

**Незабыўнае ўражанне зрабіла на мяне сустрэча ў 1909 годзе з пісьменнікам А. М. Талстым, на абедзе ў К. М. Ігумнава. А. М. Талстой быў вельмі абаяльным чалавекам і выдатным апавядальнікам. У гэты вечар ён усіх нас захапіў сваім апаведам пра новы раман, які ён тады толькі яшчэ планаваў: гэта была яго знакамітая "Аэліта".**

**Не магу не ўспомніць і пра сваё сяброўства ў тыя гады з А. А. Алехіным з якім мы разам вучыліся на працягу некалькіх гадоў у гімназіі. Як зараз памятаю яго мітуслівую хаду і заўсёды нервозную жэстыкуляцыю, памятаю яго на перапынках: ён вечна сядзеў на падваконніках і спешна рашаў якую-небудзь шахматную задачу. Аднойчы, у дні студзеньскіх канікулаў, калі ён быў толькі ў шостым класе гімназіі, будучы шахматны чэмпіён свету знік з Масквы. Заняткі ў гімназіі ўжо пачаліся, а яго ўсё не было. Дырэктар гімназіі быў не ў сабе і абвясціў, што калі Алехін вернецца, то ён яго звольніць з гімназіі. Але ж звольніць Алехіна з гімназіі ў яго не атрымалася, бо ён прывёз з сабою вазу, якую ён, Аляксандр Алехін, заваяваў у Гаазе на Міжнародным шахматным турніры ў якасці 2-га прыза. Між іншым, ён жудасна не любіў, калі яго называлі Алёхін і заўсёды гаварыў — "я — Алехін, а не Алёхін".**

**Ужо значна пазней, гадоў праз 25, мне ізноў пашчасціла сустрэцца з ім. Гэта было ўжо ў 1933 годзе ў Шанхаі, дзе я працаваў тады прафесарам Шанхайскай кансерваторыі і куды Алехін заехаў у час свайго чарговага шахматнага турнэ. Сустрэча была самая радасная. Алехін даваў у Шанхаі сеанс адначасовай гульні супраць 60-ці дошак і, зразумела, выйграў усе партыі, акрамя дзвюх нічых. І вось, памятаю, як пасля сеанса я зайшоў да яго ў гасцініцу. Алехін сядзеў у сябе ў нумары адзін і піў вялікімі чаркамі каньяк. "Што з табою?!" — спытаў я. "Туга!" — сумна адказаў Алехін і зноў выпіў. "Дадому хачу, — з адчаем прашаптаў ён, — у Расію!" І слёзы закапалі з яго вачэй. На другі дзень Алехін паехаў, і больш я яго ніколі не бачыў...**

**Маё ж асабістае жыццё склалася такім чынам, што пачынаючы з 16-га года я жыў у Кітаі, спачатку ў Харбіне, дзе працаваў у Харбінскай гарадской вышэйшай музычнай школе, а потым у Шанхаі, дзе каля 20-ці гадоў з'яўляўся прафесарам Шанхайскай дзяржаўнай кансерваторыі па класе фартэпіяна. Гэта была першая кансерваторыя ў Кітаі, заснаваная ў 1927 годзе. І зараз я з радасцю і з задавальненнем успамінаю сваіх шматлікіх таленавітых кітайскіх вучняў, з якіх вельмі многія займаюць цяпер кіруючае становішча ў музычным мастацтве Новага Кітая. Да гэтага перыяду майго жыцця ў Кітаі, пачынаючы з 1925 года, адносіцца, галоўным чынам, і мая кампазітарская дзейнасць: за гэтыя гады мною было напісана вялікае мноства твораў для сімфанічнага аркестра, для раяля, камернага трыо, шмат рамансаў ды іншае. Аднак усе гэтыя творы, нягледзячы на неаднаразовыя прапановы, я не аддаваў замежным выдавецтвам. Я іх захоўваў для сваёй Радзімы. І гэты час настаў. У 1954 годзе я, разам са сваёй сям'ёй, ізноў стаў жыць у сябе на радзіме, завяршыў сваю працу ў Кітаі".**

Так, кампазітар марыў вярнуцца. І яму пашчасціла двойчы. Ён не толькі сам вярнуўся дадому, але ж і змог падарыць, нарэшце, людзям свае творы. Вярнуўшыся ў Савецкі Саюз, Сяргей Аксакаў нейкі час працаваў кіраўніком тэарэтычнага і фартэпіяннага класаў музычнай школы г. Тара Омскай вобласці. А ў 1955 г. пераехаў у Мінск, дзе працягваў педагагічную працу ў Сярэдняй спецыяльнай музычнай школе пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Быў прыняты ў Саюз кампазітараў БССР.

**Таццяна ЛАПКОЎСКАЯ**

**АД РЭДАКЦЫІ.** **Пераехаўшы на Беларусь, С. Аксакаў актыўна далучыўся да нацыянальнай культуры, пісаў вакальныя цыклы і песні на вершы Я. Коласа, К. Кірэенкі, П. Прыходзькі, А. Ставера, І. Панкевіча, сімфанічныя, інструментальныя творы паводле сюжэтаў з паэзіі Я. Коласа, У. Дубоўкі, беларускага фальклору. Памёр кампазітар у 1968 годзе.**







*На здымках: сядзіба Аксакавых у былой Самарскай губерні; аксакаўскія мясціны (наваколле сяла Страхава); кампазітар Сяргей АКСАКАЎ (злева) і паэт Анатоль АСТРЭЙКА, 60-я гады.*



Мікола ШАБОВІЧ

## Прысвячэнні

*Эдуарду Акуліну*

*З гітарай ты,*
*напэўна, нарадзіўся,*
*З батлейкаю —*
*душою парадніўся.*
*Бярэ за сэрца музыка твая:*
*І "Крывія", і "Як яна і я".*

*Алесю Бадаку*

*Хоць не дабраў мо*
*трошкі росту, —*
*Дружыць з табою*
*кожны рад:*
*Не надрукуеш у "Бярозцы",*
*Дык возьмеш песню*
*ў хіт-парад.*

*Леаніду Галубовічу*

*Сярод паэтаў быў*
*ты ледзь не першы.*
*Чаму ж тады паставіў*
*крыж на вершах?*
*Чытацкі плач —*
*у Мінску і ў глушы:*
*"Пішы хоць прозу!*
*Зацемкі пішы!"*

*Нілу Гілевічу*

*Хоць і "няўсцерп*
*нам крыж пакут",*
*Аднак заўжды*
*Гілевіч — тут.*
*І скрушна быць*
*яму сам-насам*
*З радком,*
*Радзімаю і часам.*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ —** *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН —** *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП —** *першы намеснік галоўнага рэдактара*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2865
Нумар падпісаны ў друк 26.4.2001 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2357

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12